Аляксандар І. Бацкель

# МІМІКРЫЯ

***Дасьледаваньне чатырох стыхій на прыкладзе чатырох летуценьнікаў***

Раман

Ковчег
Мінск
2013

УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)
Б17

**Бацкель, А. І.**

**Б17** Мімікрыя. Дасьледаваньне чатырох стыхій на прыкладзе чатырох летуценьнікаў: раман / Аляксандар І. Бацкель. – Мінск: Ковчег, 2013. - 194 с.

**ISBN**

Кніга Аляксандра І. Бацкеля – раман-мімікрыя. Раман, які хоча здавацца раманам. Кніга пра стыхіі і пра чатырох летуценьнікаў. Раман аб кніганошах, пра каханьне, пра літаратуру, пра магічнасьць нашага жыцьця. Пра Менск і яго жыхароў. Пра свабоду і адчай. Пра адзіноту, хваробы, вагонь, пітво. "Мімікрыя" – даніна творцам, якія паўплывалі на стварэньне сьветапогляду аўтара: Бэрталучы, Віян, Набокаў, Кафка, японская манга, літаратурныя экспэрымэнты Бэроўза і Томпсана. Гэтая кніга зазірае ў сьвет тых, хто жыве па-за грамадствам, соцыюмам і не імкнецца да яго далучацца, а хутчэй наадварот, пратэстуе супраць усяго будзённага, усяго масавага. Героі самі ствараюць сваё атачэньне, самі робяць яго такім, якім жадаюць бачыць, будуюць міты й казкі, містыку й вусьціш уласнага існаваньня, перамешваючы жыцьцё зь літаратураю й гульнямі вакол слоў.

УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)

**ISBN**

## ПРЭЛЮДЫЯ

Ад самага нараджэньня мы ўсе былі па-вар’яцку зачэпленыя за кнігі, мы іх елі, пілі, чыталі, гарталі, мы пра іх гутарылі, вывучалі біяграфіі пісьменьнікаў, палілі й ганьбілі графаманскія опусы, мастурбіравалі пад пахабныя сцэны, дзівіліся тэгам, шрыфтам і абзацам, бачылі сьненьні, дзе пісалі грандыёзныя раманы, як Джойс, Кафка, Бэроўз і Букоўскі, Элінэк і Мілер, Набокаў і Гамсун… Мы расьлі недзе на ўзбочыне, і пакуль нашыя аднаклясьнікі й аднагрупнікі шалёна мянялі адны мадэлі мабільных тэлефонаў на іншыя, сачылі за выхадам чарговых Кіндлаў, мы зьбіралі па сваіх запыленых кватэрах кнігі, пакутуючы на алергію, пахмельле й пякотку. Мы былі й ёсьць сапраўднымі кніганошамі, змарнелыя, сапрэлыя, схуднелыя, высмаглыя, вытанчаныя, звар’яцелыя, шалёныя, брудныя, шчасьлівыя, напітыя, наку-

раныя, укураныя, напампаваныя кнігамі, сшыткамі, запісамі, энцыкляпедыямі, слоўнікамі, нататнікамі, натхняльнікамі, мы ёсьць крыніцамі, мы ёсьць рэкамі, мы ёсьць ператварэньнямі, мэтамарфозамі, аўтацытатамі сваіх дзеяньняў, мы – кнігаморфныя стварэньні, стыхіяморфныя істоты, антрапаморфныя Вялесы, шалёныя на пошук адказаў, шалёныя на колькасьць пытаньняў. Сьляпыя рамантыкі, якім здаецца, што літаратура й мастацтва выратуе сьвет. Летуценьнікі, гатовыя аддаць свае сэрцы, занадта блізкія адно аднаму, каб мець сапраўднае каханьне, каб жыць разам; звышсям’я, якая больш не выносіць уласных дачыненьняў.

Людзі навокал, абвыклыя карыстацца ісьцінамі з кніг, звыклыя жыць паводле ўжо напісанага, ня здольныя былі разглядзець нас, тых, хто сам сабе прыдумляў жыцьцё, хто сам сабе пісаў сваю кнігу, свае ўласныя правілы. Мы былі схаваныя, нябачныя, і такімі засталіся, але мы жывыя, і гэта робіць нас шчасьлівымі, бо жывыя мы па-сапраўднаму, як яшчэ ніхто ў гэтым сьвеце.

# ДОЎГІЯ ВАЛАСЫ, ЗАЛАТЫЯ ВАЛАСЫ

Доўгія валасы, залатыя валасы, іх лашчыць вецер, лашчыць, хвалямі пускае па сьпіне, кранаецца сваімі вуснамі пасмаў, вецер закаханы ў гэтыя валасы, ён толькі дзеля таго й зьявіўся тут, у лесе, дзеля таго, каб пагуляцца зь імі, разьнесьці іхны пах па прасторы ялінаў… але ветру гэтага мала, ён кранаецца павекаў, танюткіх, гнуткіх, доўгіх павекаў, ён лёгкім фэнам лашчыцца да маленькіх вушак, кранаецца чырвоных вуснаў, датыкаецца да носа, трапляючы ў лёгкія… вецер перабірае вопратку, варушыць вязаны швэдар, спускаецца да спадніцы ў буйныя трускаўкі, лёгка праходзіць між мяккіх чаравікаў і зьнікае ў траве, вецер – нябачная стыхія, вецер лёгкі, узбуджаны, танюткі, далікатны.

Маладая дзяўчына аддавала перавагу натуральным тканінам, ніякіх штучных фабрычных адзеньняў, хлопка-

вые блюзкі, толькі прывабныя “цінтабрасаўскія” спадніцы й сукенкі, швэдары й вадалазкі, чаравікі… торбы з натуральных тканін.

Інэса зьнерухомела, яна глядзела скрозь дрэвы і пра штосьці ўтрапёна думала, зморшчынкі між бровамі казалі пра тое, што яна нешта ўспамінае, пакуль двое яе дзяцей корпаюцца між чарніцаў і, паядаючы сьпелыя ягады, гарэзьліва перакідваюцца гумовым мячом.

Інэса не зьяўлялася ў гэтым лесе з старэйшых клясаў, з тых самых часоў, калі, здавалася, яна была ўжо вельмі дарослая і жыцьцё было дасьледаваным. Яе не было ў гэтых мясьцінах з таго часу, калі ў ейным жыцьці акрамя кніг зьявіўся малады хлопец.

Дзеці знайшлі гняздо, дакладней, яго кавалак, напэўна, перапёлкі ці яшчэ якой птушкі. Малодшы, Глебушка, кліча: “Мама, мама! Мы гняздо знайшлі, і тут нават шкарлупка ад яйка!” Старэйшы, Міхаська, тыцкае ў гняздо ўказальным пальчыкам. На дваіх ейным дзецям адзінаццаць год – шэсьць аднаму, пяць другому. Інэса глядзіць на рэшткі гнязда.

– Гэта старое раскіданае гняздо, кіньце яго! – кажа Інэса й прысядае долу да кошыка, каб дастаць дзецям бутэрброды.

*Павeтра*

Інэса! Інэса! Інэс, ну куды ты?! – крычалі аднаклясьніцы, калі дзяўчына бегла ў бок лесу. Якія гульні?! Не да іх, дамоў трэба пасьпяшацца, там малы брат, малая сястра, маці. Усе вечна галодныя, халодныя, неахайна апранутыя, няшчасныя… Інэса пераадольвала сем кілямэтраў ельніку, зьмяшанага зь бярозамі, соснамі, яна праходзіла напрасткі скрозь лес да сваёй вёскі, бо так было ўдвая хутчэй. Хлопца ў яе

не было, а значыцца, і праважатага, дый яна ж не заставалася з аднаклясьнікамі, каб увечары баязьліва прадзірацца праз змрочную расьліннасьць. Інэса цалкам аддавалася сям’і й мары, што калісьці яна будзе вучыцца ў сталіцы на біёляга, альбо, можа, стане дызайнэрам адзеньня, альбо знакамітым фатографам.

Яна вельмі любіла прыгожыя сукенкі, вязаныя швэдары, саколкі і апраналася нетыпова для сваіх аднагодак, быў у ейным адзеньні нейкі адначасова і стыль, і парадак, штосьці эклектычнае, наватарскае, адметнае – сукенка ў кветкі, зьверху вязаны швэдар, белыя шкарпэткі пад басаножкі, шалікі, торбы й торбачкі, розныя сьмешныя “гаджэты” кшталту ангельскіх булавачак і рознакаляровых гузікаў па суседзтве з бабулінай брошкаю – Інэса, як магла, упрыгожвала сваё жыцьцё. Вядома, сярод аднавяскоўцаў і аднаклясьніц, якія вучыліся ў гарадзкім пасёлку, было лёгка вылучацца, выбівацца стылем, але Інэса відавочна дала б фору каму заўгодна і з гарадзкіх.

Інэса, як звычайна, ішла паўз лес, павязаўшы на плячах вязаны бабулін карычневы швэдар зь вялікімі драўлянымі гузікамі ды ўзорам, сьплеценым залатымі й чырвонымі ніткамі. У руках – стары фотаапарат ФЭД-3, які яна знайшла закінутым у старым сэрванце. Інэса дзівілася колерам лесу, рабіла фотаздымкі й нясьпешна шпацыравала дахаты. Яна любіла гэтыя часіны, калі заставалася *паміж* – недзе ў сярэдзіне дня, у сярэдзіне існаваньня, пасьля школы й перад домам, калі яшчэ магла свавольнічаць, гультаіць, калі на плечы не пасьпелі абрынуцца побытавыя клопаты, пасьля якіх настане ноч, і толькі тады яна, лежачы ў ложку паміж братам і сястрою, нарэсьце застанецца на самоце – з кнігаю Дзюма, Булгакава, Гюго альбо Чэйза. Сьвятыя начныя чытаньні, паглынаньні слоў, мары, разважаньні.

Дзяўчына жыла адным жаданьнем: зьмяніць сваё жыцьцё, зьмяніць яго як мага хутчэй, пакінуць невыноснасьць быцьця на каго заўгодна, але скінуць цяжар матчынага дагляду, скінуць зь сябе вясковы побыт, мокрыя й брудныя азадкі сваіх малодшых брата й сястры, якія трэба часта пераапранаць… памяняць свае завіханьні ля печы й пліты на юнацтва, на шчасьце, на зьдзяйсьненьне сваіх мараў.

Раптам яе аб’ектыў выхапіў на спарахнелым пні штосьці напаўкруглае й шэрае, яна прыбрала фотаапарат ад твару й пабачыла раскіданае гняздо невядома якой птушкі. Ад гнязда засталіся толькі кавалкі, пад пнём, унізе, былі аскепкі яйкаў, Інэса сфатаграфавала й пасьпяшалася дадому.

“Альбо зьвер, альбо чалавек”, – падумала Інэса ідучы празь лес. На сёньня заплянавана закатка агуркоў і, напэўна, праполка фасолі, потым дзецi, потым урокі, потым ноч.

*Паветра*

Да такіх дзяўчат, як Інэса, хлопцам заўсёды цяжка падыходзіць знаёміцца, не кажучы ўжо пра спадзяваньні на ўзаемныя пачуцьці. Інэса быццам заўсёды выглядала дарослаю й незвычайнаю, як быццам марсіянка, да таго ж яна была вельмі прыгожай… Шмат аднаклясьнікаў даўно ўжо сохлі па ёй, паглядаючы на яе з задніх партаў падчас урокаў, цяжка ўздыхаючы й адчайна штурхаючы суседак, якія, блытаючы іх адчай з хлапчуковым каханьнем да іх, сьмяяліся, чырванелі й давалі здачы падручнікам па галаве альбо штурхалі іх у бакі… Гармонія, можна сказаць. Ва ўсіх была свая гармонія.

Аднойчы з суседняй вясковай школы прыйшла вялікая кампанія старшаклясьнікаў, усе як на падбор выглядалі няўдалай сумесьсю стылягаў з панкамі. Хлопцы – стараліся

выглядаць “дагледжанымі”: некаторыя былі апранутыя ў чорныя выцьвілыя байкі з вострымі капюшонамі і клёш, які акурат амаль хаваў іх кеды, ва ўсіх валасы былі занадта доўгімі, зачасанымі назад і набок, скроні выгаленыя, на запясьцях віселі гумовыя бранзалеты, утыканыя бліскучымі шыпамі. Няголеныя – асноўны колер – чорна-шэры. Хлопцы былі п’яныя, кожны зь іх трымаў у адной руцэ пакет альбо торбу з бутэлькамі алькаголю й хлебам, а ў другой – па цыгарэце “Беламорканал”, бо гэтыя цыгарэты было лёгка набіваць травою. Ад іх патыхала варожасьцю, брудам, чымсьці дзікунскім, цёмным, яны здаваліся ператварэньнем мясцовых бажкоў, пра якіх даўно запамятавалі за часамі праваслаўя, і тыя, каб павесяліцца, пераапрануліся ў такіх варя’цкіх боўдзілаў, адкапаўшы адзеньне невядома зь якой эпохі.

– Эй! Гэй, ты! – загарлаў адзін з панкаў у бок Інэсы, якая сьпяшалася да сваёй звычайнай лясной сьцяжынкі. – Пачакай, куды пабегла!

Гэтым разам аднаклясьніцы ня клікалі Інэсу, атачаныя бруднымі нетутэйшымі хлопцамі. Яны на той час думалі толькі пра тое, каб усё было добра, каб іх ніхто не чапаў, а напалоханыя мясцовыя кучкаваліся й трымцелі на рагу школы, паціраючы спатнелыя далоні аб свае чорныя й сінія пінжакі са школьнага гарнітуру, на якіх зь левага боку былі прычэпленыя розныя значкі, ці то з савецкіх часоў, ці то сучасныя.

– Дык чакай жа! – Адзін зь немясцовых нагнаў дзяўчыну акурат перад самым лесам. – Ты куды? Дадому?! Магу я цябе правесьці?

Інэса спачатку спужалася, але потым пачырванела й паскорыла хаду, яе ўпершыню дадому праважаў хлопец, няхай і такі брутальна неахайны, але ж… Інэса за колькі

сэкунд агледзела праважатага: вочы блакітныя, над верхняй губою юнацкі пушок, падобны да вусаў, валасы доўгія, скроні паголеныя, кашуля белая зь сінімі васількамі й бруднымі плямамі, кароткія рукавы, рукі амаль па локаць у нейкіх фенечках, джынсы, з-пад якіх праглядаюць начышчаныя гуталінам вайсковыя боты. Інэсе хлопец спадабаўся праз сваю жвавасьць, праз палкасьць і моц, яна крыху запаволіла хаду й вырашыла зь ім пагутарыць.

– А цябе як завуць?

– Юра.

– А што ж ты, Юра, ня ў школе ці не ў хабзе? Што, двоечнік, прагульшчык, выгналі, напэўна! – Інэса звонка засьмяялася і паскорыла крокі.

– Эй! Э! Чаго ты адразу так, дво-о-о-ечнік! Можа быць, я ўжо пасьпеў адвучыцца, у адрозьненьне ад некаторых! Дарэчы, як цябе завуць?

– Інэса.

*Паветра*

Гэта быў ліпень, сьпякотны, ліпучы ліпень, калі й ноччу й днём аднолькава горача. Быў той самы месяц, калі хочацца быць аголеным, хочацца скінуць скуру, быць распранутым да нутра, бо трываць гэты летні вагонь няма моцы.

Інэса ляжала ў жытнёвым полі, яна была добра схаваная прыродаю ад усяго на сьвеце, яе сьпіна адчувала вострыя паламаныя парасткі, якія былі пакрытыя выцьвілай покрыўкай.

Скінуўшы танюткую сукенку, зьняўшы белыя майткі, аголенымі грудзямі ўгору, да аблокаў, сарамліва прыкрыўшы рукамі залацістае ўлоньне, Інэса ляжала з заплюшчанымі вачыма й адчувала пальцамі вільгаць, яна лавіла кожным

міліметрам сваёй скуры гарачыя пацалункі Юры, які, цалкам распрануты, падставіўшы сонцу сваю сьпіну, цалаваў яе паўсюль, куды траплялі вусны, ён лёгка кранаўся яе салёнай пэрсікавай скуры языком, лашчыў ружовыя смочкі, падобныя да каштанаў, танюткую шыю, на якой пульсавала вэнаручаінка.

Час быў спынены. Не існавала нічога, акрамя асалоды, пяшчоты, вецер суцішыўся, не было ані ластавак, ані каўкаў, ані жаўрукоў, толькі неба, белыя пухнатыя аблокі й сонца, сьпякота й два агаленыя целы, нітачкі поту, звонкія пацалункі і неспатольнае жаданьне, чаканьне адкрыцьця сакральнага, калі праз хвіліну цнатлівасьць станецца мінулым. Паветра ператварылася ў густы зэфір, які чакаў пачатку новага сьвету, новага жыцьця, бачаньня іншымі вачыма, вачымі людзей, якія перайшлі мяжу.

Юра кранаецца рукою яе похвы, сярэднім пальцам пранікае ўнутр, Інэса зьбянтэжаная, спалоханая, ёй адначасова вусьцішна й цікава, крыху балюча й жадана, яна ўсё яшчэ прыкрывае рукамі свой юнацкі трохкутнік, яна глядзіць Юры ў падбародзьдзе, яе вочы вялікія-вялікія, празрыстыя, перад ёю той самы чалавек, мужчына, якому яна аддаецца, якому яна давярае, якога будзе ўсё жыцьцё памятаць, кахаць, жыць зь ім.

Юра больш ня здольны трываць доўгі пэтынг, ён такі ж спалоханы, як і Інэса, ён зьбянтэжаны сваім першым разам, але прырода перамагае ўсе страхі.

Імгненьне – і Інэса спачатку ўскрыквае, але боль зьнікае, і ў яе з вачэй пачынаюць цячы сьлёзы… празрыстая вільгаць шчасьця, каханьня, радасьці, сьлёзы яднаньня, непаўторнага й сьветлага, адзінага, цэлага. Не існуе больш нічога, акрамя асалоды, акрамя сьвятога каханьня, толькі

золата жыта вакол, сьпякотнае сонца, вільготныя целы, і вакол пах поту й сэксу.

*Паветра*

Інэса інтуітыўна адчувала, што пасьля страты цнатлівасьці яна ня проста ўвайшла ў сьвет новых поглядаў і іншых стасункаў. Яна адчувала, як дзіўна зьмяніўся ейны арганізм, зусім ня так, як мусіў. Але ці ведала яна дакладна, як ён мусіў трансфармавацца. Той факт, што яна мэнтальна пасталела, ні пра што не казаў, яна й раней пачувалася больш дарослаю й сьвядомаю за аднагодак, але яна адчувала зусім інакш, чымсьці ўнутраным, што яе цела пачало жыць па іншым раскладзе. Яе цела пачало гадаваць новае жыцьцё.

І толькі калі затрымка зь месячнымі зацягнулася на чатыры тыдні, яна зразумела, што гэта ня проста гарманальны збой ад пачатку полавага жыцьця.

Цяпер старая прасьціна, скручаная ў некалькі слаёў – самаробная пракладка – эканомія на васьмі боханах чорнага хлебу – надоўга ёй не спатрэбіцца. Мясцовы фэльчар пацьвердзіў яе падазрэньні.

Юра апынуўся перад прыняцьцем цяжкага рашэньня, і ён, нэрвова гайдаючыся між “быць альбо ня быць”, першы й адзіны раз у жыцьці зрабіў мужчынскі ўчынак – узяў шлюб. Потым, у будучыні, колькі чаго б ні здаралася, здавалася, што Юра гэтым адным рашэньнем вычарпаў увесь свой запас рашучасьці, але й гэты шлюб не выглядаў чымсьці сапраўды вольным, шчасьлівым і жаданым, гэта быў шлюб падлеткаў, юнакоў, малых дзяцей, якія, нашкодзіўшы, панесьлі пакараньне і толькі, бо ніхто зь іх ня ведаў жыцьця.

Усе сваякі жаніха люта ўзьненавідзелі Інэсу, бо менавіта яна “паламала жыцьцё іхняму старэйшаму сыну,

брату, унуку”! Юра ж, кветачка такая, толькі сабраўся з розумам, толькі накіраваўся ў вялікі горад вучыцца ў Машынабудаўнічым тэхнікуме, а тут на табе, падвязалася яхідна на яго хударлявую шыйку, і не адна ж падвязалася, дзіцё камянём павесіла! Ніхто са сваякоў Юры нават не задумваўся аб тым, што Інэса праз сваю цяжарнасьць губляла значна больш за Юру! Яна губляла дзяцінства, юнацтва, яна губляла мары пра працу й жыцьцё, яна губляла колер.

Вясельле, як звычайна гэта прынята ў вёсках, адзначалі зь вялікім сталом і пілі цэлай вёскай, нават палова суседняй была, потым біліся, потым мірыліся, плакалі й крычалі “горка!”. Фатографам быў Барыс, які па-заліхвацку шчоўкаў усіх на “мыльніцу”. Інэса ўсьміхалася, потым танчыла, потым плакала.

На наступны дзень пачалі прыбірацца, шукаць прапітыя целы вакол стала й мясцовага вадасховішча. Барыс усе фотастужкі прадаў кузыне Юры, якая праз колькі дзён раздрукуе іх і там, дзе ёсьць выява Інэсы, павыкалвае той выяве голкаю вочы. Кузына, якая любіць сваго Юру, як роднага брата, нават больш за брата, не прабачыць тое, што аб’ект яе любові быў так зарана адарваны ад сям’і. Але што там гэтае жыцьцё – сьмецьце, недапалак, нішто.

*Паветра*

Юрку майго ў армію забяруць, калі нідзе вучыцца ня будзе! Але ж як ён куды пойдзе вучыцца, калі тут жонка зь дзіцёнкам! Як? Як, скажыце?! Як мой Юрачка, мой бегемоцік, здолее вучыцца, калі яму працаваць трэба, гадаваць дзіцёнка!

Звычайна сваякі Юры толькі жаліліся й пакутвалі праз сваё жыцьцё. Бог праклінаўся імі, д’ябал таксама, анічога сьвятога, аніякай падтрымкі. Юру ў армію не забралі, ён

пасьпеў зрабіць яшчэ аднаго дзіцёнка Інэсе. Яшчэ аднаго хлопчыка.

Юра ня здолеў штосьці памяняць. Калі раней ён заставаўся зь Інэсаю празь яе залатыя валасы, яе неверагоднае адзеньне, празь ейны малочны пах і ружовыя, шаўковыя смочкі, праз рысавае цела, то цяпер яго палохаў дзіцячы плач… Ён ператвараўся ў няўдалага, сарамяжлівага, мяккага мужчыну, якога называюць памяншальна-ласкальна, як пры царах называлі розных ёлупняў і блазнаў, людзей, якіх было шкада, але ад якіх нічога не патрабавалі, бо яны лічыліся няўдачнымі чалавечымі няўдахамі, вось і Юра праз п’янства ператварыўся ў Юрку, таго самага Юрку, якіх на Беларусі па асобніку ў кожным двары. Ён стаў тым самым юродзівым, якога так любяць абмяркоўваць, шкадуючы ды прыгаворваючы: “Божачкі, Божакі, што ж гэта робіцца, такі хлопец быў… Вось жа баба зьвяла!”

Інэса нарадзіла другога сына, падзякавала Юрку за дзяцей, за шчасьце, за любоў, прабачыла яму ўсё на сьвеце, набіла валізу дзіцячымі рэчамі, узяла колькі кніг і зьехала ў Менск. Як была, так і зьехала, загадзя нічога не плянуючы.

Гэта быў адчайны ўчынак: Інэса зьехала да сваёй цёткі, якая на той час, нягледзячы на даволі распусны лад жыцьця, была вельмі добраю, чыстаю й ветліваю і вельмі любіла сваю пляменьніцу, лічыла яе дачкою, бо сваіх дзяцей ня мела.

Гэта быў вялікі ўчынак. Інэса ўладкавалася прадавачкаю ў суседнюю краму і пайшла ў вячэрнюю школу.

### *Паветра*

Горад жыў сваім жыцьцём, і той факт, што Інэса прыехала й спрабавала жыць сярод яго архітэктуры, дамоў, крамаў, жыхароў, яго асабліва не цікавіў. Горад выглядаў абыяка-

вым, але ён завабліваў сваімі ліхтарамі, магчымасьцямі, ды як толькі чалавек паддаваўся спакусе й пераяжджаў, горад адразу на яго забываўся.

Цётка вадзіла дадому па выходных жаніхоў, Інэса злавалася, сыны плакалі й прасілі есьці, сумавалі па маці, калі той не было дома, сумавалі па ёй, нават калі была… Дзеці, дзеці, дзеці… Брудныя анучкі, пухлыя пальчыкі, бяссоныя ночы, ружовыя шчочкі, несуцешныя плачы, беленькія попкі, грошы на кашкі й пюрэшкі, залівісты сьмех – бляск у вачох! Як іх не любіць, як не знайсьці дзеля іх вольную вячэрнюю гадзінку для гульні, хай пасьля цяжкай працы й вячэры, як?!

Праз тры месяцы й пяць дзён у горад па дачку прыехала маці і, пакуль Інэса была на працы, а цётка недзе бегала па справах, забрала Міхаську з Глебушкам зваротна ў вёску, з тым разьлікам, што Інэса сама прыедзе па дзяцей і застанецца.

Так і здарылася. Цётка раўла на суседку, што тая аддала дзяцей, Інэса зьбірала клункі, нэрвова бегаючы па кватэры… Праз паўгадзіны: таксоўка – аўтобусны вакзал – вёска.

Такім чынам Інэса вярнулася на сваю малую радзіму і зноў захрасла ў безвыходным становішчы, перад адчыненаю пашчаю быта, які лёгка заглынаў такіх страйнюткіх, танюткіх дзяўчын, выплёўваючы іх праз гады пакамечанымі, апухлымі, непрыгожымі.

Юрка ізноў пачаў кружляць вакол яе, паводле штампу ў пашпарце ўсё яшчэ штосьці патрабаваў, гучалі нейкія цьмяныя абавязацельствы, клятвы.

Інэса на гэта не зважала, яна сварылася з маці й гадавала Міхаську з Глебушкам, якія на той час былі суцэльным арганізмам паяданьня, плачу й забруджваньня пялёнак.

Жыцьцё цалкам адмаўлялася ад таго, каб даць Інэсе нейкі шанец на шчасьце. Неўзабаве яна сур'ёзна задумалася пра самагубства, бо двое дзяцей – гэта нішто ў адрозьненьне ад: а) дурнога мужа, якому немагчыма адмовіць, бо ёсьць шанец быць пабітаю; б) дурной маці, якая лічыць, што дачка мусіць ва ўсім дапамагаць ёй па гаспадарцы ды любіць свайго гаспадара.

Аднойчы Інэса, каб неяк адчуць хоць каліўца патрэбнай ёй волі, кінула дзяцей на маці, якая яшчэ спала, і выправілася суботняй маршруткай, якая хадзіла ейнымі мясьцінамі раз на раніцу, у Менск.

Яна прабадзялася па вуліцах да вечару, слухаючы свае ўласныя думкі, а не чужыя, атрымліваючы асалоду ад звычайнага шпацыру, купляючы танную каву й фатаграфуючы выпадковыя мясьціны. Што яшчэ трэба маладой дзяўчыне ў вялікім горадзе?

Так, бадзяючыся й адпачываючы, Інэса натыркнулася на будынак з аблупленаю тынкоўкаю й надпісам на шкле "Мастацкая галерэя", побач з вакном, на драўляных дзьвярах вісеў плякат, які паведамляў аб адкрыцьці першай пэрсанальнай выставы маладога мастака Вітаўта Кранаса, які спалучае ў сваіх працах экзыстэнцыяльную прысутнасьць рэчаў праз спаленьне іх вонкавай абалонкі. Зацікавіўшыся незразумелым тлумачэньнем на плякаце, Інэса вырашылася завітаць.

Інэса зайшла й пабачыла вакол процьму людзей, журналістаў, фатографаў, і шмат невядомых спаленых рэчаў, нейкіх, здавалася, крэслаў, зэдлікаў, габэленаў; уся выставачная прастора была застаўленая гэтымі рэшткамі, і ў прасторы лунаў водар духмянак, зьмяшаны з пахам гарэлага дрэва.

Інэса зацікаўлена хадзіла між людзьмі, скраем вуха выхопліваючы словы кшталту “новы выбух”, “жыцьцё пасьля агню”, “сьвежы позірк”, “немагчыма ўявіць”… Ёй не зусім зразумела, што тут адбываецца, але гэта прыемна, калі сярод натоўпу ты быццам бы свой і чужы адначасова.

Раптам яна трапіла ў невялічкую кампанію, якая трымалася крыху падалей ад агульнай колькасьці гасьцей, і аднaчасова пабачыла стол з чырвоным і белым віном.

– Прабачце, мадам, калі вы па журналісцкай справе, то крыху пазьней, – прамовіў малады чалавек, хударлявы, бледны, зь вялікімі вачыма й доўгімі пальцамі, быццам намаляванымі Эгонам Шыле.

– Не, прабачце, я тут не па справах. – Інэса пасунула фотаапарат, які вісеў на правым плячы, крыху за сьпіну. – Я тут падарожнічаю, выпадкова завітала.

– А, ну то добра, можаце з намі, калі хочаце, выпіць віна. У нас няма асаблівай ахвоты варыцца сярод натоўпу. – Малады чалавек працягнуў Інэсе келіх зь віном.

– Добра. Дзякуй, у мяне пакуль ёсьць, – адказала Інэса й паказала на плястыкоўку з чырвоным віном, якая амаль цалкам хавалася ў левай далоні. – Я з вамі пастаю, а то я таксама губляюся ў такой колькасьці людзей.

– Нам будзе прыемна… Мяне зваць Вітаўтам, справа гэта Гэня, зьлева – Ян.

*Паветра*

Менск. Гэты горад адвечна прываблівае да сябе ўсіх маладыах і ахвочых, заваблівае ў сваю пастку, ставіць перад складаным выбарам, ставіць пытаньне грошай на першае месца, і калі ты ня здатны на тое, каб адвучыцца, паралельна працуючы, а потым так жа не разгінаючы сьпіны працягнеш

працаваць, працаваць, працаваць, каб былі грошы аплочваць кватэру, калі яна твая, альбо бацькоўская, альбо працаваць яшчэ болей, каб аплочваць здымную кватэру… Дык вось, калі ты ня здатны на гэта, цябе чакае штосьці кшталту намяшанага савецка-беларуска-сучаснага, штосьці кшталту кепскай беларускай рэчаіснасьці, з моладзевымі арганізацыямі, якія ня будуць даваць табе праходу са сваімі недалёкімі поглядамі, якія дасягаюць адно суседняга гаўбца, і толькі… Менск адразу заваблівае ў пастку, наперад пасоўваючы спачатку чыстыя прыбраныя вуліцы, потым клюбы, бары, рэстарацыі, гумы, цумы, супэрмаркеты, гандлёвыя цэнтры, вялікія аўтастрады, аўтабаны, дарогі, шляхі, каляінкі, шматпавярховікі, дамы нібыта пасьля рэстаўрацыі, а па-шчыраму – пасьля неахайнай перабудовы… І чалавек апынаецца на плошчы каля Палацу Рэспублікі, і патрабуе быць з ім шчырым, і хоча, каб яму было лягчэй жыць і дыхаць, хоча, каб усё было для народу.

Дзіўны гэты горад – Менск. Вы ж, напэўна, чулі пра яго?

Інэса абрала ў Менску для сябе іншы шлях, яна пасябравала зь дзіўнымі для звычайнага беларускага асяродзьдзя людзьмі – кніганошамі, свавольнікамі, аматарамі кіно й кніг, пісьменьнікамі, шалёнымі летуценьнікамі, мастакамі, якія ўсе гулялі ў гульні, пілі, гралі на інструмэнтах, цытавалі анархістаў і жадалі жыць ня тут. Інэса таксама вырашыла быць вольнаю… і воля сама да яе прыйшла, у выглядзе новага падвойнага жыцьця, дзе яна днём працавала й вучылася, а па вечарох з галавою сыходзіла ў сьвет творчасьці, сьвет незвычайнага, сьвет інтэлектуальных дэбатаў, у сьвет колераў, літар, алькаголю. Яе сыны расьлі хутка: ясьлі, нянькі, дзіцячыя садочкі, ласка маці, любоў сяброў, аўсяная каша, беларускія тлустыя ёгурты, казкі ўголас, дзядзька Ян, які звычайна прыносіў чупа-чупсы, дзядзька Вітаўт, свавольны й дзёрзкі, дзядзька Гэня, зь зямлістым

тварам, шалёны, які наведваў вельмі й вельмі рэдка, а потым увогуле зьнік з далягляду… І нават здымная кватэра ў старым раёне, дзе на ўслонах дрэмлюць старыя бабулькі, а пад разлапістымі каштанамі сьпяць п'яныя суседзі, усё гэта ня мела значэньня, нават калі даводзілася на кухні, уключаючы сьвятло, адмахвацца ад прусакоў, якія разьбягаліся па зашмальцаваных сьценках у розныя бакі. Жыцьцё занадта кароткае й каштоўнае, каб зважаць на такія дробязі. Калі ёсьць мэта існаваньня, усё астатняе ня мае значэньня.

Інэса ўсё больш пераконвалася ў тым, што адукацыя для яе ня мае значэньня, тое, што выкладаецца – багна, сапраўдная беларуская рэалістычная багна, яна яшчэ ў падлеткавым узросьце спасьцігла ўсё, што ёй карцела спасьцігнуць, і рухалася ў сваім накірунку, эвалюцыянуючы не паводле праграмы, падпісанай Міністэрствам адукацыі й катэдраю ВНУ, але паводле свайго ўласнага досьведу, выкопваючы з глыбінь букіністычных пакояў кнігарняў свой непаўторны сьвет жыцьця. Інэса ўсё часьцей лічыла сваім самым блізкім чалавекам Яна, хаця бачыла, што Вітаўт спрабуе завязаць зь ёй больш шчыльныя сяброўскія стасункі, а Гэня трымаецца паасобку, прыводзячы на агульныя вечары розных маладых дзяўчат. Кампанія дзіўна глядзелася звонку: Інэса з двума дзецьмі, Вітаўт са сваімі спаленымі рэчамі, Ян, падобны да рыбы, заўсёды з кнігамі ў руках, і Гэня, які, здавалася, яшчэ крыху – і выбрыкне штосьці вар'яцкае… Часам да іх далучаліся Валя й Мікіта.

Іх кампаніі раней сапраўды не хапала жаночага пачатку, занадта шмат было мужчын, але ўсё гэта лёгка вырашаў Ян, прыводзячы часам кагосьці, альбо Вітаўтавы прыхільніцы, салодкія, заварныя дзяўчынкі, напханыя вяршкамі ведаў: *першымі* радкамі вядомых паэтаў, *першымі* сказамі зь вікіпэдыяў, і далей ані кроку, а потым "вумныя" дзяўчыны

альбо гублялі інтарэс да кампаніі й гутаркі й сядзелі, пуста ўсьміхаліся – ім хапала *першых* хвілінаў размовы, бо потым вельмі хутка высьвятлялася, хто чаго варты.

Да Інэсы аднойчы прыехаў Юрка: чорныя боты, трэніровачныя штаны, спартовая куртка, валасы “пад машынку, толькі чубчык пакіньце”, скасабочаны твар, неахайна паголены, з рота нясе гарэлкаю.

“І вось гэтае чмо – бацька маіх сыноў?!” – Інэса спужалася, Юрка ўпершыню стаяў перад ёю як чужынец, і яна магла аб’ектыўна на яго глядзець, Ён быў быццам бязь лішняга нанаснога цыбулевага шалупіньня й рэзаў вочы. Толькі ягоная сутнасьць, толькі корань, самае істотнае, што раней хавалася ад большасьці жанчын, калі яны абіралі сабе мужчын.

Гэта была субота, вечар, якраз надышла чарга прымаць сяброў у кватэры Інэсы. Юрка не пасьпеў як мае быць зайсьці ў кватэру, павітацца, як яго заўважыў Гэня, які выходзіў з прыбіральні, абціраючы мокрыя рукі аб швэдар, лыпаючы чырвонымі, шалёнымі вачыма.

– Інэс, гэта хто?

– Гэта Юрка, Гэнь… Але ты толькі ня злуйся!

Гэня быў неспартовым чалавекам, ён за ўсё жыцьцё толькі ў сярэдніх клясах на фізкультуры напружваўся, але яму ўдалося схапіць Юрку за шыю й сьціснуць яго галаву пад пахаю. Потым Гэня двойчы з разьбегу ўдарыў паголеную пад машынку макаўку аб шафу, якая стаяла ў калідоры, пакінуўшы дзьве ўмяціны на дзьвярах. Свабоднаю рукою адчыніў наросхрыст уваходныя дзверы й штурхануў цела на лесьвіцу. Юрка шпарка паляцеў праз пралёты, беспасьпяхова спрабуючы схапіцца за парэнчы.

Наступным днём на Інэсу варожа глядзелі бабулькі, называючы яе няўдзячнай ды прастытуткай, бо яе хахалі пабілі ейнага роднага мужа, які паўночы прасядзеў каля пад’езда, плачучы й скуголячы, пакуль яго не забралі ў малпоўню.

*Паветра*

Гісторыя зь Юрам ня мела больш працягу. Усё скончылася праз два месяцы, калі Інэса, прыехаўшы разам зь Янам у сваю вёску, адшукала сьпітага мужа й сілаю адвяла яго ў раённы суд, дзе ім падпісалі развод: “не сышліся характарамі”. І ўсе ведаюць, што, калі вельмі, то бок настойліва, жадаеш, ніхто стандартныя тры месяцы на “паразважаць” перад разводам не дае. Так і разышліся, як сышліся – імгненна, хутка, у адначасьсе.

Сьвяткаваньне свабоды, прынамсі па пашпарце, пачалося ўжо на зваротным шляху ў Менск: Ян вёў сваю напаўзгнілую бэжавую капейку, Інэса піла шампанскае, скраем вока паглядала на Яна, сьмяялася. Дзяўчына ехала свабоднаю й закаханаю, жывою й шчасьліваю, яна цяпер марыла, каб усе прыметнікі абмежаваліся Янам…

*Паветра*

На пытаньне “Як пражыць адной зь двума дзецьмі” Інэса ніколі не магла даць празрыстага адказу, ёй самой здавалася, што яна жыве па нейкай містычнай інэрцыі, якую немагчыма прадказаць, немагчыма прадпісаць і сплянаваць. Яна жыве, як паветра, як сьвежы вецер, гайдае галінкі, варушыць лістоту, гуляецца ў кутах дамоў.

Інэса, здавалася, лёгка знаходзіла выйсьце, здавалася, не заўважала праблем… За тры гады ў Менску яна пась-

пела зьмяніць пяць кватэр, тры працы й адно паліто, яе дзеці пабывалі ў дзьвюх ясьлях, дзякуючы маці й нянечцы навучыліся ангельскай мове, крыху чытаць і лічыць... Дзеці былі падобныя да кветачак: маленькія, яны чапляліся сваімі пялёсткамі за маці й празь яе цягнуліся вышэй, да промняў сонца.

Інэса шмат чаго мяняла ў сваім жыцьці, але лёс сам знайшоў для яе працу – яна пачала атрымліваць грашовыя замовы на фатаграфаваньне сьвятаў, партрэтаў, мастацкіх твораў.

Вось яна на вясельлі, адшчоўкала дзьве тысячы фотакартак, зь якіх апрацуе толькі сто ўдалых. Вось яна робіць фотапартрэты адной багатай сям'і. Вось яна, аддаўшы дзяцей на дагляд да суседкі, езьдзіць увесь ўік-энд разам з жаніхом і нявестаю па гарадох Заходняй Беларусі...

Інэса пачала шмат часу аддаваць вязаньню дзіцячага адзеньня, шкарпэтак і рукавічак. І не пасьпелі азірнуцца, а яна ўжо атрымала замову ад піцерскага выдавецтва напісаць кнігу па вязаньні дзіцячых рэчаў, потым пачала за грошы даваць прыватныя ўрокі ў сябе дома для маладых мам, як вязаць ваўняныя пінетачкі немаўлятам, а потым у яе зьявілася колькі падлеткаў, якія вар'яцелі на мастацкай фатаграфіі.

Жыцьцё адорвае прыемнасьцямі, дае сваю ласку, існуючы, як двухаблічны Янус, з аднаго боку – цяжкасьці, з другога – непаўторнае шчасьце, і невядома, які Янус будзе глядзець табе ў вочы, утульна лежачы на далоні, калі ты, падкінуўшы сваю манэту, ловіш яе ў кулак, а потым расьціскаеш пальцы.

*Паветра*

Інэса шмат часу выдатковаўвала на тое, каб дасьледаваць сваіх сяброў, якія калісьці ёй падаваліся такімі

незразумелымі, іншаплянэтнымі, незвычайнымі. Цяпер яна магла іх, крыху прааналізаваўшы, дэталізаваць, неяк растлумачыць для сябе іх сутнасьць, іх прыхільнасьць да стыхіі. Тое, што яна сярод іх трох была адзінаю дзяўчынаю, надавала пікантнасьці. Яна была быццам бы тая самая прыправа чырвонага гострага перцу ў моркву па-карэйску. І яна пра гэта ведала, таму часта заплюшчвала вочы на навасьпечаных сяброў/сябровак, якіх на іх агульныя пасядзелкі й літаратурныя вечары прыводзілі ці то Ян, ці то Вітаўт, зрэдзьчас і ўсё радзей – Гэня.

У яе былі свае асяродзьдзе, свая сям’я, і сёньня яна шмат разважала пра Вітаўта, чалавека, які зь дзяцінства быў настолькі паглыблены ў сваё мастацтва, што яму часта казалі старыя мастакі, каб ён затрымаў свайго ўнутранага мастацкага Моцарта, бо гэта адбіваецца на канцэптах, шкодзіць ягоным пэрформансам. Вітаўт сам для сябе абраў пэўны тэмп разьвіцьця, праз які сам і пакутаваў, бо надта сьпяшаўся зьдзейсьніць той ці іншы пэрформанс, тую ці іншую экспазіцыю, разумеючы, што які б шлях ён ні вызначыў, гэта быў ягоны пэрсанальны шлях, каторы трэба прайсьці да канца і ператварыцца ў сапраўднага каштоўнага вогненнага Фэнікса. Але, як пісалі некаторыя мастацкія крытыкі, сьвет яшчэ пасьпее пабачыць Вітаўта сталага, Вітаўта – мастака зь вялікай літары М, а пакуль тое, чым ён ганарыўся, быў ягоны праект “спаленага Адраджэньня”, праект, у якім мастак цераз гарэньне вызначаў сапраўдную форму прадмета, пачатак яго новага існаваньня, магчымасьць бачыць яго глыбінную сутнасьць. Вітаўт доўга ішоў да гэтай ідэі, але калі ён аднойчы прачытаў пра расьліну, якая дзеля таго, каб пасеяць семя, мусіць згарэць, ён зразумеў, што менавіта гэта будзе падмуркам ягонай канцэпцыі “Новага жыцьця мастацтва пасьля агню”.

Вітаўт быў алегорыяй агню, ён штохвілінна гарэў думкамі, ідэямі, і тым, каб іх найхутчэй зьдзейсьніць. Ягоны твар быў парослым рудым шчаціньнем, і сам ён быў падобны да старажытнага паганскага бога. І калі Інэса ўяўляла сабою ветраную стыхію, стыхію, якая часта праз свае рухі й перамяшчэньні здольная мяняць ня толькі сваё жыцьцё, але й асяродзьдзе, істотна ўплываючы на лёс сваіх сяброў, то яна часам у спрэчках магла разьдзьмуць Вітаўтаў агонь настолькі, што той сам першым згараў, не пераканаўшы апанэнта, застаючыся змакрэлым, з чырвоным тварам, цяжкім подыхам, але спапялюшаным, перагарэлым.

Інэса, калі заставалася з Вітаўтам сам-насам, адчувала сябе няёмка, бо Вітаўт адразу ўспыхваў нейкай незвычайнай гарачынёй, якая хутчэй была падобнай да полымя каханьня, але Інэса заклікала паветра, і полымя згасала.

Вітаўт, каб пазбавіцца самоты й нейкім чынам пачаць жыць новым жыцьцём, ажаніўся з Валяй, зь якой быў у блізкіх стасунках ужо амаль тры месяцы, што для творцы часта значыцца подзьвігам. Ажаніўся ён, напэўна, з тае прычыны, што Інэса была яму недасяжнаю, не разумела ягонай гарачыні і глядзела ў бок Яна, які ўяўляў сабою стыхію вады, і гэта выглядала цалкам гарманічна, бо лёгкі вецер па вадзе пускае неверагодна прыгожыя маленькія грабеньчыкі...

*Паветра*

Чакаць каханьня цягам усяго жыцьця Інэса не зьбіралася. Прайшло больш за тры гады, Ян не рабіў аніякіх крокаў на збліжэньне больш як сяброўскае, Інэса паступова аддалілася ад сваіх мараў.

Інэса пачала шукаць сама.

Так атрымалася, што ў яе зламаліся хатнія старыя гадзіньнікі, якія былі зробленыя на мэханічным заводзе: увесь гадзіньнікавы апарат быў уманціраваны ў пяцісотграмовы граніт, які звонку меў мэталічны каркас – складаны апарат, невядомая канструкцыя. Гадзіньнікі дасталіся ёй яшчэ ад прабабулі і ані разу не ламаліся… Да гэтага часу.

Інэса завярнула гадзіньнікі ў хустку, яны былі нязграбныя й адцягвалі дно торбы, і выправілася ў суседні дом, на рагу якога вісела маленькая аблупленая шыльда “Рамонт гадзіньнікаў”.

Аказалася так, што гадзіньнікі рамантаваў мужчына сярэдніх гадоў, прыгожы, чарнавалосы, з вострымі сківіцамі, шырокаю ўсьмешкаю й сумнымі вачыма. Ён займаўся прыватным бізнэсам адразу ў сябе на кватэры: у калідоры, перад уваходнымі дзьвярыма, была чакальня для кліентаў, першы пакой пасьля чакальні – майстэрня, другі – месца адпачынку. Майстра гадзіньнікаў звалі Валодзя, ён не хадзіў і перасоўваўся па прасторы пры дапамозе вазку.

Валодзя яшчэ ў падлеткавым узросьце, калі даваў нырца на дамбе Менскага мора, зламаў пазваночнік.

Валодзя, як пра гэта сьведчыць адна са сьценак у пакоі-майстэрні, чэмпіён Беларусі, краінаў СНД і Эўропы па гонках у вазках, а таксама бронзавы чэмпіён Параалімпійскіх гульняў.

Адзінае, што замінае Валодзю, – алькаголь. Ён п’е, як адданы каханак кахаецца, – шалёна й усёй душою.

Інэса, якая адразу ўпадабала гэтыя рамантычна сумныя вочы й неверагодна накачаныя рукі, пасьля таго, як атрымала свае адрамантаваныя вінтажныя гадзіньнікі, выявіла, што ў ейнай здымнай кватэры пачалі ламацца ўсе гадзіньнікі запар: наручныя, будзільнікі, гаспадарскія зь зязюляй.

Інэса закахалася мэнтальна, плятанічна. Яна аніводнага разу, як прыходзіла да майстра гадзіньнікаў, – а завітваць яна пачала нават без гадзіньнікаў, – не запыталася пра яго мужчынскую здольнасьць, да якога ўзроўню ён спаралюшаны, ці ёсьць у яго сям’я, дзеці, жонка, каханка.

Валодзя адразу сьцяміў, што да чаго, і нават зрабіў вялікі перапынак зь пітвом, бо прыгожая дзяўчына магла лёгка замяніць любыя стымулятары й наркотыкі. Ён пачаў стараньней галіцца, выязджаць на сьвежае паветра, катацца зь Інэсай вакол дома й па мясцовым парку. Ён ізноў адчуў сябе маладым, тым самым шалёным юнаком у інвалідным вазку, які ганяе па сьвеце й заваёўвае мэдалі на спаборніцтвах, але сум у вачах… ён не выліваўся са сьлязьмі і нават не зьнікаў з усьмешкамі, ён не высыхаў пад промнямі сонца і не вымываўся дажджамі, сум нікуды не сыходзіў, нават калі Інэса зазірала ў вочы, нават калі аднойчы яны пацалаваліся.

Неяк Інэса здолела ўгаварыць Валодзю на тое, каб звазіць яго на сьвята Дня Перамогі да Стэлы паглядзець на салют.

Гэты дзень магчыма назваць кульмінацыяй іх адносін, калі закаханы майстар, з шырокай усьмешкаю, задраўшы голаў уверх, лічыў залпы, а ягоны твар асьвятляўся чырвонымі, зялёнымі, блакітнымі, белымі й ружовымі колерамі.

Інэса не магла адвесьці позірку. Яна была ўзбуджаная, навакольле падавалася ня толькі сьвяточным, але іх прыватным сьвятам, сьвятлом, прыватным салютам, яна адчувала жарсьць да гэтага грубага мужчыны, яна, доўга не разважаючы, села яму на калені ў крэсла-каталку й пачала з жарам яго цалаваць, гладзячы па галаве, ускудлачваючы яму валасы, кусаючы за вусны. Валодзя кранаўся ейных

смочак пад станікам, залазіў у вільготныя майткі пад плясыраванай сукенкаю…

Вакол не было людзей, яны назіралі салют падалей ад агульнага натоўпу. Абодва былі распаленыя жарсьцю, абодва кахалі… Інэса, нябачна намацаўшы чэлес, была ўзрадаваная, выявіўшы яго напружаным, і няёмкае пытаньне, якое яна ўсё ніяк не магла запытаць, само па сабе зьнікла… яна, седзячы зьверху на Валодзі, пасунуўшы ў бок свае майткі й непрыкметна пад сукенкаю дастаўшы чэлес з прарэхі, накіравала ўнутр.

Вакол раздаваліся выбухі, ноч асьвятлялася маланкамі, людзі вакол крычалі “Салют! Ура!”

Людзі вакол уголас лічылі выбухі: “Раз, два, тры, чатыры…!” Але насамрэч, людзі вакол крычалі “Ўра” не Перамозе й не Салюту… Людзі крычалі “Ўра” каханьню Інэсы й Валодзі й лічылі рухі палюбоўнікаў, якія, бессаромна разьлічваючы на цёмную ноч й нябесныя водблескі, кахаліся самааддана і шалёна.

*Паветра*

Аднойчы, калі ў Інэсы захварэў старэйшы сын, яна на два тыдні захрасла на бальнічным. У сына была вятранка. Дома быў лязарэт, малодшы, Глебушка, таксама ад брата падхапіў хваробу, але тэмпература была крыху ніжэйшая.

Валодзя назвоньваў Інэсе, ён, што той шалёны сабака, які сядзеў на ланцугу, ірваўся да яе, але адначасова ня быў здольным парушыць адлегласьць, бо баяўся дзяцей, ён баяўся таго, як яны будуць глядзець на яго, у вазку, у гэтым паскудным вазку, ён баяўся хваробы, дакладней, Інэса баялася, што ён захварэе, бо невядома, ці хварэў ён на вятран-

ку ў дзяцінстве. Валодзя, у сваю чаргу, разумеў, як добра ён ведае гэты дзіцячы позірк, гэтыя дзіўныя круглыя вочы – гэтая нібыта спалоханасьць, грэблівасьць, а потым вочкі ўбок, і не глядзець на яго, не запамінаць гэтае ўвасабленьне інваліднасьці.

Інэса казала яму, каб ён ня ехаў, дарослы арганізм гэтага не перанясе. Гэта было адзіным, што магла казаць Валодзю Інэса, бо ўсе яе думкі былі зь дзецьмі, якія, здавалася, ляжалі маленечкімі хворымі анёльчыкамі і нават не варушыліся...

Інэса суткамі не адпачывала.

Валодзя запіў, узяў сабе колькі выходных з тэхнічных прычынаў і запіў так, як чалавек, які ўсе справы, за якія бярэцца, даводзіць да канца.

*Паветра*

Валодзя адарваў Інэсу ад сяброў на добрыя паўгады, яна зь імі толькі сазвоньвалася й некалькі разоў бачылася на агульных выходных літаратурных сустрэчах, калі ўсе зьбіраліся разам са сваімі каханьнямі альбо выпадковымі сябрамі й выпівалі, гутарылі на розныя літаратурныя й мастацкія рэчы, а таксама не забываліся на калялітаратурныя… Інэса аднойчы ўгаварыла Валодзю паехаць зь ёю на такую вечарыну, дзе Валодзя, хто яго ведае праз што, ці то праз рэўнасьць, ці то праз нейкія комплекы й фобіі, нажлукціўся і пачаў скандаліць, сварыцца з усімі, потым плакаць, потым распавядаць, які ён быў выдатны спартсмэн, і скончылася ўсё няўцямнымі скаргамі на лёс, на жыцьцё й на тое, што ён сапраўдны мужчына, але ніхто яго ня хоча і ня любіць. Інэса памя-

тае, як на тым вечары адзіным спакойным, нібыта пітон, быў Гэня, якога яна ніколі цалкам не магла спасьцігнуць і ня надта добра разумела, нават калі ён выказваў нейкія думкі.

Гэня – сама глеба, нерухомы, шалёны, варя’цкі, статычны, непрадказальны… Ніколі не было вядома, што зараз вырасьце зь ягонай галавы: ці то лебяда, ці то ружа, ці то бяроза, падобная да лёгкага шапаценьня страйнюткай, бела-чорнай думкі пра жыцьцё альбо пра тую ці іншую прачытаную кнігу. Ён заўсёды выглядаў сьвяжэйшым і маладзейшым за астатніх, але тое, што адбывалася пад гэтай вонкавай абалонкай, было невядома нават яму. Гэня называў сябе Дарыянам Грэем, з тым намёкам, што падгніваў знутры, але звонку гной быў нябачны, ён нідзе не прасочваўся, хіба толькі зрэдзьчас зь ягоных вуснаў выпаўзалі сьмярдзючыя і варожыя словы, якія ня мелі адрасату. Час ад часу ад яго струменілася нейкая невядомая хворая энэргія, якая яскрава сьведчыла пра тое, што жыцьцё яго амаль перажавала, і вось яшчэ колькі кавалачкаў ад Гэні – і ўсё, баста, ён будзе зьедзены. Гэня з кожным днём усё глыбей закопваўся ў самім сабе, адрываўся ад рэальнасьці, набліжаўся да сваіх, уласных зацікаўленасьцяў, фобій і заняткаў, усё болей замыкаўся ў сабе, і ад яго ўжо патыхала сырою, волкаю глебаю, сапраўдным мокрым пяском.

Гэня пераходзіў межы існаваньня, ён, як Гаўтама, праходзіў этапы спасьціжэньня, але ягонае спасьціжэньне прыносіла яму толькі вусьцішны неспакой, толькі жудасны страх шматлюдскасьці ў сьвеце. Гэня зазабліваў у свае сеткі і, калі хацеў, сам мог пераржоўваць чужыя косткі, хрумкаючы, праходзячыся ад асалоды языком па нёбе, але Гэня быў інтравертам...

*Паветра*

Гэта быў звычайны дзень, клясычна звычайны, такі ж звычайны, як і ўчорашні. Нічога не прадказвала нічога. Усё было. Усё было тут і цяпер. І была раніца, і быў пакой у лякарні. І быў халодны, сьветлы, бледны мужчына ў белым халаце, які сядзеў за сталом, таксама белым і халодным.

Стол перад Інэсаю быў карычневы, але ад яго таксама ішоў зімовы холад... Сьцюдзёнасьць, унутраны страх, мітычны жах, дрыготка, спапялюшаныя рукі... Тая самая вусьціш, якая ёсьць перашапачатковай, старажытнай, глыбіннай.

– Э-э-э. Аналізы гатовыя, але я нават ня ведаю, як на гэта рэагаваць. Тое, што ў вас балела пад пахаю й намацвалася невялічкім каменьчыкам у правай грудзі, – гэта, як паказвае рэнтген, мамаграфія й пункцыя, ёсьць цыбулінкі глядыёлуюсаў.

– Прабачце, доктар Віян! *Што* гэта? Кветкі?!

– Дакладна ня рак, але кветкі. Мы пакуль ня ведаем, як гэта лячыць, але прапішам вам хіміятэрапію альбо гармоны, паглядзім... Можа быць, калі пагодзіцеся, пачнем экспэрымэнтальнае лячэньне радыяактыўнымі пігулкамі, прашыўкамі...

– Чакайце, калі гэта кветкі, можа быць, дастаткова іх выдзерці, альбо там, ня ведаю, як з градкі – выкарчаваць?

– Разумееце, тут справа такая... Дзьве вялікія цыбулінкі ўжо пусьцілі дзіцячыя парасткі па суседніх ворганах, таму ніякая апэрацыя й праполка тут не дапаможа...

Інэса вярнулася дамоў, пайшла на гаўбец, зачынілася й горка заплакала. Глебушка й Міхаська, прытуліўшыся насамі да шкла, убачыўшы, як мама плача, таксама заплакалі,

пакрываючы вакно з боку пакоя доўгімі струменьчыкамі салёнай вадкасьці, пакідаючы адбіткі сваіх пальчыкаў, пакідаючы празрыстыя сопелькі, якія, павольна сьцякаючы, абʼядноўваючыся, стваралі сапраўдныя міні-рачулкі.

У целе Інэсы знутры пачалі расьці кветкі, і ніхто – ні дактары, ні сябры, ні знаёмыя ня ведалі, што рабіць: плакаць, сьмяяцца, піць, сьвяткаваць альбо верыць у цуд.

*Паветра*

Праз колькі месяцаў Інэса моцна схуднела й стала такой лёгкай, што часам мусіла трымацца за каго-небудзь, каб яе ня зьнёс вецер. Яна пачала атачаць вакол сябе кветкавы водар, і побач зь ёю назаўсёды пасяліліся матылі, пчолы й маленькія, хуткія, амаль незаўважныя птушачкі.

Яе лёгкія, сэрца, грудзі парасьлі знутры ня толькі гладыёлусамі, але й колкімі маленечкімі ружамі, хрызантэмамі й памаранчавымі календуламі. І кожным разам, як яна штосьці прамаўляла, зь яе рота вылятаў пылок.

Інэса жыла, і была, як вецер, і была, як поле кветак, і вакол сябе насіла сонца, водар і адвечную вясну. Інэса жыла, і была сапраўдным кветкавым садам. Сыноў гэта забаўляла, яны любілі новую маму, якая з кожным днём нагадвала салодкі кветнік, нагадвала казку, магію, нагадвала пра тое, што сьвет можа дзівіць і прыносіць асалоду ў любым выпадку, у любым стане, у любой дамоўленасьці з жыцьцём, Богам, дʼяблам, Быцьцём.

*Паветра*

З усіх сваіх пражытых гадоў Інэса асобна вылучала першыя, калі яна прыехала ў Менск другім разам, пазнаёміўшыся

зь Янам, Вітаўтам і Гэнем. І асобна ў яе гэтыя ня надта далёкія, але ўжо аддаленыя гады, памятаюцца празь Яна, які на той час быў ёй як старэйшы брат, але Інэса марыла пра большае. Ян быў вельмі ўважлівы да яе, ён выконваў усе яе просьбы, загады, падтрымліваў яе пачынаньні з фатаграфаваньнем. Ян, як потым Інэса высьветліла, заўсёды быў да яе звышуважлівы, калі заставаўся адзін, калі ў яго не было аніякіх каханьняў і дзяўчын. Толькі ў тыя часы самоты, ягонай уласнай свабоды, ён часта бачыўся зь ёю, часта наведваўю Гэню, сазвоньваўся зь Вітаўтам. Менавіта гэтая рыса ягонага характару спачатку заблытала, а потым пачала моцна раздражняць ня толькі Інэсу, але й усіх астатніх, бо гэта расцэньвалася як зьнявага, як легкадумнасьць, як тое, што сярод мужчын лічыцца “жанчыназалежнасьцю”, быццам бы Ян станавіўся рабом і, акрамя свайго новага каханьня, захапленьня, больш нічога й нікога ня бачыў, забываючыся на сваіх сяброў.

Ян быў як вада, ён перацякаў і струменіўся праз жыцьцё, праз прадметы жыцьця, празь сяброў і праз здымныя кватэры, і для яго ўласнай дамбаю апыналіся жаночыя целы, жаночыя похвы, заляцаньні й каханьні. Гэта было ў яго стыхійна, як быццам шторм на моры, які руйнуе навокал караблі і можа апантана сьціхнуць, так і Ян, спачатку штурмаваў аб’ект каханьня, а потым раптоўна прачынаўся і бачыў, што вакол яго штыль і яму да ўсяго абыякава, тады ён успамінаў сяброў.

Ян… Трэба аддаць яму належнае – менавіта Ян прыдумаў зьбірацца па выходных на вечары літаратуры й мастацтва. Паглынаў кнігі стосамі, тапіў раманы ў сваіх рэках, у сваіх струменях жыцьця… Ён зь дзяцінства на гэта хварэў і зь дзяцінства апантана захапляўся пісьмом, ён пісаў апавяданьні, казкі, і пісаў іх так жа захоплена, як і кахаў, але ў літаратуры гэта часта не ішло на карысьць, яго вільготныя тэксты мусілі пасьпець абсохнуць, але ён не даваў ім со-

хнуць, бо празь яго цела праходзіў буйны струмень думак, вобразаў, сюжэтаў.

Інэса хацела жыць зь Янам, хацела кахаць яго ўсім сэрцам, але, калі паветра дзьме на ваду, вада толькі цячэ хутчэй.

*Паветра*

Інэсу пачало нястрымна цягнуць у лес, на прыроду, да возера, да рэк, да сасновых бароў, яна ўпершыню за колькі год успомніла, што даўно не была ў сваёй вёсцы, ня бачыла сваю маці, ёй было цікава, як там Юрка, які, напэўна, ўсё-ткі сьпіўся канчаткова…

Інэса паехала зь дзецьмі. Узяла ў Яна машыну й выправілася. Але пасьпела даехаць да леса свайго дзяцінства, калі дзеці пачалі прасіцца ў туалет. Інэса спынілася й вырашыла зрабіць перапынак з гарбатаю ў тэрмасе й бутэрбродамі.

Інэса стаяла, паглыбленая ў свае думкі, вецер лашчыў яе залатыя валасы, яна адчувала ўнутраную гармонію, кветкі яе мякка казыталі.

Раптам дзеці знайшлі гняздо, дакладней, кавалак ад яго, напэўна, перапёлкі ці яшчэ якой птушкі. Малодшы, Глебушка, кліча: “Мама, мама! Мы гняздо знайшлі, і тут нават шалупінка ад яйка!”. Старэйшы, Міхаська, тыцкае ў гняздо ўказальным пальчыкам. На дваіх ейным дзецям адзінаццаць год – шэсьць аднаму, пяць другому. Інэса глядзіць на рэшткі гнязда.

– Гэта старое раскіданае гняздо, кіньце яго! – кажа Інэса й прысядае долу да кошыка. Спачатку яна дастае тэрмас, потым сваю любімую кнігу, пацёртую й зашмальцаваную, з такімі тлустымі старонкамі, што іх можна лёгка нашынкаваць і зварыць бульлён – Інэса ў дарогу ўзяла “Вясну ў Фіяльце, і іншыя аповесьці й апавяданьні”.

Адпачынак, сьвежае паветра, вецер, прадчуваньне роднай хаты…

*Паветра*

Дома яе чакала маці, сястра й брат, якія ўжо сталі дарослымі й мелі сваё, прыватнае жыцьцё. Брат быў падлеткам і вожыўся ад усяго: ад абдымкаў, гутарак, дотыкаў, ён амаль адразу зьбег з хлопцамі гуляць у футбол. Сястра ж, якая толькі-толькі пераступіла мяжу юнацтва, пільна разглядал Інэсу, цікавілася яе сукенкаю, яе рэчамі, пыталася пра гарадзкое жыцьцё… Вечар яны правялі добра, адчуваючы яднаньне, нават маці не асабліва жалілася на жыцьцё.

І здавалася б, што нічога дрэннага здарыцца ня можа… бо ўсе ўжо пасьпелі заўважыць, як моцна Інэса схуднела, пасварыцца на яе за гэта, павойкаць з нагоды й суцішыцца, як Інэсу рана ранкам, сярод цішы й спакою, пабудзіў тэлефонны званок, званіла Валя, жонка Вітаўта… Яна ня плакала, але гаварыла не сваім голасам.

Інэса толькі слухала Валю і праз усхліпы цьмяна разумела, *што* менавіта адбылося.

Як толькі яны скончылі размову, Інэса ўключыла сьвятло ў пакоі й адразу набрала дрыжачымі рукамі Яна.

– Божа, які жах! З кім з нас Вітаўт размаўляў апошні раз, не з табою?

– Не, Інэса, не са мною.

– Я ў сваёй вёсцы… Пакіну дзяцей тут і адразу паеду ў Менск… Наведаю Гэню, і тады да Валі, каб дапамагчы з арганізацыяй пахаваньня… Мо Гэня нарэсьце пакіне кватэру, яны ўсё-ткі зь Вітаўтам блізкія сябры, вучыліся разам…

– Наконт Гэні ня ўпэўнены, ён не выходзіў з дому, ты ж ведаеш, недзе ўжо два гады… Ладна, я сёньня не пайду на працу, застануся дома, трэба падумаць… Заўтра пабачымся, займіся там з Валяю справамі, а я ўжо падтрымаю… Здаецца, мяне проста пакінулі ўсе сілы сёньня штосьці рабіць… Паспрабуй Гэню выцягнуць з кватэры. Пакуль.

– Пакуль.

## КНІЖНЫЯ ПАЛІЦЫ

Вітаўт жыў у раёне, які быў адным з самых старых у горадзе і адным з самых шалёных на бойкі сярод мясцовых.

Усе дамы вакол былі пяціпавярховымі і ня мелі ліфтаў, як ня мелі й пад’язных дарожак для інвалідаў і парковачных месцаў для машын. А ўладальнікі кватэраў славіліся адсутнасьцю адукацыі. Гэты раён ад самага пачатку, ад першай пакладзенай цагліны быў ахвяраваны тым грамадзянам, якім была “прапісаная” хімія ў савецкія часы. Цяпер ужо іх дзецi праходзілі хімію й прапівалі свае арганізмы. Аднак кватэры тут каштавалі танна, што й тлумачыла Вітаўтаў выбар.

Пазаўчора ў суседнім доме п’яны госьць нанёс свайму сябру трыццаць нажавых раненьняў, дапіў гарэлку й заснуў, а прачнуўся, калі перад ім стаяла міліцыя й заплаканая сьвежасьпечаная ўдава, якая вярнулася з начной зьмены.

Разгублены сабутэльнік так і ня здолеў аднавіць у памяці храналёгію падзеяў мінулага вечара.

Сёньня сьнег ля пад’ездаў быў прыбраны ў высокія гурбы, і дзеці з казыркоў ныралі ў ягосьнег, ім было весела – да дарослых турботаў яшчэ далёка. Вітаўт зьняў кватэру амаль тыдзень таму, на вуліцы імя нейкага камунякі, невядомага нікому з новага пакаленьня. Якраз пайшлі ўгору справы з мастацкімі замовамі, і ён зьбіраў сяброў, каб адсьвяткаваць навасельле й успомніць добрую кніжную традыцыю.

Першаю прыйшла Інэса, яна пакінула дзяцей на нянечку, якая зьнешне выглядала так, быццам бы ёй самой патрэбны быў дагляд, але дзеці яе слухаліся й любілі.

Другім на парозе зьявіўся Гэня, увесь спатнелы, вочы чырвоныя, ён першаю справаю скінуў зь сябе кажух і пачаў здымаць праз галаву швэдар, пад якім быў яшчэ адзін… Змакрэлы, спужаны, ён толькі скасабочана пасьміхаўся, трымаючы ў руках пакет з суседняй крамы, у якім месьціліся бутэлька каньяку, дзьве бутэлькі віна й тры невялічкія шклянкі “Глікадзіну” з аптэчнага кіёску. Гэня заставаўся самім сабою пры любых абставінах: зімою, стужаю, летам, сьпякотаю, у гасьцях, дома, за працаю…

За Гэнем амаль адразу пазваніў у дзьверы Ян, які прывёў з сабою паўнаватую дзяўчыну зь імем Нэля, якая гучна жавала жуйку, крыху прыадкрываючы намазаныя барвоваю памадаю вусны. Ян адразу перадаў заплечнік Вітаўту, каб той дастаў зь яго тры плястыкавыя пляшкі разьліўнога піва й адну бутэльку ўіскі і паклаў усё ў лядоўню – якаснае піва варта піць халодным, але зь цёплымі рукамі, так быццам бы любяць казаць у цяперашнім сьвеце.

Здавалася, Вітаўт больш нікога не чакаў, але празь дзесяць хвілін, калі ўсе сябры, разьмясьціўшыся на кухні,

разьлівалі піва й палілі, у дзьверы пагрукалі, Вітаўт адчыніў і ўбачыў Вераніку, дзяўчыну, зь якой ён разышоўся колькі год таму.

– Ну прывіт, мой смачны мужчына! Хаваесься ад мяне? – Вераніка, прымружыўшы вочы, абхапіла Вітаўта за шыю і падаравала яму доўгі пацалунак.

Вітаўт зь сілаю адарваў ад сябе дзяўчо.

– Слухай, як ты даведалася маю адрэсу?!

– Не скажу, даражэнькі, а то пасвару цябе зь сябрам! – Вераніка ўсьміхнулася й зьняла паліто, з-пад якога на сьвет выглянула вязаная кофта з глыбокім выразам, што адкрываў неверагодны від на пульхныя грудзі, паднятыя станікам.

– Ладна, ты гэта, заходзь, вядома, але сёньня ў нас вечар занядбана-вар’яцкага дзяцінства!

– Ой, ну ведаю я, я прачытала Граса, так што ня парся, я маю колькі пытаньняў і адказаў! – Вераніка накіравалася ў пакой, па дарозе раскідаўшы ў розныя бакі свой абутак, і не пасьпела яна як сьлед агледзецца, як раптам яе позірк спыніўся на сьценцы, і – Вераніка закрычала праз калідор у кухню, куды выправіўся Вітаўт:

– Знатныя ў цябе паліцы, Вітаўт! Сам ці ня сам?!

– Сам-сам! Учора толькі скончыў! Гэта мой гонар, я палічыў, што нашмат эканомней будзе самому сканструяваць і павесіць кніжныя паліцы. Тут даўжыня – 250 сантымэтраў і вышыня 200, і вісіць цяпер недзе пад 500 кілаграмаў кніг, усе з маёй уласнай калекцыі… – Вітаўт пачаў з крыку, але скончыў звычайным гоманам, калі дайшоў з кухні да Веранікі, трымаючы ў руках шклянку нефільтраванага піва.

– Блін, вусьцішна неяк на гэта глядзець, але сапраўды ўражвае. Такія паліцы павесіць!

– Так, уражвае! – дадае Інэса, выходзячы з кухні й ладкуючы агульны стол у пакоі, каб нарэсьце пачаць тое, дзеля чаго яны й сабраліся.

З кухні вярнуліся й астатнія: Гэня і Ян са сваёй спадарожніцай Нэляй. Сёньняшні вечар быў не такі й просты, кожны па дамове мусіў прачытаць адну з кніг: Іен Бэнкс “Асіная Фабрыка”, Агота Крыстоф “Тоўсты сшытак”, Гюнтар Грас “Бляшаны барабан”, Энтані Бёрджэс “Завадны апеяльсін” і ўсе сябры рыхтаваліся гутарыць на тэму сапсаванага дзяцінства, вар’яцтва, вычварэньняў.

Яшчэ колькі хвілін перасоўваньняў і ўладкоўваньняў сваіх целаў вакол стала й пітва, – і можна пачынаць літаратурны вечар, які далей будзе зафіксаваны па-канцылярску суха й амаль безэмацыйна, бо запісвалася ўсё ад самага пачатку, як і запаміналася – неайхайна, навобмацак, праз прызму алькаголю й невядома чаго яшчэ, што пакідала пасьля сябе толькі даўжэзныя, нікому непатрэбныя маналёгі, перапыненыя й разьбітыя кароткімі паўзамі, каб мець магчымасьць глынуць сьвежага паветра, хай сабе і разам з тытунёвым дымам:

*Ян.* Трэба сказаць, што я якраз люблю такіой дыямэтральны дуалізм. Калі адныя абліваюцца сьлязьмі шчасьця й замілаваньня, а ў цябе кніга выклікае зьдзіўленьне й раздражненьне, і ты знаходзіш сабе іншых, тых, хто кажа, што гэтая кніга проста сьмецьце. Здаецца, “Асіная Фабрыка” мае ўсе падставы для існаваньня… Месцамі жудасная, месцамі непрыемная, і, нягледзячы на агульную маруднасьць апавяданьня, адарвацца ад рамана складана, хочацца ведаць, што ж далей. У мяне раней было як, Шатляндыя – гэта краіна пустэльных выспаў з чэзлаю расьліннасьцю, якую раз-пораз ядуць дурныя авечкі, але тут усё інакш, вядома, тут ёсьць усё гэта –

расьліннасьць, авечкі… але тут яшчэ ёсьць міні-выспа й дом, дзе склеп забіты мяхамі з порахам і жыве дзіўная сямейка: бацька, які захоўвае Вялікую таямніцу ў сваім габінэце й спрабуе падарваць грамадзскасьць сваімі сакрамэнтальнымі адкрыцьцямі, напрыклад, манаграфіяй пра тое, што Зямля ня круглая, а ўяўляе сабою стужку Мёбіюса, або як па пердзежу даведацца, што чалавек еў і які ў яго настрой, характар; Фрэнк, які ня можа вырасьці зь дзяцінства, будуе запруды, плаціны, ладзіць вайнушкі з плястмасавымі салдацікамі, але ня толькі зь імі, часьцяком у расход ідзе й жывы матэрыял, яшчэ ў Фрэнка ёсьць Асіная Фабрыка, Ахвярныя Слупы, Бункер і шмат іншых зразумелых і цікавых толькі яму мястэчак, і Фрэнк захоўвае тры самыя жудасныя таямніцы свайго шаснаццацігадовага жыцьця: яго старэйшы брат Эрык зьехаў з глузду падчас працы ў бальніцы па даглядзе за слабавумнымі дзецьмі й цяпер падпальвае сабак і есьць дажджавых чарвякоў, маці... яна кінула іх, потым праз тры гады прыехала на дзявятым месяцы цяжарнасьці на байку, па-хуткаму нарадзіла й праз два дні пасьля родаў зьехала ў невядомым кірунку, сам Фрэнк ужо тройчы пасьпеў забіць, прычым ягоны падыход да забойстваў уражвае. І, напэўна, самае галоўнае ў кнізе, што пралівае цьмянае сьвятло на ўсё гэта дзікунства й шалёнае дзяцінства – яму сабака, яшчэ калі ён быў малым, адгрыз пісюн зь яйцамі, так, што ён ня толькі ня здольны мець нейкія полавыя зносіны, але й ссыць, як баба… Па-мойму – выдатна! Аўтар рэжа па жывому без наркоза, ломіць сваю праўду, гвалціць мозг.

*Гэня.* Дзякуй, Ян, за кароткі зьмест, але я вось што скажу. Кніга мяне не спалохала і не зьдзівіла. Усё, што тут апісана, – гэта, вядома, брыдка, агідна, але ня вусьцішна, таму што хваравіта, таму што па-дурному, таму што самі героі не разумеюць, хто яны такія ёсьць на самой справе.

Тут няма гэтага погляду назад, у мінулае, няма раскаяньня! Калі б было раскаяньне, тады было б вусьцішна ад усьведамленьня таго, што нарабіў. Але аповед вядзецца пра ненармальныя рэчы цалкам нармальнай мовай, быццам бы так і трэба. А галоўны герой не ўсьведамляе сваю… ненармальнасьць.. Ён лічыць сябе ў параўнаньні са сваім братам, Эрыкам, цалкам нармальным. І ён жахаецца таго, што Эрык падпальвае сабак, але ён сам ня так даўно сапраўды гэтак жа падпальваў зайцаў ды наогул забіў трох дзяцей. Але гэта для яго цалкам нармальна, гэта як мае быць, і ён зусім не дакарае сябе, і нават у фінале, калі адчыняецца таямніца Фрэнка, ён знаходзіць “рацыянальнае тлумачэньне” сваім забойствам і нічога не адчувае да тых трох дзяцей, якіх ён забіў, хоць па ягоным жа “рацыянальным тлумачэньні” ўсё гэта было дарэмна. Ён проста перакладае віну за ўсё на свайго бацьку. Але сябе вінаватым не адчувае. Гэта вельмі проста – перакласьці ўсё на бацькоў, абвінаваціць іх…

*Нэля.* Ой ну мля, што-та ў вас тут неяк інтэлектуальненька… А вы будзеце ўвесь вечар так? Га? А то мне ўжо спаць хочацца.

*Вераніка.* Ты лепш пі, даражэнькая, і маўчы, усім вядома навошта Ян цябе прывёў… Ладна, да кнігі… Вінаваціць бацькоў – гэта клясыка, гэта самае лёгкае… Я лічу гэтую кнігу бяздушным стварэньем. Я не магу чытаць кнігі, дзе апісваецца зло дзеля самога зла, бруд дзеля бруду, дзе няма катарсісу, дзе няма адчаю аўтара, дзе няма нейкага тлумачэньня, філязофіі! У мяне паўстае пытаньне: “Навошта?” У нашым сьвеце і так шмат розных паганых і жудасных рэчаў. Навошта запаўняць гэты сьвет яшчэ большым дзярмом? Адна справа пісаць пра зло, каб паказаць, якім яно можа быць, і каб людзі ўбачылі, да чаго той ці іншы дрэнны ўчынак

можа прывесьці, каб даць зразумець, што так нельга, ня варта, ня трэба! Але цалкам іншая справа – пісаць пра жахі проста таму, што гэта вусьцішна ці, лепей сказаць, эпатажна. Бэнкс на гэта й разьлічваў? Малайца! Правільна разьлічыў – ён прыўнёс з сабою супярэчлівае ўражаньне. Можна яму папляскаць! Гэтая кніга пабудаваная на чалавечай тупасьці, якая ніяк не ўсьведамляецца, якая проста замоўчваецца, на гэтым чортавым экспэрымэнтатары з хваравітым розумам. Я да канца не чытала, проста прагартала, дрэнь!

*Вітаўт.* Ой, Вераніка, што ты лезеш са сваімі "не спадабалася"… Тут проста гульня з таямніцаю, якая на працягу ўсяго раману трымае чытача. Мала цяпер такіх пісьменьнікаў, здольных трымаць сюжэт на адной падзеі, на адной галоўнай рэчы. А потым усё адразу раскрываецца, і ўсе шматлікія дзівацтвы й намёкі складаюцца ў адну карцінку, становяцца зразумелымі й маніякальнасьць апавядальніка, і шматлікае іншае. Мне падабаецца, што тут ёсьць тлумачэньне. Бацька Энгус не рэгіструе ўласнае дзіця, не пускае яго ў свой габінэт ні ў якім разе, кульгае ад таго, што ягоная жонака зь вельмі свабодалюбным характарам адразу пасьля родаў пакаціла на матацыкле ды зламала яму нагу. Ён, акрамя таго, пра што казаў Ян, склаў энцыкляпэдыю вымярэньняў уласнага дома, куды крапатліва занесена ўсё: ад даўжыні ножак стала й тэлефоннага дроту да ёмістасьці лыжкі, ён прымусіў сына вывучыць усё гэта на памяць, рэгулярна правярае. Гэта ж неверагодна сакавіта, гэта цудоўны раман… Мяне ўласна ў некаторых момантах ён узбудзіў! Усе мусяць даўно зразумець, мужчына без жанчыны ператвараецца ў лайно, у падабенства, у маньяка, у шалёнага маньяка! Усе мужчыны такім чынам губляюць чалавечае аблічча, а калі вам яшчэ адрэзаць хуй! Тут увогуле адбудзецца дзікае, шалёнае ператварэньне ў невядома каго ці што!

*Усе пакрысе пьюць ўіскі, разьліўное нефільтраванае піва, набытае ў суседняй міні-піўнушцы на рагу дома… каньяк… хтосьці ўжо перайшоў на мянтолава-мятны Глікадзін… кураць цыгарэты, сігарылы, лёгкую траўку… закусваюць сырам, памідорамі, белым, чорным хлебам, цытрынаю, памэлаю, аліўкамі, ядуць вэнджанае мяса, рвуць зубамі вэнджаны сыр… запіваюць усё зялёнай халоднай гарбатай, кока-колай, фантай, цытрынавым сокам, ананасавым сокам, яблычным сокам, вадою з распушчаным парэчкавым варэньнем, пьюць каву, дзьмухаюць на гарачае, мружацца ад халоднага, патнеюць ад сьпякотнага…*

*Інэса.* Яшчэ ў дзяцінстве я не магла спакойна назіраць за тым, як хлапчукі з маёй вёскі, зьбіраючыся на футбольным стадыёне, прэпаруюць безабаронных лялячак, жабак, кузурак, жукоў-насарогаў, як яны ловяць мышэй і галубоў і бьюць іх камянямі з рагатак… Ва ўсім гэтым было столькі першабытнага зьверства, глупства, непатрэбнасьці й неабгрунтаванай жорсткасьці, што я проста згубіла падлік аплакваньням няшчасных кузурак і ўласную няздольнасьць неяк паўплываць на малалетніх садыстаў. Я проста назірала, часам заплюшчвала вочы ад вычварэнстваў, але ніколі іх не спыняла, я таксама была часткаю гэтага… Калі нехта зь іх у больш сталым узросьце пераключыўся на кацянят, шчанюкоў, а потым і на бамжоў – я ўжо не зьдзіўлюся... Дзіўная кніга, так, але для мяне яна нішто. Дзіўная сямейка, дзіўныя людзі, дзіўныя падзеі, дзіўная Фабрыка. Шчыра кажучы, на пачатку ўсё здавалася мне такім неверагодным трызьненьнем. Усё апісана цынічна й холадна, што нехаця пранікаесься гэткім жа настроем, у такім выпадку пісьменьнік фантастычна з гэтым справіўся. Зь іншага боку, ніякага напружаньня й ніякага катарсісу… Напружаньне не

нарастае на працягу ўсёй кнігі, а толькі ўзрастае хвалямі мэдычная зацікаўленасьць да таго, як менавіта герой дасьць рады таму ці іншаму чалавеку… Напэўна, я маньячка, але толькі так і зацікавіла.

*Ян.* Ладна, уласна кажучы, хопіць з гэтай кнігай…

*Ян кідае на стол кнігу, за якую ён дамовіўся адказваць… Кніга была ў мяккім пераплёце, сэрыі покет-букаў, яна адразу разгарнулася недзе на пачатку рамана й так і засталася ляжаць самотніцаю сярод кілішкаў, кубкаў і талерак…*

*Інэса.* Я заўважыла, што стала шмат кніг, дзе апавядаецца вайна вачыма дзяцей. Гэтая тэма балюча б’е нават тых, хто не занадта сэнтымэнтальны. Два хатнія хлопчыкі-блізьнюкі прыяжджаюць да бабулі, якую раней ніколі ня бачылі, каб удалечыні ад вялікага горада перажыць вайну. Дакладней, іх прывозіць і пакідае маці. Нялёгка прыходзіцца дзецям ва ўмовах жорсткасьці і татальнай антыгігіены. Але пра што тут я?! Вайна, глыбінка... Хлопчыкі ня проста хлопчыкі, яны вельмі разумныя, таму трэніруюць цела й душу, каб навучыцца перажываць усе нягоды. Толькі вось да чаго прывядуць гэтыя практыкаваньні? Кніга сапраўды ад першых старонак зьдзіўляе сваёй шчырасьцю й праўдзівасьцю. Мова лёгкая, крыху нібыта дзіцячая, што дапамагае чытачу канчаткова паверыць у рэальнасьць існаваньня дзёньніка блізьнят. Спачатку ўсё даволі бяскрыўдна й нават на дзіва добра. Але паступова ўсё заблытваецца ў жахліва дарослым і дрэнным сьвеце, дзе даводзіцца выжываць гэтым дзецям, іх зусім не шкада, вусьцішна, што вайна робіць іх такімі. Мне толькі падалася некалькі залішняю наяўнасьць столькіх сэксуальных сцэн.

Нават ня ведаю, што лепш: каб гэта была толькі фантазія аўтара ці каб гэта была рэчаіснасьць. Вось чытаеш сучасную літаратуру – і ствараецца ўражаньне, што маньякі ўсюды і ў залішняй колькасьці! Так, стыль, манера пісьма – крыху адстароненая, безэмацыйная, але пранізьлівая дашчэнту… Непрывабны побыт і чалавечыя адносіны, якія цягнуць вас на дно, брыдка й прыгожа, часам усё выклікае нейкую гідлівасьць, а часам эратычнае ўзбуджэньне, часам пачуцьцё глыбокай тугі і, адначасова, для мяне гэтая кніга сталася новым узроўнем разуменьня свайго жыцьця!

*Ян.* Сапраўды, новае разуменьне… Я люблю менавіта такія кнігі, якія ствараюць новае для цябе асабіста, кнігі, празь якія вучысься ня толькі жыцьцю, але й пісьму! Калі я быў малым, недзе так чатырнаццацігадовым, я вельмі любіў гэтую кнігу, нават марыў нарадзіцца з такім жа братам-блізьнюком, і каб яго звалі Лукас, а мяне Клаўс, і мы былі б неверагодна бліскучымі садыстамі, мне моцна падабалася гэтая кніга, але, здаецца, на той час я яе ня надта добра разумеў, альбо наадварот, бачыў празь яе сьвет інакш… Не істотна! Мне ў кніжцы заўсёды падабаліся гэтыя пераходы – калі апошняя фраза папярэдняй часткі суадносіцца з першай фразай наступнай. Гэта ўсяго адна фраза, але кожны раз яна вельмі выразна дае зразумець, што цяпер будзе інакш – колькі будзе герояў, хто будзе галоўным, і чаго чакаць у бліжэйшай будучыні, але акрамя таго, што гэтая кніга неверагодна прыгожая сваімі рэзкімі разваротамі сюжэту, мне яна заўсёды падабалася яшчэ й як проста тэкст, чысты, празрысты тэкст. Тое, як гэты небагаты сінтаксіс дае фантастычны эфэкт… м-м-м… Смаката! Гэта выдатна! Але самае цудоўнае, дык гэта тое, што як толькі ты пачынаеш верыць у тое, што распавёў аўтар, разумець, асуджаць, шкадаваць – раз, і пачынаецца новая частка кнігі, якая пераварочвае ўсё

з ног на галаву. І так некалькі разоў, да тых часоў, пакуль ты не пачынаеш блытаць праўду з выдумкай. А пад канец, калі адрозьніць блізьнюкоў адзін ад аднаго практычна немагчыма, аўтар нарэшце спускаецца да чытача й расквітваецца зь ім, як забойца, як садыст, ён адразу пераразае ўсе ніткі апавяданьня, пакідаючы цябе паміраць…

*Гэня.* Годная кніга, здаецца лепшай па выкананьні за папярэднюю… Рэалістычная, жорсткая, гідкая, злосная, але ж неверагодна мяккая, спакойная й родная, танюткая й бязважкая… побач з гэтай кнігай не стаялі ані Голдынг, ані Сэлінджэр. Гэтыя дзеці чымсьці нагадваюць Оскара, чымсьці знакамітага Курдупеля Цахеса. Як на мяне, мова скупая, пазбаўленая мэтафар, параўнаньняў, мастацкіх апісаньняў, але ў наш час гэта часта лічыцца плюсам, прыкметай мадэрновасьці ці чагосьці такога кшталту, калі тэкст ёсьць інфармацыяй, ня болей. Які час, такая і мова. Кніга складаецца з трох твораў, кожны твор перакульвае зьмест папярэдняга, як бы перакрэслівае некаторыя падзеі, зьмяняе іх сэнс і зьмест. Жорсткі стыль, шмат гвалту, сэксу, злосьці чалавечай, вельмі мала любові, але менавіта чалавечнасьць у гэтай кнізе вымалявана найбольш яскрава, у кантэксьце вайны, таталітарызму, усеагульнай недаверлівасьці й зласьлівасьці. Дзеці выдумляюць сабе жыцьці, яны проста выжываюць, у адрозьненьне ад падобных герояў у таго ж Коба Абэ, Макса Фрыша альбо Ўільяма Голдынга… І яшчэ мне, хм, падабаецца, што тут не да канца зразумела, што да чаго з гэтымі блізьнятамі… а пэрсанажы якія ў рамане(!): бабуля, Заечая Губа, кюрэ, Лукас, Клаўс, Маціяс… Калі праглядзець зрэз апошніх раманаў пра “дзяцей”, можна ўбачыць, што героі становяцца больш гострымі, не такімі гладкімі, як каменьчыкі, якія кінуў – і яны запляскалі жабкамі па паверхні тэксту, весела, бесклапотна… Мы можам бачыць,

што дзеці робяцца складанымі, злымі, шалёнымі, і нашая сучаснасьць да канца яшчэ не спарадзіла таго апошняга, галоўнага літаратурнага дзіцёнка, які, стаўшы правадыром усёй гэтай недарослай зграі жудасных стварэньняў, павядзе іх вайною на нашых будучых дзяцей і зьнішчыць іх. Як бы мы ні імкнуліся забараняць гэтыя кнігі, кляйміць іх “чорнымі сьпісамі”, для нас, як вядома: “Рукапісы не гараць!”, спадарства. Амэн.

*Ян.* Усе, хто чытаў кнігу, зразумеюць мяне, што напісаць альбо патлумачыць, выказаць нешта пасьля яе прачытаньня досыць складана. Ты як быццам апынаесься ў вакууме. Складана апісаць свае адчуваньні. Я зразумеў, што сьмерць у кнізе набывае зусім іншы кантэкст, яна пададзеная як выратаваньне, і мне гэта даспадобы... У кнізе няма месца слабасьцям. Канец кнігі сьцвярджае ісьціну пра тое, што калі ты застаесься адзін, то ты прайграў у гэтым жыцьці. Амэн. І так, пасьля гэтага раману я доўгі час баяўся пісаць сваю прозу, бо баяўся сутыкнуцца з тым недарослым пісьмом, з сорамам.

*Вітаўт.* Ня ведаю, мяне прасьцей было б прымусіць паесьці гаўна, чым дазволіць апынуцца ў гэтых жудасных вычварэнскіх падзеях між нейкімі дзецьмі. Я не дачытаў, але стараўся, вельмі, паверце! Гэтая жорсткасьць, ваенны цынізм, брудныя людзі і такія ж словы, гутаркі, падзеі, учынкі... Я скочваўся да шызафрэніі… Было адчуваньне, быццам бы з кожнай старонкаю мяне па патыліцы білі нейкім ваенным рэменем… Немагчыма было чытаць гісторыі, у якіх прысутнічала Заечая губа! Я прайшоў свайго кшталту літаратурную лябатамію…

*Вераніка.* Я не чытала гэтую кнігу, і мне гэта неяк фіялетава!

*Вітаўт.* А цябе ніхто не пытаў!

*Вечар падыходзіў да свайго дзівоснага мэдыюму, ежа была ўжо не цікавая, гутаркі ліліся хутка, спрэчкі ня надта выходзілі, сёньня Гэня й Ян былі на дзіва лагодныя і спакойныя, і ўсе ведалі, што калі так, то ніхто асабліва спрачацца ня будзе. Усе ведалі, што калі ёсьць пэўная колькасьць вадкасьці, гэта выратуе сітуацыю, выратуе вечар, надасьць яму рахманасьці… але гэта мусіць быць сапраўды пэўная колькасьць, адмераная грамамі, міліграмамі, адмераная самім жыцьцём, страўнікам, крывацёкам, дбайным падыходам да справы, няўлоўнымі рухамі, вачыма ў цёмных вачніцах, дрыготкімі вуснамі, белымі павекамі.*

*Вераніка.* Зараз, напэўна, мусіць пачынаць Гэня, але пачну я, бо гэтыя шэсьцьсот старонак, якія радок за радком сплятаюцца ў адзінае маштабнае палатно, я прачытала яшчэ колькі год таму, але не магу ніяк пазбавіцца адчуваньня, што ў пісьменьніка нейкая вельмі “нямецкая” проза: шчыльная, насычаная, няхуткая, важкая. Сам працэс чытаньня чамусьці нагадаў вязаньне, быццам бы як вяжаш, колькі радкоў зрабіў, і перапынак, а потым ізноў за справу, доўга, месцамі марудна, але багата, шыкоўна… а калі давязваеш, скажам, швэдар, яго карціць працягваць вязаць далей, не спыняцца, таму шукаеш іншыя кнігі гэтага пісьменьніка. Не хацелася таксама запісваць нейкія цытаты, бо тэкст не паддаецца на тое, каб штосьці вырываць з кантэкста, але вельмі хацелася самой запісваць свае ўласныя думкі, мары, сьненьні, трызьненьні. Калі пісьменьнік прымушае цябе самога бачыць, разважаць, прыдумляць, гэта я цаню нашмат вышэй за сакавітасьць мовы альбо сюжэтныя незвычайныя павароты. Колькі культурных, літаратурны алюзій выклікае хаця б галоўны герой Оскар, ён як адзін вялікі мэтатэкст! Гэткі сучасны бажавоўк, Пітэр Пэн у новым выглядзе! Оскар –

гэта своеасаблівы пацукалоў, які замест традыцыйнай дудкі ўзброены сваім барабанам, пад які прымушае скакаць шаноўную публіку. Нарэшце, Оскар – Ісус, новы мэсія, якому закарцела абвясьціць новы набор вучняў. Але, ладна, нешта я крыху зьбіваюся… Я лепей выпью. Дзякуй.

*Інэса.* А я магу сказаць, што маё падарожжа па такой колькасьці старонак гэтай кнігі роўнае каханьню, я не магла адцягнуцца й замест вязаньня параўнаю свой працэс з паглыбеньнем, быццам нырaеш і плывеш, плывеш на дно, але не захлынаесься, толькі плывеш і ўсё, і нават калі кранаесься дна рукамі, выплываць не зьбіраесься… Гэткая Адысэя, вандроўка ў адзін бок, рамантычная й жаданая, каштоўная й сэксуальная… Разьвесялілі гісторыія пра чатыры спадніцы бабулі Ганны, якія мелі бульбяны колер, пра дзядулю Каляйчэка й ягоную гераічную сьмерць пад плытом, але, вядома, літаральнай вясёласьці там няшмат, хутчэй іронія, гратэск. Цяжка зразумець, дзе зьнікае Оскар-апавядальнік, дзе выяўляецца Оскар-герой. Ён разумны не па гадах, разважае як дарослы або нават у некалькі разоў лепей за любога дарослага. З дапамогай свайго барабана ён мае зносіны зь людзьмі, выстуквае на ім усё, што адчувае, жадае, назірае. Дзіўна ўсё, сьмешна, неверагодна, але мае права на існаваньне. Оскар – карлік, які наўмысна вырашыў ім стаць, пазьней, калі крыху пасталее, ён ужо гарбун. Па мне, ён нясе толькі неразуменьне, скажэньне, злосьць. Ён ламае стэрэатыпы і вывальвае ў сьвет як свае заганы, так і заганы іншых людзей, падбіваючы іх на гэта, дамагаючыся ад іх страшэнных прызнаньняў і дзеяньняў. Ён нясе сьмерць. Оскар – гэта адлюстраваньне таго грамадства, тых людзей, якія атачалі яго. Оскар – гэта адлюстраваньне вайны і тых заган, якія людзі так старанна ў сабе хаваюць. Оскар – гэта недачалавек, які ўвабраў у сябе ўсё зло сьвету, усё зло людзей.

*Гэня.* Нямецкая літаратура часта бывае нуднай, сапраўды зануднаю, цягучаю, як карамэль… Напышліваю, шматзначнаю, пукатаю, але па-сутнасьці пустою, і такую літаратуру трывае маладосьць, якая ўсім цікавіцца… Я любові да такой літаратуры не адчуваю, таму зварот да гэтай кнігі лічыў глупствам… але… Неверагодны твор! Як ён па-майстэрску ўплятае чытача ў павуціньне апавяданьня, жах проста. І з такой буйной кнігі не выдаліш ані слова, не прагартаеш яе хутка. Яна як адзіны вялікі будынак зь лесьвіцаю безь ліфта, і ты караскаешся наверх, караскаесься. Спачатку было цяжка наладзіцца на патрэбную хвалю, але чым даўжэй чытаеш, тым радзей хочацца адрывацца ад рамана. Праз мову, праз гэтую ажурнасьць чытаецца, як п'ецца ў сьпякотны дзень, наталяешся й адначасова ніяк ня можаш наталіцца, гэта майстэрства вышэйшага гатунку, гэта тое, што было б для мяне ўзорам, калі б я хацеў стаць пісьменьнікам…

*Вітаўт.* Як па мне, тыповы прыклад постмадэрнісцкага дыскурсу: знак на знак і сымбаль на сымбаль, цытата на цытаце, форма і ёсьць зьмест, аўтар і ёсьць тое, што апавядаецца. Сапраўды, хутка раман не прачытаеш, асабліва калі няма звычкі да такіх тэкстаў. Затое пасьля двух тыдняў удумлівага чытаньня застаецца задавальненьне ад праведзенага інтэлектуальна-пазнавальнага працэсу, адчуваецца насычэньне, якога часта не стае ў творчасьці. Гэта своеасаблівы кайф ад адчуваньня, што ўсе дэталі і падрабязнасьці ў канчатковым выніку працуюць на цэласнасьць агульнай карціны. Гэта як разглядаць накіды да гістарычных палотнаў.

*Ян.* Я падсьвядома параўнаў гэту кнігу з раманам “Гульня шкляных пэрлаў” Германа Гесэ. Абедзьве кнігі – гэта квінтэсэнцыя мастацкай дзейнасьці, гэта сумесь гармоніі й

галаваломкі, гэта калі аўтар настолькі ведае сваю тэму, што проста атрымлівае неверагодную асалоду, гуляючы з тэкстам, як са сваім дзіцёнкам, падсоўвае яму розныя цацкі, лялькі, цукеркі, гэта ёсьць шчасьце, сябры, я мару напісаць штосьці такое. Мару!

*Кожная хвіліна бегла наперад, шалёна зьбягала ад вечара да ночы, непрыкметна захінала, скрадала моц, цалавала ў патыліцу й правісала на падваконьні, да таго як зьляцець праз фортку. Кожная хвіліна не магла заставацца адвечна ў гэтым пакоі, напоўненым пахам тытуню й алькаголю, хвіліны напаўзалі адна адну, яны ляцелі й высковалі з форткі наўпрост у сьнежныя гурбы...*

*Вітаўт.* Здаецца, больш ніколі ня будзем браць столькі кніг за раз! Але слухайце апошнюю гісторыю: раман, напісаны дзякуючы Другой сусьветнай вайне і інцыдэнту, які адбыўся зь цяжарнай жонкай пісьменьніка – яна была згвалтаваная чатырма амэрыканскімі вайскоўцамі й страціла дзіця. Раман, напісаны дзякуючы ўпэўненасьці аўтара ў тым, што ён сьмяротна хворы і яму трэба неяк забясьпечыць сям’ю, і пісьменьнік кожны дзень пісаў па пяць-дзесяць старонак, каб за год пасьпець напісаць дзесяць раманаў... Гэты раман стаўся пятым. Наскрозь прасякнуты болем ён імгненна атрымаў статус культавага і быў уведзены ў школьную праграму, затым атрымаў статус забароненага і са школьнай праграмы, адпаведна, выкрэсьлены. Яшчэ крыху гісторыі... Нягледзячы на ўсе пратэсты аўтара, выдавецтва ў ЗША выпусьціла раман без заключнай, дваццаць першай часткі, лічачы, што ў happy end ніхто не паверыць. І гэта пры тым, што колькасьць частак невыпадковая, гэта сымбаль паўналецьця! А я ж думаў, што толькі ў нашай краіне існуе непрадказальны, містычны

дэбілізм у выдаўцоў!.. Асноўным пасылам гэтага твора зьяўляецца, па словах Энтані, “хрысьціянская свабода волі і сіла прабачэньня”. Гэта адна з маіх любімых кніг, шмат у чым дзякуючы сваёй моўнай эстэтыцы… лінгвістыка тут проста заліхвацкая, сапраўднае мастацтва, як па мне, мастаку...

*Ян.* Так… Алекс… яго можна ўспрымаць па-рознаму: ненавідзець, любіць, жадаць, ганьбіць, але нэўтральных пачуцьцяў дакладна ня будзе… У Алекса была сапраўдная свабода, адзіная сапраўдная свабода! Да якой ён ставіўся з усім сваім юнацкім максыімалізмам! Можна вельмі доўга аналізаваць сам сюжэт гэтага геніяльнага твора, і кожны знойдзе сабе свой уласны адказ, які можа быць і апраўданьнем, і судом, гэта такая ж двухбаковая кніга, як і першая, якую сёньня разьбіралі, гэта жудасна й прыкра, але прыцягальна й сьвята… When a man cannot choose, he ceases to be a man – чалавек гэта нешта большае, чым проста кавалак мяса. Вы ня можаце разрэзаць яго на часткі й напхаць у яго мэханізмы, а потым узяць дыстанцыйны пульт, націснуць на якую хочаце кнопку і ўсё гатова, ён харошы, вясёлы й умее любіць, чалавек – гэта ў першую чаргу шалёныя думкі, гэта вычварэньне, гэта аборт, а ўжо потым анёл, матыль ці птушка, чалавек-мясаед – гэта норма быцьця для нас.

*Інэса.* Рана ці позна чалавека перастае задавальняць нават абсалютная свобода, бо гэта сумна, прыкра, не цікава, таму, напэўна, нам так дзіўна жывецца тут, без памкненьняў, жаданьняў штосьці мяняць, бо мы ня ведаем, што будзем рабіць, атрымаўшы свабоду, можа быць пойдзем і трахнем суседку, а потым разрэжам ёй жывот, напхаем туды саломы й зробім нашай хатняй лялькай… Я думаю, кніга менавіта пра гэта.

Гэня. Тэхніка, з дапамогай якой зьмяняюць Алекса, яго стаўленьне да рэчаіснасьці, не прыносіць карысьці. Доказам

таму зьяўляецца боль, які суправаджае героя… э-э-э… і гэтая “Ода радасьці”... Блін, няма ў мяне настрою пра гэта гутарыць, я б памаўчаў…

*Ян.* Ладна, я проста раю гэтую кнігу чытаць у арыгінале! Усе гэтыя “horror show” замест “добра” і “razdrazh” ствараюць ашаламляльны стылістычны эфект. Кніга, вядома, поўная сцэнаў неапраўданага гвалту, але гэта толькі надае страве смак… Люблю гэтую кнігу, і даўно парваў яе ў ушчэнт на цытаты.

І на сёньня: Amen. And all that cal.

Як толькі Ян скончыў, Гэня, нажлукціўшыся да адурэньня, пачаў мармытаць штосьці пра лайно й сусьветны армагедон, ён варочаў галавою і зьнешне ня быў настроены на адказы й камунікацыю.

Ян у сваім фатэлі адразу стаў заняты Нэляю, якая, пачаўшы сумаваць яшчэ на пачатку вечара, толькі й рабіла, што жлукціла, глядзела ў столь, паліла й чакала, калі яе мужчына займецца сапраўднымі справамі...

Вераніка, седзячы ўжо ў адным станіку й майтках, скасабочана спрабавала “строіць вочкі” Вітаўту, які зусім не зважаў на яе і быў паглыблены ў разважаньні… За вокнамі гучна дзьмула, сьцюдзёна дзьмула, абуджаючы ў галовах людзей старажытныя жахі й прымушаючы ўздымацца першабытным павер’ям і вераваньням у багоў сьцюжы, багоў усеўладных, вялікіх, непаўторных, багоў усіх стыхіяў і Космасу...

– Ну добра, што сёньня да канца атрымалася, але штосьці зашмат кніг, наступным разам будзем адну-дзьве рваць!.. – прамовіў Вітаўт, і раптам Гэня апантана ўстаў і ў адных шкарпэтках, саколцы й джынсах пабег да ўваходных

дзьвярэй, рэзка іх адчыніў і схаваўся ў цемры калідора, у якім ужо пасьпелі ўвечары выкруціць лямпачку.

Вітаўт выбег на гаўбец, расчыніў вакно й пачаў крычаць Гэню, каб той вяртаўся, а то ж прыдумаў у такую сьцюжу бегаць!

Вераніка спакойна засталася чакаць Вітаўта ў пакоі, папраўляючы грудзі ў станіку, да яе прысела Інэса й упілася сваімі вуснамі да ейных вуснаў, з жарсьцю ўкусіўшы.

Ян, які сядзеў на фатэлі, трымаючы цела Нэлі, выказваў сваю абыякавасьць да ўсяго наогул і красамоўна лапаў дзяўчынцы жопу, запускаў руку праз калготы да яе вільготных майткоў.

А Гэня тым часам бег… бег ад свайго лёсу й ад сяброў, ад каханьняў і ад дапамогі, ад думак і ад самога сябе. Ён бег, як бяжыць ад драпежніка заяц, з розьніцай толькі ў тым, што Гэня наўмысна нацэліўся драпежніку роўна ў пастку.

Бяжы, Гэня, бяжы! Бяжы шпарка, як раней ніколі ня бег! Бяжы ў першую чаргу ад самога сябе!

# ІНТЭРМЭЦЦО. ПАВЕТРА

Паветра – натуральная сумесь газаў, галоўным чынам азоту й кіслароду, якая складае зямную атмасфэру. Паветра неабходнае для нармальнага існаваньня ўсіх наземных жывых арганізмаў: кіслярод, які зьмяшчаецца ў паветры, у працэсе дыханьня пастурае ў клеткі арганізма й выкарыстоўваецца ў працэсе акісьленьня, у выніку якога адбываецца вылучэньне неабходнай для жыцьця энэргіі. Паветрам дыхаюць, паветраным шарам лётаюць, у паветры жывуць, “паветрыям” даюць веры, але гэта ўсё ня мае ніякага значэньня, калі ты стаіш перад расчыненай нарасхрыст форткаю і спрабуеш прызнацца сабе, што табе паветра больш не патрэбнае, паветра больш не існуе як твой адмысловы сьвет, паветра цяпер замянілі на пылцу, на кветкі, якія ствараюць сваю, ўласную экасыстэму… У прамысловасьці і ў побыце кіслярод выкарыстоўваецца

для спальваньня рэчываў з мэтай атрыманьня цеплыні й мэханічнай энэргіі ў рухавіках унутранага згараньня. З паветра мэтадам звадкаваньня атрымліваюць інэртныя газы. А яе бацька любіў выпускаць газы, асабліва калі маці ляжала разам зь ім пад коўдраю, ён гучна пярдзеў і потым нагамі й рукамі падымаў і апускаў коўдру, праветрываў, пакуль да яе з зусім яшчэ малою сястрою й братам не даходзіў гэты сьмярдзючы пах напаўпераваранных сасісак і піва, пяльменяў і гарэлкі… грэбаныя газы… У 1754 годзе Джозэф Блэк эксперымэнтальна даказаў, што паветра ўяўляе сабою сумесь газаў, а не аднастайнае рэчыва. Склад паветра можа зьмяняцца: у буйных гарадах утрыманьне вуглякіслага газу будзе вышэй, чым у лясах: у гарах паніжанае ўтрыманьне кіслароду з прычыны таго, што кісларод цяжэй азоту. Кожным разам, як яна заводзіла машыну й раніцою ехала на працу альбо па іншых справах, яна ехала ў любое надвор’е з зачыненымі вокнамі, дыхала толькі тым, што дае кандыцыянэр, бо раніца ў горадзе – гэта атручанае жыцьцё, заторы, машыны выдаюць неверагодную колькасьць смуроду, а калі яшчэ паліш, атрымліваецца бэнзынава-цыгарэтная раніца, якую зьверху застаецца толькі прыглушыць моцнай каваю, і пасьля, яшчэ да абеду, да цябе прыходзіць шалёная пякотка… Паветра заўсёды зьмяшчае пары вады. Так, пры тэмпературы 0°С 1 м$^3$ паветра можа ўтрымліваць максымальна пяць грамаў вады, а пры тэмпературы 10°С – ужо дзесяць грамаў. Яна шалёна дыхала паветрам, яна дыхала сасновым паветрам, яе не было нідзе, акрамя як тут, у паветры, яна абагаўляла паветра, а паветра ў сваю чаргу варушыла яе спадніцу й нахабна лашчыла павекі... Дынамізм, рухомасьць, плястычнасьць паветранай стыхіі, нягледзячы на відавочную цяжкасьць малюнка, зрабілі паветра й сьвятло любімымі тэмамі мастакоў стылю барока. У жывапісе

й скульптуры паветраную стыхію малявалі залатымі прамянямі сьвятла. Ніцшэ пісаў пра паветра, што гэта найвышэйшая й самая тонкая з матэрый. З паветра выткана свабода чалавека. Таму сымбаль паветра – ў першую чаргу гэта сымбаль свабоды. Гэта свабода, для якой няма ніякіх перашкод, бо паветра нельга абмежаваць, нельга злавіць і надаць яму форму. Яна разумела, што губляе свабоду, што яе воля цяпер залежыць ад ветру, гэтая грэбаная пухліна, пекла гэтых невыносных працэсаў маруднага паміраньня. Гэта сымбаль ня толькі фізычнай, але й духоўнай свабоды, свабоды думкі. Таму прысутнасьць знакаў паветра на якой-небудзь паверхні кажа аб лёгкасьці мысьленьня, свабодзе й непрадказальнасьці. Яе лёгкія насычаліся кіслародам, яны сутаргава паддаваліся пад паветраным ціскам і потым выпускалі паветра вонкі, лёгкія падводзілі, яны падводзілі пэўную мяжу. Лёгкія – органы паветранага дыханьня ў чалавека, усіх млекакормячых, птушак, паўзуноў, большасьці земнаводных, а таксама ў некаторых рыб. У ейнай краіне толькі паветра засталося вольным. У лёгкіх ажыцьцяўляецца газаабмен паміж паветрам, якое знаходзіцца ў парэнхіме лёгкіх, і крывёю, якая працякае па лёгачных капілярах. Лёгкія зьяўляюцца парнымі органамі: звонку пакрытыя сярознай абалонкай – плеўрай, якая ў сысуноў і ў чалавека высьцілае таксама грудную паражніну й пярэднюю (у чалавека – верхнюю) паверхні груднОй клеткі. Плеўра… ад юнацтва асацыявалася ў яе толькі з жанчынаю, як цяжка ўявіць, што ў цябе ў лёгкіх існуе плеўра, як і там, унізе, таксама свая плеўка… быццам бы жанчына ў квадраце, вось толькі лёгкія немагчыма згвалціць, немагчыма заняцца сэксам зь імі, ну пакуль жывы, дакладна, але хто яго ведае… Паветраная анэмія – дыханьне жыцьця, творчы пачатак прыроды. Спусташальны вецер, гром і маланка, залева,

зьвязаныя разам ад стварэньня пачатку жыцьця... У антычным мастацтве паветра ўвасабляла німфа Аўра, яе малявалі юнай дзевай, якая сядзела на лебедзі, узмахі крылаў якога стваралі аўру – подых, ветрык. Яна больш ня бегала, яна толькі дыхала, нават не хадзіла, не перасоўвалася, толькі дыхала, гэта займала ўсё яе жыцьцё. Дыханьне – працэс, які забясьпечвае мэтабалізм жывых арганізмаў кіслародам з навакольнага асяродзьдзя і адводзіць ў навакольнае асяроддзе ў газападобным стане некаторую частку прадуктаў мэтабалізму арганізма (СО2, Н2О і інш). Дыханьне – асноўная форма дысыміляцыі ў чалавека, жывёл, расьлін і шматлікіх мікраарганізмаў. Пры дыханьні багатыя хімічнай энэргіяй рэчывы, якія належаць арганізму, акісляюцца да бедных энергіяй канчатковых прадуктаў (дыяксіду вугляроду й вады), выкарыстоўваючы для гэтага малекулярны кіслярод. Яна мела ўсе неабходныя прылады для кантролю за лёгкімі, яна сталася прымусовай фанаткай сваіх лёгкіх, яна цяпер не магла ў пэўным сэнсе жыць без усюдыісных думак пра ІХ, яна прачыналася й заўважала, што дыхае, так як і ўчора, значыцца, новы дзень настаў, значыцца, яшчэ адзін новы дзень… яшчэ адзін дзень… Капнограф – прыбор для вымярэньня й графічнага адлюстраваньня колькасьці вуглекіслаты ў паветры, выдыханым пацыентам на працягу пэўнага перыяду часу. Пнэўмограф – прыбор для вымярэньня й графічнага адлюстраваньня частаты, амплітуды й формы дыхальных рухаў на працягу пэўнага перыяду часу. Сьпіртограф – прыбор для вымярэньня й графічнага адлюстраваньня дынамічных характарыстак дыханьня. Сьпіртамэтар – прыбор для вымярэньня жыцьцёвай ёмістасьці лёгкіх. У Сярэднявеччы духамі паветра лічыліся сыльф і сыльфіда. У мастацтве акадэмічнага клясіцызму паветраная стыхія пэрсаніфікавалася алегарычнымі фігурамі з

атрыбутамі – цацачнымі ветранымі млынамі ў руках. Млыны ў руках, цацачныя млыны ў руках, як жа гэта цудоўна, давайце крыху пакінем тут месца, каб замілавацца, каб лёгка гэта ўявіць… м-м-м… паветра… млыны… паветра. Яна ад самага дзяцінства памятае несупынную барацьбу з паветрам… спачатку апранаешся, каб цябе не прасквазіла, потым на вуліцы змагаешся з тым, каб цябе ня зьнесла ад ветру. Паветра надавала ейнаму жыцьцю сьмешны сэнс барацьбы, паветра зьдзекавалася, калі ўсе ў школе бегалі па чатыры кілямэтры ўздоўж лесапаласы, яно прадзіралася пад скуру, студзіла потныя сьпіны, але толькі паветра кранала яе ласкава, калі хацела таго, паветра высейвала зёлкі, паветра дапамагала кветкам апыляцца… Паветра паводзіла сябе па-markрознаму, як і чалавек.

## БЫЛА РАНІЦА, ПАЧЫНАЎСЯ НОВЫ ДЗЕНЬ

6:00

Была раніца, пачынаўся новы дзень. У ванным пакоі ў адных сямейных майтках перад люстэркам стаяў Ян і спрабаваў трапіць у рытм:

– Remember me when you're the one who's silver screen! – нязграбна сьпяваў ён, трымаючы пад струменем вады лязо, ён зьбіраўся галіцца й ісьці на працу, але рознакаляровыя думкі з жыцьця трымалі й не давалі волі рухам. Ян намагаўся ўспомніць Віку, але ўспамінаў толькі песьню Плэйсіба, пад якую так любіў яе цалаваць.

Ён паўтарыў некалькі разоў прыпеў і, не дабраўшыся да другога куплета, адклаў лязо і шчодра намазаў твар гелем для галеньня.

Празь некалькі хвілін левая шчака была ўжо чыстая, і картрыдж з чатырма лязамі спаўзаў на шыю, як раптам ў ванны пакой завітала прыспаная Яніна й прынесла яму мабілку, якая нецярпліва паўтарала адну і тую ж мэлёдыю званка. Для шасьці раніцы гэты званок быў незвычайным. А такія тэлефанаваньні, наколькі ён ведаў, нічога добрага не прыносілі, вядома, калі толькі ў цябе ня дзень народзінаў, тады пачынаюць турбаваць ажно з ночы, намагаючыся першымі павіншваць, і гэта часта па-просту раздражняе.

Па выразе твару Яніны Ян зразумеў, што яна ня надта радая такому абуджэньню. Ён адклаў лязо і паднёс мабілку да вуха, выпэцкаўшы плястыкавы корпус у пену ад гелю.

– Так, слухаю! – раздражнёна прамовіў ён, а потым ужо цішэй і спакайней дадаў: – Ага, так, ага, зразумела… Які жах, Валя!..

Ян яшчэ “патакаў” і “паагакаў” некалькі хвілін, з кожнай сэкундай паніжаючы голас. Пасьля паклаў тэлефон на паліцу з ручнікамі і ўтаропіўся ў люстэрка.

У такой паставе ён прастаяў зь дзесяць хвілін і, запамятаваўшы, што галіўся, абцёр вільготнай гарачай тканінай твар, спусьціў майткі і ўладкаваўся на ўнітазе. Ягоны позірк заставаўся такім жа безэмацыйным, як і хвіліну таму перад люстэркам. Ванны пакой напоўніўся смуродам, Ян на гэта не зьвяртаў увагі.

З аслупяненьня яго вывела Яніна, якая ізноў зайшла ў ванны пакой ды пабачыла Яна на ўнітазе:

– Фу, Ян!!! Ось як мне спатрэбіцца пасікаць, дык цяпер трывай, пакуль ты скончыш!!! – абурылася дзяўчына.

– Любая, я сёньня не іду на працу, – прамовіў Ян, – у мяне жалоба – Вітаўт скончыў жыцьцё самагубствам.

– Як?! – жахнулася Яніна.

– Я ня ведаю падрабязнасьцяў, мне толькі што патэлефанавала Валя і распавяла, што сама яго знайшла. Яны былі на лецішчы... яна яго знайшла колькі гадзін таму, ноччу. – Ян раптам спыніў аповед і паглядзеў на сваю каханку. – Слухай, можа ты празь пяць хвілін зойдзеш, я б хацеў скончыць сваю справу.

7:00

Ян змыў і, памыўшы рукі, уключыў ваду, каб наліць поўную ванну. Яму раптоўна захацелася цалкам памыцца, і нават не памыцца, а пераехаць жыць у ванны пакой. Усе рухі Яна былі быццам не яго, жаданьне застацца ў ванным пакоі для яго выглядала натуральным. Усе думкі былі накіраваныя на Вітаўта, сэрца ныла, ён баяўся да канца ўсьвядоміць той факт, што яго сабра-мастака больш няма...

Пакуль Яніна пасікала, ён пасьпеў зьняць саколку, майткі ўжо даўно самотна ляжалі ў куце.

Ён апусьціўся ў цёплую ванну. Было сем раніцы. Косткі занылі ад цяпла, цяжкія думкі аб сьмерці й лёсе ягоных сяброў і знаёмых цяпер варушыліся з хуткасцю пары, якая ўздымалася па-над вадою. Пальцы на руках і нагах пачалі набіраць вільгаць і пухнуць. Чэлес, самотна плаваючы, глядзеў галоўкаю ўверх, не абрэзаны, падобны да мурашкаеда, ён цягнуўся да штучнага сьвятла лямпачкі на столі.

– Я, напэўна, не пайду сёньня ў майстэрню, адкладу працу на заўтра, – прамовіла Яніна, паглядзела на Яна й пачала здымаць зь сябе піжаму, – так што пасунься, праз пару хвілін я да цябе далучуся, і ты мне ўсё падрабязна распавядзеш.

Яніна на сэкунду спыніла распрананьне і, усьміхнуўшыся, выйшла з ваннага пакою ў піжамных штанах.

Ян застаўся сам-насам са сваім целам і скрушнымі думкамі. Раніца пачала падавацца незвычайна вільготнай, нібы сьлёзы, і шэрага, цёмна-сіняга колеру, нібы дно акіяну. За апошнія два гады ён усе раніцы нязьменна бавіў аднолькава – зьбіраўся на працу. Сёньня нагода застацца дома была настолькі вусьцішнай, што Ян думаў, няхай бы ён усё жыцьцё толькі й зьбіраўся на працу, абы сябра быў жывы.

Ян узяў мабільны тэлефон і набраў Інэсу.

8:00

– Божа, які жах! Які жах! Які жах! З кім з нас Вітаўт размаўляў апошні раз, не з табою?

– Не, Інэса, не са мною.

– Я ў сваёй вёсцы… Пакіну дзяцей тут і адразу паеду ў Менск… Наведаю Гэню, і тады да Валі, каб дапамагчы з пахаваньнем… Мо Гэня нарэшце выйдзе з кватэры, яны ўсёткі зь Вітаўтам блізкія сябры, вучыліся разам…

– Наконт Гэні ня ўпэўнены, ён не выходзіў з дому, ты ж ведаеш, недзе ўжо два гады… я сёньня не пайду на працу, застануся дома, трэба падумаць… заўтра пабачымся, займіся там з Валяю справамі, а заўтра я ўжо падтрымаю… Здаецца, мяне проста пакінулі ўсе сілы сёньня штосьці рабіць… Паспрабуй выцягнуць Гэню. Пакуль. Прабач мне, і Валі перадай прабачэньні, што сёньня не прыеду.

– Пакуль.

Думкі штохвіліну вярталіся да тэлефоннай размовы, пакуль ізноў не зьявілася Яніна, цалкам голая, зь невялічкім столікам-падносам у руках, на якім былі ўтульна ўладкаваны

два кубкі кавы, чакалядна-гарэхавая “Нутэла”, чатыры тоставыя кавалкі хлеба і адна запаленая сьвечка.

Яніна павольна апусцілася ў ваду насупраць яго і з падлогі, выкладзенай чорнай пліткай, падняла столік-паднос і ўладкавала на парэнчах ванны паміж іх целамі.

– Распавядзі мне, што здарылася!

– Пазьней. Мне ня хочацца есьці…

– Напрыклад, я пра цябе амаль нічога ня ведаю, мы разам жывём… месяц які налічыцца… можа, ты пачні пра што гутарыць, і стане лягчэй…

– Я не хачу, каб мне станавілася лягчэй!!! Ты што, увогуле мяне не разумееш?! – крыкнуў Ян і адразу пашкадаваў, бо Яніна перад ім была падобная да маленькае дзяўчо, на якое ня толькі ня варта крычаць, але якое вельмі хочацца абараніць ад усіх трагедый у сьвеце. – Прабач, любая, прабач, пазьней, усё пазьней, а пакуль дай мне колькі хвілін.

Цішыня… чутна толькі, як хтосьці з суседзяў зьверху прачнуўся й уключыў ваду ў ванным пакоі… Ян паглядзеў у глыбокія чорныя вочы дзяўчыны.

– Ведаеш, а мне здаецца, быццам мы з табою ўжо шмат год разам жывём. Цыгарэты ты не захапіла?

– А то, вядома, захапіла! – прамовіла Яніна й паказала прыхаваны кубкамі кавы пачак “Галюаз”.

Ян запаліў і выпусціў у столь тытунёвы дым.

9:00

– Ведаеш, мне нават і няма чаго распавесьці пра сябе, але я ведаю колькі гісторый пра іншых людзей: была ў мяне такая знаёмая, якая любіла жлукціць віно, прычым рабіла

яна гэта ў вялікай колькасьці й амаль штодзень. І апрача гэтага ў яе быў язык бяз костак, і яна як напівалася, дык балбатала ажно да раніцы, нават мужчыны, якія яе, прабач, ябалі (Ян, сачы за сваёю моваю!!! – абурылася Яніна). Прабач яшчэ раз... Дык нават мужчыны падчас сэксу часта не вытрымлівалі ейнай балбатні, бо яна ў ложку таксама не спынялася, ну карацей, несла яе на аповеды… І зацяжарыла яна аднойчы, сама ня памятае, ад каго, і нажэрлася пігулак, так бы мовіць – самаробны аборт… Пакутавала моцна, але здолела забіць дзіця ў сваім чэраве… Прайшоў нейкі час… ажно “заляцела” яна ізноў, і так тройчы, пакуль ня вырашыла пакінуць апошняга дзіцёнка, але нарадзіла яго недаНОшаным і сканала ў лякарні. А дзіцяці цяпер шэсьць год, і яно жыве разам зь нейкім былым матчыным палюбоўнікам, які адзіны апынуўся каля яе падчас родаў. Дык ейная дачка, дарэчы, гэта дзяўчынка… Карацей, першымі ейнымі словамі былі: “Адзьдзяры мяне ў прыбіральні!” Бачыш, яна нават не слова, а цэлы сказ адразу прамовіла. Дык гэты палюбоўнік ледзь не задушыўся півам перад тэлевізарам, бо адразу ўспомніў словы, якія ўпершыню пачуў ад маці гэтай дзяўчынкі, калі тая лянотна пасмактаўшы яму ў прыбіральні нейкага брыдкага бара, паднялася з кален і, павярнуўшыся сьпінаю, нахілілася наперад, выставіла парваныя калготы й сраку без майткоў і прамовіла менавіта тыя самыя словы… Але тут ёсьць сумны фінал, бо дачка вырасла такой жа балбатлівай прасталыткай, як і маці, і ў дадатак захварэла на гепатыт С, – скончыў Ян.

– Ой, ну што ты мне тут распавядаеш нейкія школьныя анэкдоты, я прасіла, каб ты са мною пагутарыў, пра сябе, напрыклад, дзяцінства, каб крыху адарваўся ад скрушных думак! – нэрвова прамовіла дзяўчына й пляснула рукою па

кафлі на сьцяне. – Ня веру, хлусню нейкую мне распавядаеш! Карыстаесься тым, што я ўсяму даю веры…

– Слухай, Яніна, між іншым, мне не да анэкдотаў і не да хлусьні, я табе распавёў пра сябра майго дзядзькі, які ўжо два гады як у турме, ад гэтага мужчыны я й пачуў апавяданьне з уласнага жыцьця. Памятаю, ён тады быў уколаты й напаўляжаў у фатэлі, а я жлукціў гарэлку, мы знаходзіліся ў кватэры, вядомай у тамтэйшым раёне як месца сустрэч наркаманаў.

– Блін, вось часам мне здаецца, што ты мне цалкам чужы – нейкія кватэры, наркаманы, прасталыткі!

– А што такога, Яніна, я ж табе надоечы казаў, што й сам колькі часу жыў ня надта выдатна, і былі ў маім жыцьці розныя пэрыяды – наркотыкі й прасталыткі, вулічныя бойкі… а цяпер, бачыш, мы з табою ў ваньне, у вадзе зь пенаю, я працую ва ўнівэрсытэце, пішу апавяданьні, мяне пачынаюць заўважаць, але сёньня між намі, альбо сярод нас, – Вітаўт, чалавек, які, я думаю, атрымаў суцэльную свабоду, бо сьмерць праз самагубства – гэта ў першую чаргу воля ўласнага жаданьня, якая нікому ніколі не падпарадкуецца… – загадкава прамовіў Ян і падцягнуўся на руках, каб устаць з ванны.

10:00

Ён паставіў ногі на падлогу, кроплі пачалі капаць на чорную кафлю й струменьчыкі вады пацяклі па целе Яна, які зьнерухомеў каля ўнітаза ды сіліўся памачыцца. Яніна ўтаропілася на яго.

– Прабач, але калі ты будзеш працягваць так глядзець, у мяне нічога не атрымаецца! – крыху злосна прамовіў ён.

– Прабач і ты, але мне заўсёды было цікава, як вы гэта робіце!

– Што робім, сцым? – запытаўся Ян і гучна зацурбэніў ва ўнітаз.

– Ой! – Яніна, пачырванеўшы, адвярнулася. – Я пабачыла! Вось жа ж…

– Ды ну цябе! – нявесела ўсьміхнуўся Ян і, абтросшы апошнія кроплі, пасьпяшаўся ў цёплую ваду.

– Дадай, калі ласка, гарачай.

Яніна зноў уключыла кран і, падставіўшы твар пад струмень вады, засталася ў такой позе на хвілю.

Мокрыя валасы ліплі да шыі й сьпіны і зьнікалі ў цытрынавай пене. Дзяўчына сумна прамовіла:

– Ян, мне вусьцішна, што будзе далей з намі й нашымі сябрамі?! Што будзе далей?!

– Ня ведаю, магчыма, мы здолеем гэта перажыць, вытрываць, альбо ўсе перавешаемся, альбо нас перасадзяць, і тады краіна зьнікне, і будучыня будзе іншай… Я б не хацеў так, і я ня веру, што Вітаўт павёўся на суіцыд. Ён быў вельмі моцны чалавек, я зь ім бачыўся тыдні два таму, ён быў вясёлы, жартаваў. Ня ведаю, што будзе з намі, ніякая адвакацкая або міжнародная арганізацыя ня здолее нас абараніць ад усяго гэтага вэрхалу, які атачае нас, калі хто пачне пужаць нас здароўем і бясьпекай родных людзей… Хто яго ведае, як мы сябе пачнем весьці… У яго былі нейкія містычныя ворагі, нейкія невядомыя тэлефанаваньні, смскі, пры гэтым у яго ёсьць брат, які вучыцца за мяжою, прыгожая жонка… Я ўпэўнены, што для скоцтва межаў не існуе, – Ян сумна паглядзеў кудысьці празь дзяўчыну й запаліў цыгарэту. – Дадай яшчэ больш гарачай…

– Ян, ты так страшна кажаш, я баюся, давай зьменім тэму, – прамовіла Яніна, і кран за ейнай сьпінай абдаў яе плечы гарачынёй. – Ай, пячэ! – ускрыкнула яна.

– Мне падаецца, любая, самае бясьпечнае й выдатнае месца на зямлі – гэта наш ванны пакой, я ў вадзе адчуваю сябе, быццам на ўласнай выспе, так хараша… – прамовіў Ян і выцягнуў наперад крыху ацёклыя ногі, ступнямі дакрануўшыся да Яніных цягліцаў і азадку.

– Ян, што ты робіш!? – засьмяялася дзяўчына і, падскочыўшы ад нечаканасьці руху ягоных ног, ледзь не кульнула столік з ужо напаўпустымі кубкамі…

11:00

– Гэй, асьцярожней! – засьмяяўся Ян і, утульней уладкаваўшыся, прамовіў: – Я вось пра што ўспомніў! Ты, магчыма, таксама памятаеш гэтага хлопца, мы зь ім выпадкова сустрэліся на тым тыдні, мы былі з двума пакункамі піва й выходзілі з крамы… Гэта быў Эдзік, які, дарэчы, у школьныя часы шчыльна са мною і з Гэнем сябраваў. Мы нават разам зь ім час ад часу білі малодшых і рабілі ім на галовах “фанту”, гэта запальнічкай выпальвалі альбо нажніцамі выстрыгалі ім плешыны ў валасах. Мы зь ім разам шмат праз што прайшлі, і калі ў адзінаццатай клясе я накіраваўся ва ўнівэрсытэт, Эдзік раптоўна пайшоў і запісаўся ў спэцназ. Ты разумееш?! Усе падлеткі й юнакі беглі як ад агню ад войска, кожны прыкідваўся кім заўгодна – дэбілам, хворым на страўнік, хворым на ціск альбо яшчэ на што, абы не трапіць у войска. А Эдзік пайшоў і самастойна запісаўся ў спэцназ. Яго ўзялі, бо ён меў чорны пояс па каратэ… Дык вось, прайшло тры гады, я ўжо пасьпеў двойчы зьмяніць унівэрсітэт. Як сустрэў сябра дзяцінства – ён быў мужны, высокі, крыху п’яны, з

такімі ж двума хлопцамі побач. Штаны ва ўсіх – хакі, курткі – скураныя, чорныя, ад іх патыхала варожасьцю. Я крыху сумеўся ды скрывіўся, калі ён да хрусту костак паціснуў мне руку і, ацэньваючы, паглядзеў на мяне – доўгія брудныя валасы, парваныя джынсы, парваныя кеды, з бутэлькай гарэлкі (я тады быў ня надта добры студэнт, ня кажучы ўжо пра пэўнае месца ў грамадзтве, якое ненавідзеў)… Паглядзеў ён на мяне, усьміхнуўся й пачаў распавядаць пра тое, як ён файна ўладкаваўся пасьля войска ў тэхнікум спэцыялістам па каналізацыях, і пра тое, як іх, малых спэцназаўцаў, прывозілі ў Менск, каб трымаць ланцуг вакол натоўпаў на буйных канцэртах – Рамштайн, Продзіджы, Дэльфін. І распавёў пра тое, як увесь іх гарнізон прывозілі таксама на мітынгі й падчас выбараў – яны тады былі ўжо “дзядамі” ў войску. І пра тое, як яны махаліся з, як ён сказаў, “прыдуркамі, якім вечна штосьці не падабаецца”, я яго паправіў – жанчынамі, дзецьмі, хлопцамі й старымі людзьмі, якія супраць аўтарытарызму й прыватызацыі ўлады… Ён скрывіўся, паглядзеў на мяне, і я адчуў, што ад былога Эдзіка са школы, зь якім мы разьдзяўбайнічалі й “сачкавалі” ўрокі, нічога не засталося… Эдзік скрывіўся, сьціснуў кулакі, насьпявала нешта нядобрае. Як раптам да яго падыйшла нейкая даволі падпітая й брудная дзяўчына ў саколцы, з-пад якой прасьвечваўся белы станік, і ў кароткай спадніцы. Дзяўчына выратавала сітуацыю.

– Ян, нешта я нічога такога ня памятаю, калі гэта мы яго бачылі?

– Ну вядома, ня памятаеш! Будзь уважлівей, гэта было шэсьць год таму. А мы яго разам сустрэлі тыдзень таму, проста павіталіся каля крамы і ўсё. Я табе нагадаў пра сустрэчу, каб ты ўспомніла, як ён выглядае.

– І чаго ты вітаўся з гэтым вычварэнцам!?

– А чаго б не павітацца на знак памяці пра мінулае, – прамовіў Ян. – Дык вось, калі мы яго сустрэлі каля крамы, тыдзень таму, ты заўважыла, ён быў апрануты неяк ня так – занадта чыста – джынсы, шэры швэдар, значак брсм…

– Так…

12:00

Каханкі зьнерухомелі ў ванным пакоі… Ян ляжаў з заплюшчанымі вачыма і перад ім праносілся ўспаміны пра Вітаўта, пра Гэню, пра іх першае знаёмства з Інэсаю… Падсьвядомасьць усё фарбавала ў яркія колеры, і толькі Вітаўт сярод буйства фарбаў выглядаў бляклым, быццам бы прагарэлы касьцёр, быццам бы размазаная на палатне сажа… Яніна глядзела ў прастору, намагаючыся цалкам успомніць Эдзіка, якога яны сустрэлі каля крамы…

– А ты ведаеш, што ў інданэзійцаў існуе такая загадкавая сьмерць падчас сьненьня нейкага жаху, гэта калі чалавек не прачынаецца, а памірае ад жаху ў сьне… гэта завецца бангунгот, кажуць, што тыя, хто не памёр, бачылі адзін і той жа жах, да іх у цемры прыходзіў малы хлопчык, але гэта было вусьцішна, невыносна рэалістычна й па-містычнаму жудасна… і яны пачыналі задыхацца, бо хлопчык душыў іх…

– Цікава, каго бачыў Вітаўт, перад тым як…

– Remember me when you’re the one who’s silver screen. Remember me when you’re the one you always dreamed…

– А чаго гэта ты Плэйсеба ўспомніў?

– Да так, нічога, – усхапіўся ад разважаньняў Ян, скончыўшы задуменна сьпяваць. – Нічога істотнага, проста намагаюся нешта ўспомніць.

– У мяне ёсць брат, дык ён…

– Ня ведаў, што ў цябе ёсць брат, ты ніколі не казала мне…

– Не перапыняй. Ён – стрыечны! – прамовіла Яніна. – Дык вось, у мяне ёсьць брат, які, каб адкасіць ад войска, пайшоў і лёг у псыхіятрычную лякарню, дык у яго потым сапраўды выявілі нейкую цяжкую хваробу… Цяпер ён ня ведае, як пазбавіцца гэтага дыягназа, яго нават не хацелі браць у школу кіроўцаў і на працу…

– Гэта што, вунь мой сябра два гады таму як зьлёг у лякарню, дык да гэтага часу яшчэ ня выпісаўся, яго раней з войска выпусьцілі б… Што ні робяць у нашай краіне, каб толькі ня трапіць у шэрагі салдатаў… Ня ведаю, напэўна, я б таксама ўсё магчымае рабіў бы, але я й так ня годны ў мірны час… Вось напрыклад, ёсьць краіны, якія цалкам адмовіліся ад войска й маюць вайскоўцаў толькі дзеля абароны на ўзроўні паліцэйскіх… А ёсьць і наадварот, у Ізраілі, напрыклад, праз войска праходзяць усе: і мужчыны, і жанчыны… Але я бачу тут істотную розьніцу… У нашай краіне да сёньняшняга часу ёсьць такая думка й нават практыка, што лепей патрапіць за краты ў Эўразьвязе й сядзець, як “чалавек”, альбо ў які французскі вайсковы легіён, у якую вайсковую частку ў нэйтральных водах паблізу ад Аргентыны, замест таго, каб сядзець, як жывёла, у нашай краіне альбо пакутаваць ад “дзедаўшчыны” ў беларускім войску, дзе цябе альбо зьбіваюць, альбо гвалцяць. У нас улада належыць вайскоўцам, ад гэтага жахліва ўтрая – краіна міліцыянтаў ды кэдэбэшнікаў… І пакуль што радзіма яшчэ існуе як сапраўды нейкая свая культура толькі за кошт купкі інтэлігенцыі, якая, збольшага раскіданая па сьвеце, вымушаная існаваць па-за мяжою. Але ўсё гэта часова, гісторыя ўсё роўна зробіць сваё, і мы ведаем, хто будзе запісаны ў яе аналах як герой, а хто як гвалтаўнік і хворы

забойца… Узровень нашай культуры вельмі малы й слабы, але чаго ты хочаш, калі ў дзяржаве пры ўладзе апарат неадукаваных калгасьнікаў, якія нават роднай мовы ня ведаюць… ад іх нават няма чаго сур’ёзнага патрабаваць, іх нават немагчыма вінаваціць, бо яны гэтага не зразумеюць… Ты ж паглядзі, у кожнага зь іх, тых самых “міністраў”, іспалкомаў ды маленькіх чыноўнікаў, у кожнага зь іх аднолькавыя парсючковыя вочкі, маленькія такія, заплыўшыя мітычнай вераю й пагардаю ад таго, што яны лічаць саміх сябе мэсіямі, што быццам бы яны выратоўваюць родную культуру, а самі… кніжкі вершаў пра любоў да Расеі пішуць, бяздарныя кніжкі… альбо выдумляюць новыя чарговыя бязглуздыя правілы па “ўпрашчэнію беларускага языка”, які й так пасьля ўсіх гэтых камуністычных рэформаў амаль згубіў свой уласны выгляд, апынуўшыся няўдалаю пародыяй на рускі “говар”… – Ян разышоўся, і бліжэйшым часам яго немагчыма было спыніць. Яніна ціхенька слухала й нават не спрачалася, бо не было з чым, ягоныя словы былі бясспрэчнымі, і да ўсяго яна імкнулася як мага далей адцягнуць усе суіцыдныя думкі свайго каханага. – Я кажу пра тое, што беларуская мова сапраўды больш мілагучная й блізкая да мяне як да беларуса, яна адна з самых старажытных моваў у сьвеце… Цяпер размаўляюць на ёй толькі дзеля эстэтыкі – мастакі, пісьменьнікі, настаўнікі, моладзь… Дзіва, але за мяжою вывучаюць і размаўляюць на ёй… а ў нашай краіне зьявіліся дзве пачвары – трасянка й наркамаўка, абедзьве імкнуцца да таго, каб зрабіць беларускую мову чымсьці мястэчковым, нейкай бязглузьдзіцай… як выказваўся адзін наш клясык часоў БНР: беларуская мова – наш самы каштоўны скарб, і давяраць яго абы-каму нельга… і гэта сапраўды так…

13:00

Ян раптам спыніўся, ягоны маналёг не пасаваў агульнаму настрою… занадта шмат чаго цяжкага было ў сэрцы, турботнага… Вітаўт… краіна…

Ён паглядзеў на Яніну, тая быццам бы яго ўжо ня слухала…

– Ведаеш, я, напэўна, пачастуюся каваю, мо ты згатуеш? Так, як я люблю! – прамовіў Ян.

Яніна, акуратна падняўшыся з ванны, ссунуўшы бліжэй да мужчынскага цела паднос, стала на ручнік на падлозе і, голая, выйшла з ваннага пакою…

14:00

Ян прыснуў, і бачыўся яму сон, быццам бы ён апынуўся вялікім кітом і плавае па неабсяжных прасторах акіяну, быццам бы ён навучыўся дыхаць вадою, і яму было ўтульна й бесклапотна, было добра ня быць чалавекам, ня ведаць усіх гэтых рэчаў, якія засмучалі жыцьцё, якія зьбівалі з свайго месца, блыталі думкі.

Вада забівалася ў кітовы рот, выцякала праз вусы, фантанам і зь пенаю пырскала праз адтуліну на сьпіне. Ён вялікі блакітны кіт, з блакітнымі вачыма, яго пяшчотна лашчаць водныя плыні й віры, ён, павольна махаючы велізарным хвастом, ідзе на паглыбленьне, паверхня хутка зьмяняецца на аддалены мутны водбліск, ён ідзе глыбей і глыбей… Кіт-Ян заглынае вялікімі тонамі ваду, ажно пакуль сон не ператвараецца ў рэальнасьць, дзе ёсьць ванны пакой і ягонае цела, з галавой сышло пад ваду… Ян хапае паветра рукамі, ён захлынаецца, але пасьпявае нагамі адштурхнуцца ад ванны й выплысьці на паверхню… гучна кашляючы вадою, ён толькі

праз колькі часу выявіць, што чуе, як звоніць мабільны тэлефон, які да гэтага часу ляжаў на ўмывальніку, каля мыла. На экране тэлефона сьвеціцца імя таго, хто звоніць, гэта – Вітаўт… Ян трымае мабілку ў руцэ і яна пачынае пячы далонь і ўспыхвае яскравым полымем.

15:00

Ён расплюшчыў вочы, усё цела працяла сутарга, ён спужана пачаў узірацца праз жахі ў рэальнасьць… звоніць мабільны тэлефон, на экране нумар Інэсы:

– Так!

– Ян? Ты чаго хрыпіш?!

– Так, Інэса. Да не, нічога асаблівага, папярхнуўся вадою.

– Я тэлефаную сказаць, што пахаваньне будзе пасьлязаўтра, а дзясятай раніцы, на Ўсходніх могілках.

– Зразумела. А што чутна, можа падрабязнасьці якія?

– Я, шчыра кажучы, ведаю толькі тое, што Валя сказала: яны пасядзелі каля вогнішча ў яблыневым садзе на бацькоўскім лецішчы, папілі ўіскі, потым яму патэлефанавалі. Ён з кімсьці доўга размаўляў, а потым яны паклаліся спаць… А потым яна а пятай раніцы знайшла яго каля яблыні, ён быў, як жывы, толькі вусны – чорна-шэрыя, як попел, і вакол пах стаяў, пах памерлых кветак, як яна сказала… Ян, – усхліпнула ў тэлефоне Інэса, – мне вусьцішна і крыўдна…

– Усё будзе добра, павер мне… – прамовіў Ян і паглядзеў на пальцы ног. – Да пабачэньня, Інэс. – Памаўчаў з пару сэкунд і, пачуўшы цяжкі уздых, дадаў. – Усё будзе файна, даражэнькая… – апошнія словы даліся яму неяк нязграбна, ён пачуў, як яго старая сяброўка закашляла.

– Магчыма, яго перасьледавалі, альбо ў яго былі нейкія праблемы… – Інэса нават не разьвіталася, проста скончыла сказ доўгімі гудкамі.

Ян заплюшчыў вочы і аддаўся плыні вады. Паднос так і стаяў, самотна пакінуты Янінай, ад кубкаў па ванным пакоі разьліваўся водар кавы, а сьвечка, сеючы дрыготкае, цьмянае сьвятло, дагарала.

16:00

Калі Ян другім разам расплюшчыў вочы, гарачая вада з крана ўжо не цякла, і ванна ізноў была халоднай, і дрыжыкі гулялі па ўсім целе. Яніны побач не было, століка-падноса таксама. Крыху распухлая цыгарэта, знойдзеная на ўскрайку ванны, ды запальнічка ў куце дапамаглі яму прачнуцца. Ён падкурыў, зацягнуўся некалькі разоў вільготнай цыгарэтай. Яна падалася яму зусім нясмачнай, і Ян кінуў яе ва ўнітаз, дзе яна з шыпеньнем разьвіталася з жыцьцём.

Неўзабаве зьявілася Яніна, апранутая ў халат, з падносам, на якім цёплым парам у паветра дыхаў абед – тушаная ялавічына з варанай бульбай і два куфлі партвэйну, каб прачнуўся страўнік… і Ян, пабачыўшы ўсё гэта, адчуў, што сапраўды галодны.

– А колькі гэта часу?! – запытаўся ён.

– Ужо пачатак на пятую.

17:00

Калі Ян паеў і паставіў паднос на падлогу, Яніна адным рухам скінула зь сябе халат, скокнула хуцень-

ка ў ваду й накінулася з гарачымі пацалункамі на каханка.

Ян ледзь пасьпеў уцяміць што адбываецца, як ужо распалены й узбуджаны рухаўся ў ёй, адчуваючы наколькі яна ўнутры гарачая й вільготная…

– Я ўжо з гадзіну ўзбуджаная й так моцна цябе хачу!!! – зьбіваючыся й ледзь прамаўляючы праз стогны, мовіла Яніна, а ён няспынна рухаўся, ззаду абхапіўшы ейную талію, паглядаючы на тое, як чэлес выходзіць і вяртаецца ў похву, час ад часу рукамі кранаючыся смочак, гладзячы сьпіну, жывот.

– Нельга так! Нельга так! Нельга так! Нельга так! Нельга так! Нельга так! Нельга так! Нельга так! Нельга так! – паўтараў Ян, і ня ў сілах быў спыніцца.

Яны разам стагналі, Яніна ўскрыквала ад асалоды, кусала яго, драпалася, напэўна нават суседзям было чуваць, як з ваннай вэнтыляцыі йшлі пякельныя стогны…

Ян апантана ўзмацніў і паскорыў рухі і праз сэкунду, дастаўшы чэлес, схапіў яе руку й уклаў у яе свой пэніс. Яніна сьціснула яго, канвульсіўнага й адчула, як гарачая спэрма пырскае на яе похву, на азадак, і сьцякаючы па левай назе, распушчаецца ў вадзе.

Яну моцна захацелася заплакаць, але ён стрываў.

18:00

– Давай я патру табе сьпіну, нахіліся наперад… – Яніна трымала кавалак рамонкавага мыла й мачалку і мякка глядзела Яну ў вочы. Ён усё яшчэ цяжка дыхаў, намагаючыся запаліць цыгарэту.

– Я не разумею, як ты так хутка прыходзіш у нармальны стан пасьля сэксу?!

– Слухай, а я табе распавядала пра адно здарэньне са мною й некалькімі маімі сябрамі?

– Не, а што адбылося?

– Карацей, неяк я сустрэлася са сваімі старымі сябрамі, адным паэтам і адным празаікам, потым да нас далучылася яшчэ колькі мастакоў... Мы даўно ня бачыліся й вырашылі з гэтае нагоды набыць якога партвэйна, мінэралкі й белага віна... З усім гэтым скарбам мы выправіліся да Сьвіслачы, каб на беразе ракі акурат пад вярбою, недалёка ад канцэртнай залі “Мінск”, выпіць... Не пасьпелі другім разам напоўніць плястыкоўкі, як да нас падышлі два здаровыя хлопцы... Яны былі відавочна малодшыя за нас, але ад іх ішоў пах нахабства, які мы цалкам не трывалі... Яны набліжаліся да нас, і раптам аднекуль з боку выскачылі яшчэ тры хлопцы... Што казаць, нават я, дзяўчына, якая заўсёды ўпэўненая ў тым, што па негалосных правілах адны хлопцы другіх не чапаюць, калі ў іхнім асяродзьдзі дзяўчына, але мне чамусьці стала вусьцішна... вось яны ўжо перад намі, і самы тоўсты й высокі зь іх кампаніі дастаў з кішэні нейкую картку і, размахваючы так, каб зрокам было цяжка зачапіцца, прамовіў, што ён і ягоныя сябры – дружыньнікі брсм, і што тут жлукціць забаронена, як і па ўсім горадзе, а тым болей мы распачалі гэты грэх насупраць студэнцкага інтэрнату й канцэртнай залі – культурна-публічных месцаў!.. Што казаць, калі б ты звонку тады паглядзеў на нас, то пабачыў бы аднаго хударлявага й ужо пастарэлага паэта-алькаголіка, нейкага валасатага невысокага празаіка, двух мастакоў, якія былі такія высокія й худыя, быццам іх некалькі год расьцягвалі й катавалі ў канцэнтрацыйным лягеры, ну і я – мастачка-дзюймовачка... Празаік пачаў нешта казаць наконт таго, што яны зараз забяруць торбу з партвэйнам і сыдуць, але гэтым пад-

лам было мала, самы тоўсты зь іх адказаў, што зьбіраецца адвесьці нас у “апарняк”, каб мы пасядзелі ў “малпоўні”… І тут ужо не стрымаўся паэт-алькаголік і пачаў іх ганьбіць, маўляў, чаму гэта ім, бэрсэмшчыкам, дазволена хадзіць па вуліцах і дыктаваць нейкія там правы й законы! Гэта было не асабліва добра зь яго боку, такое казаць… Дружыньнікі толькі й чакалі, каб мы пачалі зь імі спрачацца, і кінуліся на нас з бойкаю… Я ледзь пасьпела адскокнуць у бок, як нейкі казёл схапіў мяне за плечы, сьціснуў рукі і гаркнуў, каб я не варушылася… У іх не было аніякіх правоў, каб нас затрымліваць і тым болей зьбіваць… У паэта ўжо ішла з носа кроў, і ён, закрываючы адной рукою ныркі, а другою твар, ляжаў на асфальце… Празаік спрабаваў змагацца з двума бэрсэмшчыкамі, але яго працялі па сьпіне палкаю й ён паваліўся… Мастакоў нават ня трэба было біць, хапіла толькі штурхануць… Карацей, было суцэльнае вар’яцтва… А самы галоўны з гэтых дружыньнікаў, той, які тоўсты, за ўсім гэтым сачыў… Я штурханулася ўбок, вызвалілася ад захопу прыдурка, які мяне трымаў, дастала з кішэні мабілку й набрала міліцыю, каб нейкім чынам выратаваць нас усіх… Як толькі я пачула голас апэратара, пачала даваць адрэсу й голасна крычаць, што нас зьбіваюць нейкія невядомыя хлопцы, якія прадставіліся дружыньнікамі, апэратар прамовіла, што да нас выправілася патрульная машына… Як толькі я гэта пачула, адразу голасна залямантавала, што выклікала мянтоў… І вось дзіва, амаль за некалькі сэкундаў гэтыя пачвары, нібыта ў выніку чароўнай змовы, зьніклі, а мы засталіся, усёй кампаніяй, зьбітыя й без партвэйну й віна, бо хтосьці з тых прыдуркаў паразьбіваў усе нашыя пляшкі… – Яніна спынілася, расчырванелая. Пакуль яна распавядала, то нават не заўважыла, як моцна, да чырвані, нацёрла сьпіну Яну.

– Жах! Проста нейкі абсурдны жах! Але чым тут жахацца, я не зьдзіўлюся, калі гэтыя дружыньнікі ўжо афіцыйна чыняць свае пагромы на замову!

– Так! А ўчора я бачыла нейкае відэа прапагандысцкага кшталту, якое брмс запісалі ў падтрымку галоўнага, дык там той самы тоўсты мудак, які запраўляў сярод тых казлоў, сядзеў за сталом у пінжаку й жаліўся на тое, што Эўразьвяз не разумее нашу ўладу й няхай пакіне ў спакоі нашую краіну… Магчыма, калі б ён нас яшчэ раз сустрэў, ды ў такім гарнітуры, ён бы ўжо ня зьбег… Навідавоку было тое, што ён сам ужо трымаў у рукох пэўную ўладу! – Яніна змоўкла й пра штосьці задумалася, апусьціўшы мачалку ў ваду.

Павісла цяжкая паўза, цішыня, толькі чутна было, як капае вада з крана ў ванны пакой і як капае вада з кута ванны на падлогу.

19:00

Надышоў позьні вечар.

– Зь сёньняшняга дня ванная будзе нашай новай Дзяржаваю, якая ня будзе ўваходзіць ні ў якія Саюзы, Зьвязы, Фэдэрацыі й Рэспублікі й тым болей Манархіі… нашая Дзяржава – Вада, – прамовіў Ян хутчэй проста для самога сябе… – Я хачу захаваць тут прастору, вольную ад рэлігіі, ад палітыкі, ад усяго, што можа прынесьці шкоду чыстаму мастацтву. У гонар памяці майго сябра я напішу пра яго раман, я высьветлю ўсе абставіны, дасьледую кожны мілімэтар ягоных спаленых палотнаў, я зраблю ўсё, каб даць адказ на ягоны апошні крок. Я ўпэўнены, што калі б Вітаўт сапраўды наважыўся на суіцыд, то гэта было б канцэптуальна праз бэнзін і агонь, а ня так, невядома як, гэта ніякім чынам не ўкладваецца ў маёй галаве. Але я баюся, што магу не адшу-

каць патрэбных мне адказаў, я гэтага вельмі баюся, і тады ўсё маё жыцьцё па кроплі сьцячэ з крану ў звычайны забруджаны сіфон.

Яны яшчэ доўга сядзелі ў ванным пакоі, абменьваліся featured рознымі гісторыямі, пачуцьцямі, знаёміліся адно з адным і з кожнай хвілінай прыемна адзначалі, што іхняе збліжэньне ім падабаецца больш і больш… Ян апавядаў пра абсурд у краіне, і Яніна разбаўляла прамежкі сваімі ня менш цікавымі, праўдзівымі й адначасова неверагоднымі гісторыямі… А часам гісторыі аказваліся настолькі жудасныя, што нават не было моцы іх да канца выслухваць. Штосьці было з сучаснага жыцьця краіны, штосьці ўзятае зь незалежных газэт, зь сеціва, штосьці было ад іх асабіста, але нельга сказаць, што гэтага не існавала ў рэчаіснасьці альбо не здаралася. З часам дадзеныя факты нельга будзе пацьвердзіць, бо занадта шмат хто дбае аб тым, каб гісторыя была перапісаная ў пэўным накірунку, паводле патрэбнага канону. Пакуль рэшткі змагароў гніюць за кратамі альбо ў зямлі, а большая палова насельніцтва, як адзначаюць палякі, украінцы й расейцы, – “калгасьнікі, сядзяць і пускаюць сьліну перад “Першымі тэлеканаламі краіны”, слухаючы, як цалкам чужы ўсім чалавек балбоча нешта шызафрэнічна-эпічнае, сьвет мяняецца, ён кардынальна мяняецца, і хутка памяняецца канчаткова. І пакуль яны так сядзелі, побач з імі сядзеў Вітаўт, і ў ванным пакоі станавілася то цёпла, то халодна…

20:00

– Але, але, але… ня ўвесь народ – гэта статак, быдла, звычайна заўсёды дзесьці існуе тая самая суполка, якая ня будзе ані як нацыяналісты – пахабна, неадукавана, упарта

ганьбіць уладу, карыстаючыся эўрапэйскім фінансаваньнем, і не такая, як тыя, хто прычыняецца за сваёй тупарыласьцю да дзяржаўных ідэалаў… Ёсьць народ добры, вольны й моцны, які зробіць сваю краіну вялікай, і выхаванай, і адукаванай. Зробіць Беларусь прыкладам для астатніх… Ёсьць новае, маладое пакаленьне, якое ўжо вырасла, пасталела і вызначыла свае ўласныя ідэалы… Менавіта пра гэта Вітаўт апошнім часам распавядаў. – прамовіў Ян і паглядзеў на Яніну. – Вітаўт чытаў навіны толькі ў “Бай-трэш”. Здаецца, там месьцяцца самыя шчырыя артыкулы.

***

*“У Магілёве хочуць да тулава Леніна прымацаваць галаву кіраўніка – Ініцыятыўная група жыхароў Магілёва зьвярнулася да старшыні выканкаму з прапановай перайменаваць плошчу Леніна на плошчу імя кіраўніка”. – А які помнік вы прапануеце: у поўны рост альбо бюст? – Мы думаем так: можна з улікам дырэктывы аб эканоміі, проста замяніць галаву на помніку Леніну. Ды і час цяпер неспакойны – самі ведаеце, тэрарысты вакол. А так будзе спакайней...”*

*“Беларуская кінастудыя здыме фільм пра плюсы сельскай гаспадаркі для маладых спэцыялістаў, каб заахвоціць жыць у аграгарадках… Сюжэт просты: малады спэцыяліст з гораду прыязджае ў глыбінку, яго там вучаць сапраўднаму жыцьцю, ён знаходзіць каханьне…”*

*“Тым не менш сыходзіць з пасады галоўнага ён ня хоча нават праз столькі год. – Ёсць тыя, якія разважаюць так: хопіць. Гэта няправільнае разважаньне з майго*

*пункту гледжаньня — хопіць ці ня хопіць. Што значыць “хопіць”? Я — не пенсіянер, нават калі і пенсіянер, я здаровы, ну чаму не працаваць? Таксама думаю: вось сыдзеш, прыватызуюць усё: ахову здароўя, мэдыцыну... Людзі паміраць будуць на вуліцы.”*

*“Чарговы дзяржаўны папулісцкі лёзунг гродзенскія сілавікі ўспрынялі літаральна: у горадзе была праведзена першая зачыстка ў стылі “саўка”. Як паведамляюць чытачы, 12 траўня ў галоўным універмагу Гродна “Нёман” у даабедзенны час міліцыяй былі перакрытыя ўсе ўваходы й выхады. Усіх людзей, якія знаходзіліся ў гэты час ва ўнівэрмагу, сталі апытваць, чаму яны ў працоўны час не на працы.”*

*“Прыйшла кіраўніца і заявіла, што кожны працаўнік абавязаны набыць брэсцкі дыван. Маўляў, прадпрыемства церпіць страты, трэба падтрымаць... я працую ў адным са сталічных адзьдзяленьняў банка, я кажу, дыван, маўляў, мне не патрэбен, і нямодныя яны, таму што мадэлі не мяняліся з савецкіх часоў, але купляць прыйшлося. А ў іншым аддзяленьні “дапамагаюць” Баранавіцкаму баваўнянаму камбінату – туды прывезьлі пасьцельную бялізну й жаночыя майткі, на этыкетках якіх напісана, што іх вырабілі яшчэ ў 2005 годзе... а заробку я так і не ўбачыла! Гэта як вам?! А?!”*

*У ходзе судовага разьбіральніцтва па справе анархістаў, суд ня змог праглядзець відэазапіс, які фігуруе ў справе. Аказалася, што дыск зь відэазапісам у літаральным сэнсе “падшыты” да справы – пры дапамозе дзіракола. На відэазапісе акцыя анархістаў каля Генэ-*

*ральнага штабу. Анархістаў вінавацяць у зьдзяйсьненьні шэрагу нападаў на будынкі і падпалаў, у прыватнасьці ў правядзеньні несанкцыянаванай антываеннай акцыі каля будынку Міністэрства абароны, нападзе з бутэлькамі з запальнай сумесьсю на амбасаду Расеі ў Менску і будынак Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў на вуліцы Акрэсьціна. Актывістам руху таксама інкрымінуецца шэраг нападаў на іншыя будынкі – закідваньне Фаерамі сталічнага казіно "Шангры Ла" і будынка Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі, спробы падпалу аддзяленьняў "Беларусбанка" і банка "Масква-Мінск", аддзяленьне міліцыі ў Салігорску. У ходзе судовага паседжаньня сьведкі з боку абвінавачваньня заяўлялі, што іх змушалі даваць паказаньні супраць падсудных. Акрамя таго, у судзе не прадставілі фатаграфіі, зробленыя пры аглядзе месца злачынства. Як вынікае з матэрыялаў справы, фатаграфіі з агляду месца злачынства адсутнічаюць, бо, з прычыны таго, што былі выдаленыя з фотаапарата, а на кампутар не перанесеныя."*

***

– Ян, можа, у Вітаўта былі праблемы зь дзяржаваю?

– Ня ўпэўнены, думаю, нават калі б і былі, ён бы ня стаў праз гэта пазбаўляць сябе жыцьця, тут усё нашмат складаней. Ведаеш, Хантэр С. Томпсан застрэліўся, калі ў яго было ўсё вельмі добра, і мне здаецца, ён кіраваўся тэзаю: "Толькі калі ўсё кепска альбо ў цябе шмат моцы і радасьці, магчыма накласьці на сябе рукі", я думаю, што Вітаўт ішоў да гэтага кроку якраз праз шчасьце і вырашыў, як у Ніцшэ напісана: "Задзьмуць сваю сьвечку самастойна, да таго як яна прагарыць ушчэнт і пакіне толькі аплаўлены тлусты воск". А можа і праз тое, што яго давялі, як з Хэмінгуэем, калі той вакол

усім сьцьвярджаў, што за ім сочаць, а яго паклалі ў лякарню, зрабілі зь яго гародніну, і ён застрэліўся праз тое, што ня можа больш нармальна думаць і пісаць, а потым, праз пяцьдзясят год ад яго сьмерці высьветліцца, што за Хэмам сапраўды сачыла ЦРУ.

– Гэта складаная тэма, і на суіцыд ніколі ня будзе дакладнага адказу. Я ведаю, што і дачка Хэмінгуэя, і дзед ягоны, і яшчэ шмат якіх сваякоў наклалі на сябе рукі.

– Так, мне здаецца, род Хэмінгуэяў вельмі ўпарты і ганарлівы, і калі ўжо на штосьці наважваецца, то ідзе да канца.

21:00

Пасьля здарэньня зь Вітаўтам факт таго, што краіна марудна памірала, рэзаў вочы, зьбіраўся пад чарапную каробку й пераварочваў усе каштоўнасьці і сьветабачаньне: за апошнія некалькі месяцаў пяць міліцыянтаў скончылі жыцьцё самагубствам, тры зь іх на працы, два дома, застрэліўшы спачатку дзяцей і жонак... Апошнім быў міліцыянт, які на начным дзяжурстве стрэліў сабе ў галаву, сваімі дзеяньнямі давёўшы другога супрацоўніка да вар’яцтва... На днях ізноў выкінулася з вакна дзявятага паверху жанчына з малымі дзецьмі (яна ўжо трэцяя маці-самагубца зь дзецьмі за апошні год), а ўчора “выпаў” з вакна гарадзенскі паэта… Беларусь мае трэцяе месца ў рэйтынгу краін з самай вялікай колькасьцю самагубстваў. У краіне людзі зьнікалі назаўжды, прадукты таксама, штосьці даражэе так, што апынаецца чымсьці недасяжным і дэлікатэсным, а потым таньнее ўтрая… Людзі пачынаюць страйкі… Нават сацыяльныя сеткі, дзе збольшага сядзяць падлеткі, заварушыліся… Ян і Яніна не маглі

больш гэта чуць і бачыць, пасьля сёньняшняй сьмерці Вітаўта яны цалкам згубілі веру й жаданьне і намагаліся застацца жыць у ванным пакоі, дзе было спакойна й куды яшчэ не пасьпеў дабрацца беларускі псыхадэл… Яніна хацела зьехаць назаўжды, куды заўгодна, у марскую краіну, у Эўропу, на выспу, у Азію, Афрыку – не істотна! І ўцёкі, сапраўдныя ўцёкі з атачэньня, невыноснага існаваньня выглядалі тут і цяпер цалкам лягічнымі, прыстойнымі, гераічнымі.

У ванным пакоі яшчэ ня ведалі, што сёньня выйшаў сьвежы артыкул пра Вітаўта, у якім пісалася пра жыцьцё й сьмерць аднаго з самых знакамітых, свабодных і незалежных сучасных мастакоў Беларусі… У ванным пакоі ўсё спынілася, час быў нацягнуты тонкай лёскаю скрозь вагонь і ваду. Яніна моцна заснула й амаль з галавою схавалася ў вадзе, і толькі грудзі калыхаліся на паверхні й здаваліся большымі па памеры празь сьветапераламленьне… Пена для ванны даўно растала, і Яніна была перад вачымі Яна як Вэнэра… Ён паглядзеў на свае ногі, якія былі ўжо ня толькі апухлыя й сапрэлыя ад вады, але пачалі пакрывацца рыбінаю лускою…

22:00

Надышоў час альбо спускаць ваду, альбо сапраўды заставацца тут жыць.

– Адзінае, чаму я даю веры, і гэта назаўжды застанецца ў маім сэрцы, – прамовіў Ян хутчэй самому сабе, ня надта голасна й паглядаючы празь Яніну кудысьці далёка ў прастору, – гэта тое, што для мяне раней падавалася чымсьці незразумелым і жудасным, калі абставіны ў

краіне настолькі пагоршыліся, што людзі сядзелі на вуліцах на зэдліках па начох і чакалі сваёй чаргі, каб набыць даляры, якія, магчыма, хто-небудзь прыйдзе раніцою здаваць. Людзі сядзелі, жаліліся, мерзьлі пад абменьнікамі, але нічога не хацелі мяняць. Мне тады падавалася, што мы як нацыя выраджаемся, але цяпер я пераканаўся – як бы ні было цяжка беларусам, што б ні адбывалася зь іхным лёсам, яны заўсёды знойдуць нагоду, каб з жартамі й гіроніяй падысьці да самых цяжкіх часоў у жыцьці. Талерантнасьць, верацярпімасьць і пакора існуюць у нас як звышмоц, як нешта, што робіць нас духоўна вышэйшымі… І менавіта беларусы пачнуць паводзіцца так, як вучыў Махатма Гандзі… Беларусы стануць прыкладам для цэлага Сусьвету, бо проста так такія выдатныя рысы цэлага народу не зьнікаюць… Мы моўчкі, цярпліва, прымаючы свой лёс, рушым да сапраўдных мэтаў – свабоды, братэрства, любові… Мы змагаемся з нахабствам і гвалтам празь любоў і мір, праз тое, што знаходзім у сабе моц сьмяяцца са словаў незнаёмца ў тэлевізары й сьмяяцца, калі чытаем нашыя навіны, ня верачы, што жывем менавіта тут і цяпер… Наш час яшчэ не надышоў, нашае дзеяньне – гэта негвалтоўны супраціў, які здольны скінуць любыя кайданы! – Ян заўважыў, як Яніна, пазяхаючы, трэ вочы…

23:00

– Мне падаецца, што за сёньняшні дзень я стала да цябе нашмат бліжэй, я цяпер лепш ведаю, чым ты дыхаеш, і гэтае паветра я падзяляю з табою, – Яніна прыўстала і, дацягнуўшыся да вуснаў, аточаных мяккай барадою і вусамі, пацалавала Яна.

24:00

Ноч, каханкі ўжо не прыкмячалі таго, што іх рукі ператварыліся ў плаўнікі, а ногі – у вялікія рыбіныя хвасты. Скура пакрылася лускай. Яны прамянялі той сьвет на гэты: вільготны, бесклапотны, утульны, вольны… Гэты ванны пакой апынуўся для іх большым за мэтафару Новага Сьвету, большым за простае файнае баўленьне часу. Вада ня толькі ачысьціла іх звонку, яна аб’яднала іх, надала іх жыцьцю сакральны сэнс, запачаткавала іх прыродны стрыжань, які цяпер акрэсьлена выявіў іхныя сапраўдныя пляны й думкі, разважаньні й імкненьні.

Ян думаў пра тое, што, паводле Дантэ, Вітаўт мусіць быць у сёмым коле Пекла, і яго душа цяпер адзін вялікі атручаны шып, які расьце сярод мноства шыпоў у самым чорным лесе… і Яну цяпер усё ўбачылася суадносным і лягічным – мастак, які пачаў паглыбляцца ў вагонь, можа зазірнуць туды, куды не дазволена простым сьмяротным, і выйсьця адтуль ужо няма, і запамятаваць гэтага немагчыма. Ян напіша пра Вітаўта, абавязкова напіша, бо вада, здольная затушыць агонь, здольная й на тое, каб запоўніць сабою ўсе патаемныя месцы ў душы.

00:00

Дзевяціпавярховы дом, кватэра на трэцім паверсе зь левага боку ад ліфта, два пакоі, кухня, сумесныя туалет і ванны пакой, белая эмалевая ванна, зялёна-сіняя вада, у вадзе плаваюць два карпы, адзін маленькі, другі вялікі й нязграбны…

## П’ЯНЫЯ КНІГІ

Ян стаяў каля ўваходных дзьвярэй. Неверагодна, але Гэня стаў настолькі ці то пужлівы, ці то няўважлівы, што перад тым, як трапіць да яго ў кватэру, звычайнага дамафона не хапала, даводзілася званіць яшчэ на лесьвічнай пляцоўцы й чакаць… а Яну вельмі хацелася ў туалет.

Праз хвілін так дзесяць, калі Ян абарваў званок, Гэня зьявіўся ў адчыненых дзьвярах, кудлаты, барадаты, але больш-менш сьвежы й апрануты.

– Прабач, я штосьці завошкаўся!

– Ну так, ну так… Ладна, трымай вось кнігі, якія ты прасіў, чытай і не канчай! – Ян працягнуў Гэні торбу з “Ружай укрыжаваньня” і, не разбуваючыся й не здымаючы паліто, пабег у прыбіральню, зачыніўся там, мацюкнуўшыся на гадамі непрыбраны туалет, і пачаў гучна бруліць.

– А што? Гэнь, ніхто яшчэ не прыйшоў? – крыкнуў Ян з прыбіральні.

– Не. І здаецца, ніхто й ня прыйдзе! А ты кагосьці чакаеш?

– Да мне, шчыра кажучы, усё адно. Я выпіць хачу, больш нічога! Дарэчы, у торбе яшчэ шнапс знойдзеш, я прывёз гарэлкі… У цябе хоць закусь знойдзецца?

– Ян, ты, блядзь, выйдзі са сральніка й нармальна мне скажы, пра што ты там гундосіш! – Гэня быў крыху зьнэрваваны.

– Я кажу, гарэлка ў мяне, а ты якой ежы знайдзі! – Ян выйшаў з туалета і абціраў рукі аб сваё паліто.

– Я зараз замоўлю нам кіляграм ролаў, каб ты толькі не застаўся галодненькі! – усьміхнуўся Гэня й пайшоў шукаць слухаўку ад радыётэлефона.

Ян зайшоў у пакой, агледзеўся, усё было перакамечана, засьцелена пылам, на стале – павуціньне, пляфоны жырандоляў аказаліся брацкімі магілкамі казюрак, вакол брудныя талеркі, заквітнелая ежа, нейкія шклянкі з напаўдапітымі вадкасьцямі, засохлым лайном на сьценках, кватэра ўся пахла як згнілы яблык, яна была на смак як скіслы боршч, як апухлая нямытая прамежнасьць… Ян даўно не завітваў да Гэні, увогуле да Гэні даўно ніхто не завітваў… Гэня ўжо колькі месяцаў ні з кім не бачыўся й нават не зьбіраўся бачыцца, таму вырашана было сабрацца ў яго… але ж адказны аказаўся толькі Ян.

З другога боку, што тут рабіць, у гэтай дзірцы ў галаве звычайнага панэльнага дому… Што тут рабіць? Што рабіць чалавеку?!

– Слухай, сябра, у цябе тут проста неверагодная памыйніца! Ты хаця б якую прыбіральшчыцу за грошы выклікаў, у цябе ж грошы ё?

– Ёсьць у мяне грошы! Ня гвалці мне мазгі! – крыкнуў Гэня з кухні неяк абразьліва і праз колькі сэкунд зьявіўся перад Янам з нарэзанымі цытрынамі й бутэлькай гарэлкі, якая была спрэс пакрытая інеем. – Я вось сваю пляшку з маразілкі дастаў, а тваю паклаў, каб астудзілася як мае быць.

– Так, пакуль не прынесьлі чаго есьці, давай прыбяры гэты сральнік, хаця б са стала, альбо там, ня ведаю, накрый якімі пакрываламі ўвесь гэты бруд вакол!

– Сябра, ідзі ты ў дупу, мякка кажучы, дарагі мой, гэта мая прастора. Я праз працу нічога не пасьпяваю!

– Ведаю я тваю працу, паўдні дрочыш, сьпіш, а пад вечар жарэш і сядзіш за кампом! Працаўнічок!

– А ды ну, лепей я буду жыць, як ты, чыстаплюем сраным! Апавяданкі пісаць! – Гэня гучна засьмяяўся, ажно пачырванеў. – Ды ладна, я пажартаваў, кніганоша ты недарэчны! Дзякуй за кнігі! Я вось што, я сёньня зьбіраюся надзерці табе жопку тым, чаго начытаўся.

– Няўжо?! Ну паглядзім, валасатае ты чмо!

– Вось табе за валасатага ад мяне пачатак: *Вось праблема з кірам, падумаў я, наліваючы сабе выпіць. Калі здараецца кепскае – п’еш, каб забыцца; калі здараецца добрае – п’еш, каб адсьвяткаваць; калі нічога не здараецца – п’еш, каб што-небудзь здарылася. Бук!*

50 грамаў і кавалак цытрыны…

– Вось табе адразу адказ: *Я ня быў ні мізантропам, ні жанчына-ненавісьнікам, але мне падабалася адзінота. Добра сядзець сабе дзе-небудзь у закутку, паліць і папіваць. Я заўсёды быў лепшай кампаніяй самому сабе. Бук.*

50 грамаў і кавалак цытрыны…

– Трапна! *Калі б у нас была печань, якая магла б гаварыць, нам бы не спатрэбілася таварыства ананімных алькаголікаў. Бук.*

50 грамаў і кавалак цытрыны…

*– Няма нічога горш за таннае чырвонае віно, хіба што таннае белае, калі яно яшчэ пасьпее сагрэцца. Бук.*

50 грамаў і кавалак цытрыны…

*– Вы мяркуеце, што п'янства варта праслаўляць? – Ня больш, чым што-небудзь іншае. – Хіба алькагалізм не небясьпечны? – Дыхаць таксама шкодна. – Але ж п'яніцы нязлосныя, хіба не? – У большасьці – так. Як і цьвярозьнікі. Бук.*

50 грамаў і кавалак цытрыны…

– Ідзі ты! *П'янства – гэта форма самагубства, калі табе дазволена вяртацца да жыцьця й пачынаць усё зноўку на наступны дзень. Бук.*

50 грамаў і кавалак цытрыны…

– А трымай вось такое: *О, самы слабы і ганебны час у жыцьці майго народа – час ад сьвітаньня да адкрыцьця крам! Веня!*

50 грамаў і кавалак цытрыны…

– Думаю, вось гэтая цытата лепей: *Раніцай дрэнна, а вечарам добра – дакладная прыкмета дрэннага чалавека. Вось ужо калі наадварот – калі па раніцах чалавек бадзёрыцца і ўвесь у надзеі, а да вечара яго асільвае зьнямога – гэта ўжо сапраўды чалавек дрэнь, дзялок і пасрэднасьць. Непрыемны мне гэты чалавек. Ня ведаю, як вам, а мне непрыемны. Вядома, бываюць і такія, каму аднолькава люба й раніцай, і ўвечары, і ўсходу яны радыя, і заходу таксама радыя, – дык гэта ўжо проста мярзотнікі, пра іх нават казаць брыдка. Ну ўжо а калі каму аднолькава кепска – і раніцай, і ўвечары, – тут я ня ведаю, што і сказаць, гэта ўжо канчаны падонак і мудазвон. Веня!*

50 грамаў і кавалак цытрыны…

– Шэдэўральна! *Так. Больш піце, менш закусвайце. Гэта лепшы сродак ад ганарлівасьці й павярхоўнага атэізму. Веня.*

50 грамаў і кавалак цытрыны…

– Вось гэта паказальна! *Інтэлігентны чалавек часам напіваецца для таго, каб прабавіць час са сваім глупствам. Хэм!*

У дзьверы пазванілі. Гэня адчыніў. На парозе стаяў малады чалавек з пакункам сушы-ролаў. Вочы ў Гэні ўжо былі налітыя крывёю, з кожнаю цытатаю ён піў пяцьдзясят грамаў, у Яна апухла галава, ён таксама піў пасьля кожнай цытаты… Цытрына скончылася, першая пляшка была напаўпустою. Вечар накрыў сабою горад, як нямыты валацуга накрывае сабою месца, на якім зьбіраецца спаць; асабліва не абіраючы, ён проста кладзецца, змарнелы, спатнелы, і пачынае спаць, моцна заплюшчыўшы вочы, адкрыўшы рот, а ў навакольле зь ягоных лахманоў выскокваюць вошы, конікі, даўганосікі, жукі-караеды… Вечар абрынуўся на горад, як валіцца на ходнік валацуга дзеля таго, каб даць пакой целу й разьмяць свае ацёклыя грыбковыя ногі… Горад патануў у шэрых лахманах вечара… Сябры ператвараліся ў дрэвы, яны зрасталіся са сваімі пыльнымі фатэлямі, Ян быў падобны да вярбы, якая імкнецца сваімі галінамі акунуцца ў раку, у вогненную вадкасьць… Гэня быў як раскідзісты дуб, яго нішто не магло разварушыць… Яны сыпалі цытатамі, як лістотаю, яны пілі, як быццам бы іх карані не палівала дажджом шмат месяцаў, яны елі, нібыта ўпершыню за год, яны ўгрызаліся ў сушы-ролы, яны ірвалі іх рукамі, зубамі, запівалі гарэлкаю, пырскалі рысінамі й сырою сёмгаю адно аднаму ў

твар. Вечар быў перанасычаны пісьменьнікамі, дрэвамі, пітвом, сушы. Вечар быў пераеты й адначасова недапіты, вечар быў запэцканы споднім, вечар быў размазаны на хлеб і па стале.

*– Я ненавіджу выступаць у абарону наркотыкаў, алькаголю, гвалту ці вар'яцтва перад кім заўгодна, але са мной гэтыя рэчы заўсёды спрацоўвалі. Томпсан!*

100 грамаў і адзін сушы-рол…

*– Дрэннага ўіскі не бывае. Некаторае ўіскі проста лепшае за іншае. Але чалавек не павінен дурэць з выпіўкай, калі яму няма пяцідзесяці. Пасьля ж ён – чортаў дурань, калі ня робіць гэтага. Фолкнэр!*

100 грамаў і адзін сушы-рол…

– Гэта брахня! *Пі, мой сябра, мой блазан! Я нёс у сабе выдатны алькагольны пажар. Ён сілкаваўся сваім уласным запалам і апантана палаў. У маім жыцьці не было пэрыяду, калі я не хацеў бы выпіць. Я зь нецярпеньнем чакаў, калі скончу сваю штодзённую тысячу слоў; затым я пачаў выпіваць, як толькі дасягаў першых пяці сотняў. Не прайшло шмат часу, як я пачынаў піць да таго, як прыступаў да тысячы. Лёндан!*

100 грамаў і адзін сушы-рол…

– Я гэтага не баюся, я заўсёды пішу, калі хачу, калі п'ю, ем, займаюся сэксам! *Людзі – ідыёты. Яны зрабілі шмат глупстваў. Не атрымаўшы ўзамен нічога, акрамя кіслага пасьлясмаку. А вось калі б мы разьвівалі навуку, асвойвалі Месяц, Марс, Вэнэру, хто ведае, якім бы сьвет быў тады? Чалавецтву далі магчымасьць баразьніць космас, але яно хоча займацца спажываньнем – піць піва й глядзець сэрыялы. Рэй!*

100 грамаў і адзін сушы-рол…

– Гэта пра нас з табою? Спадзяюся, што не! Вось яшчэ паслухай цяпер маё, калі адышлі ад тэмы: *Цікава, якая стомленасьць надыходзіць раней – ад балбатні альбо ад слуханьня яе? Абэ!*

І тут новыя 100 грамаў адзін сушы-рол…

– Намякаеш, паскуднік?! *Доля мноства людзей менавіта такая: выяўляць сябе напалову. Гюго!*

Яшчэ ў дадатак 100 грамаў і адзін сушы-рол…

– Ды ну, на сябе паглядзі. *Падсунем сваю мару ворагам: можа быць, яны загінуць пры яе рэалізацыі. Лец!*

50 грамаў і адзін сушы-рол…

– Тады так. *Якія сьвежыя фарбы тых, хто быў у цені! Лец!*

40 грамаў і адзін сушы-рол…

*– Спачатку цябе не заўважаюць, потым ганьбяць, потым змагаюцца з табою… а потым ты перамагаеш! Гандзі. Зьеў?!*

30 грамаў і…

– Усё. Хопіць. *Я правёў дзень вельмі плённа. Я жыў. Лец!*

20 грамаў…

– Прасьцей сказаць так: *Часам трэба замаўчаць, каб цябе выслухалі. Лец!*

10 гр.

– Так… Здаецца, наш П’яны карабель патрапіў у шторм… – Гэня пачаў густа ванітаваць сушы-роламі на засьцеленую старым дываном падлогу.

Вечар даўно перастаў быць самім сабою, ён ператварыўся ў вялікага чорнага каржакаватага каршуна, які лётаў па хаце й дзяўбаў брудныя анучы, шкарпэткі, майткі, кубкі, талеркі, запэцканыя кнігі, чалавечыя сьпітыя целы.

– Усё, на сёньня зь мяне х-х-хопіць... – Ян не дагаварыў, а проста, як ёсьць, скаціўся з фатэля на падлогу, патрапіўшы пяткаю ў Гэніны ваніты.

– Пра-пра-прапа-ную нічыю – перамагло сяброўства...

# ІНТЭРМЭЦЦО. ВАДА

Вада (аксід вадароду) – хімічнае рэчыва ў выглядзе празрыстай вадкасьці, якое ня мае колеру ў малым аб’ёме, паху й смаку пры нармальных умовах. Хімічная формула: H2O. У цьвёрдым стане называецца лёдам, сьнегам або інеем, а ў газападобным – вадзяной парай. Каля 71% паверхні Зямлі пакрыта вадой (акіяны, моры, азёры, рэкі, ільды). Зьяўляецца добрым моцнапалярным растваральнікам. У прыродных умовах заўсёды ўтрымоўвае раствораныя рэчывы (солі, газы). Чалавек таксама збольшага вада... І гэта часта выклікае штосьці кшталту жаху. Кожны Дзень даводзіцца сцаць, кожны Дзень – піць, гвалціць свае ныркі, але вада – дужа прыцягальная рэч, калі хочацца напіцца альбо ўтапіцца. Вада на Зямлі можа існаваць у трох асноўных станах – вадкім, газападобным і цьвёрдым, і набываць розныя формы, якія могуць адначасова суседнічаць

адна з адною: вадзяная пара й аблокі ў небе, марская вада й айсбэргі, ледавікі й рэкі на паверхні зямлі, ваданосныя пласты ў зямлі. Вада здольная набываць той ці іншы смак, раствараючы ў сабе шмат рэчываў. Праз важнасьць вады “як крыніцы жыцьця”, яе нярэдка падзяляюць на тыпы па розных прынцыпах. Вада для чалавека ня Тое, Што ёсьць у прыродзе. Так, мы ейныя закладнікі, яна нас зьнішчае, мы навучыліся зарабляць на продажы вады, але не навучыліся даглядаць за ёю. Ёсьць шмат спробаў воднага жыцьця, але аніводнай спробы ня зьдзейсьнена, не вынайдзена да канца, толькі Кусто кахаўся з вадою, пакуль мы выціскалі са смагаю зь зямлі Тое, Што нам неабходна. Вада для нас – гэта мэтафара іншага жыцьця, гэта Пошук выйсьця зь цяжкіх абставінаў: калі зямля ўжо занятая, людзям даводзіцца адрошчваць плаўнікі й жабры. З фармальнага пункту гледжаньня вада мае некалькі розных карэктных хімічных назваў: аксід вадароду, гідраксід вадароду, монааксід дыгідрагена, гідраксільная кіслата, аксідан, дыгідрамонааксід. Калісьці чалавек таксама ўмеў Тое, Што ўмеюць аксалотлі, амбістомы... Ён быў здольны сам абіраць сфэры свайго жыцьця, прастору... Цяпер гэтым валодаюць толькі некаторыя амфібіі. Вада ў нармальных атмасфэрных умовах захоўвае вадкі агрэгатны стан, тады як аналягічныя вадародныя злучэньні зьяўляюцца газамі. Гэта тлумачыцца адмысловымі характарыстыкамі, якія складаюць малекулы атамаў, і прысутнасьцю сувязяў паміж імі. Атамы вадароду далучаны да атаму кіслароду і ўтвараюць кут 104,45°, і гэтая канфігурацыя строга захоўваецца. Празь вялікую рознасьць электраадмоўных атамаў вадароду й кіслароду электроннае воблака моцна зрушана ў бок кіслароду. Па гэтай прычыне малекула вады зьяўляецца актыўным дыполем. У выніку малекулы вады прыцягваюцца сваімі процілеглымі палюсамі і

ўтвараюць палярныя сувязі, на разрыў якіх патрабуецца шмат энэргіі. Што сталася?! Ты ня памятаеш, як было цікава вудзіць рыбу? Як апосталы, мы стаялі й зьбіралі рыбу, пакуль Хрыстос зьбіраў чалавекаў. Мы стаялі, а ты быццам бы хваляваўся, што не заўважыш, як накладзеш у майткі... Нам хацелая кінуць гэтую дурную справу, але ніхто з нас першым не хацеў саступіць. Па выніку донка парвалася, трасьніковыя вуды мы закінулі ў чарот, і я пабег сікаць, а ты па вялікай справе. Вада нас спрабавала злучаць, але ніякім чынам нас не яднала. Нас не хапала на доўгі час ані на вуду, ані на плаваньне. Мы з табою, сябра, са школьных гадзін засталіся па-за гульнямі, агульнымі гульнямі, калі я не любіў вудзіць, то ты баяўся плаваць, калі я ледзь не захлынуўся ў басэйне, то ты мяне наступным разам падтрымаў у гэтай справе… Структуры вады й лёду паміж сабой вельмі падобныя. У вадзе, як і ў лёдзе, малекулы імкнуцца разьмясьціцца ў пэўным парадку – утварыць структуру, аднак цеплавы рух гэтаму перашкаджае. Пры выпарэньні вады рвуцца усе сувязі. Разрыў сувязяў патрабуе шмат энэргіі, праз што ў вады самая вялікая ўдзельная цеплаёмістасьць сярод іншых вадкасьцяў і цьвёрдых рэчываў. А потым вада спрабавала забіць нас, і не аднойчы, але мы супраціўляліся як маглі, выкарасквалiся й бажыліся, што болей ані кроку ў рэку, ані кроку ў возера, ані кроку ў мора... Але сьпякота, мы едзем зь лецішча, брудныя, як парсюкі, пот выядае скуру, ногі зашмальцаваныя тлустай глебай, побач рака Пціч... І… Нават не раздумваючы... Вада валодае таксама высокім павярхоўным нацяжэньнем сярод вадкасьцяў, саступаючы ў гэтым толькі ртуці. Адносна высокая глейкасьць вады абумоўлена тым, што вадародныя сувязі перашкаджаюць малекулам рухацца з рознымі хуткасьцямі. У гэтым годзе за летні перыяд у горадзе патанула пяцьсот чалавек, большасьць зь іх былі

нецьвярозымі... Гэта паводле летняй дамовы між вадою й д’яблам... Жыцьцё заўсёды важыць менш за гусінае пяро, усё астатняе мы самі сабе прыдумляем, каб было нясумна жыць. У аднаго патанулага мужчыны маці павесілася… Чыстая вада – добры ізалятар. Вада – добры растваральнік, у ёй практычна заўсёды раствораныя тыя ці іншыя солі. У вадзе прысутнічаюць станоўчыя і адмоўныя іёны, дзякуючы гэтаму яна праводзіць электрычнасьць. Паводле электраправоднасьці можна вызначыць чысьціню. А што?! Можа быць, хтосьці хоча зараз прыняць ванну? Набраць як мага болей вады й апусьціць у яе сваё цела, ажно пакуль яно ня выцісьне колькі вады зь ваннай, а потым адкінуцца назад і задрамаць, а потым прачнуцца й зразумець, што афрыканскім шпорцавым жабам, зь якімі ў нас на колькі працэнтаў/адсоткаў супадае геном, вельмі пашанцавала. Як жа хочацца так і застацца адным вялікім кітом у ванным пакоі... Сіні колер чыстай акіянскай вады тлумачыцца паглынаньнем і расьсейваньнем сьвятла ў вадзе. З дапамогай кропель вады з кранаў можна стварыць напружанне да 10 кілавольт, вопыт называецца “кропельніцай Кэльвіна”. А потым уключыць фэн у разетку й абняць яго у ваннай, даць апошняга нырца… і ніхто нават не ўспомніць пра цябе… хіба толькі выпадкова, праз тыдзень суседзі знойдуць, не істотна, якія, тыя, што зьнізу, бо іх заліло, ці тыя, што зьверху, бо па вэнтыляцыі падняўся смурод ад твайго распухлага цела. Не істотна. Але пакуль што істотна падумаць пра эстэтыку суіцыда ў ванным пакоі, калі тваё цела апухае, набіраецца вады й ізаподы, й мнаганожкі, чэрві й навозныя мухі будуць піраваць пад тваёю скураю, і калі цябе знойдуць, хіба што толькі маці зможа апазнаць цябе па тым, што засталося ў цябе ад усьмешкі… Вада – гэта адно зь нешматлікіх рэчываў на Зямлі, якое пашыраецца пры пераходзе з вадкай фазы ў

цьвёрдую (акрамя вады, такой функцыяй валодаюць вісмут, галій і некаторыя злучэньні й сумесі). Вада можа гарэць, калі яе зьмясціць у атмасфэру з фторам, часам нават выбухаць. Пры гэтым вылучаецца кісларод. У нас вада добра рэагавала з карбідам, выбухоўвала ў плястыкавай бутэлькі дай божа як, пальцы магла паадрываць, а мы толькі паціралі крывавыя далоні, калі не пасьпявалі бутэльку адкінуць, і сьмяяліся, жартуючы, як усе падлеткі, пра валасатыя далоні й пра дрочку. Вада – жаночая стыхія. У індуісцкай міталёгіі яе ўвасабляюць "нябёсныя танцоркі" – апсары, якія спакушаюць мужчын. Яны жывуць у небе й на зямлі – у сажалках, зарослых лотасам. У эўрапэйскай міталёгіі вадзянымі дзевамі ёсьць німфы вады – наяды, нэрэіды; у сярэднявечных легендах – ундзіны, у славян – вілы, наўкі, русалкі. Яны ўяўляліся маладымі паненкамі з распушчанымі валасамі зялёнага колеру й рыбінымі хвастамі замест ног. З антычных марскіх німфаў найбольш вядомая Галатэя. Лічылася, што "вадзяныя гаспадыні" ня маюць душы й таму імкнуцца яе выкрасьці ў неасьцярожных мужчын, завабліваючы іх у бездань вод. Вядомы і мітычныя шлюбы з ундзінамі. У сярэднявечнай геральдыцы "вадзяныя гаспадыні" адлюстроўваюцца ў гербе рода, чый продак, згодна зь легендай, зьявіўся ад такога шлюбу. У гішпанскім фальклёры "вадзяных гаспадынь" малююць з сузор'ем у ілбе, з залатымі валасамі й "мігатлівым целам". У старажытнагрэцкай міталёгіі ўладаром мораў зьяўляецца Пасэйдон, у Ляконіі яго называлі Гайаох, так як верылі, што вада, рэкі, размываючы зямлю, зьяўляюцца прычынай землятрусаў. Пасэйдона прадстаўлялі ў вобразе каня. Конь Пэгас ударам капыта адкрыў крыніцу – Гіпакрэну. Кентаўры таксама зьяўляюцца духамі воднай стыхіі. Марскім канём малююць Гіпакампа. Сын Пасэйдона й нэрэіды Амфітрыты – марское бажаства

Трытон. У Бібліі вадзяной пачварай зьяўляецца Левіяфан. З воднай стыхіяй зьвязаныя зьмей і цмок. У славянскай міталёгіі вадзяны – злы дух, які ўвасабляе зьвязаныя з вадой небясьпекі. Ён малюецца старым, з калматай барадой, зялёнымі вусамі, аблытанымі цінай, з рагамі на галаве й лапамі зь перапонкамі замест рук. З павер’ямі аб вадзяных, якія зацягваюць людзей на дно, зьвязаныя легенды пра марскога цара ў наўгародскіх былінах пра Садко. Ягонай нэрэідаю сталася Наста, калі ён выпадкова апынуўся ў ейнай здымнай кватэры, выпадкова залез да яе ў ложак, яна была апранутая ў шаўковую піжаму, штаны якой амаль наскрозь былі прапітаныя вільготнымі выдзяленьнямі… Яны ляжалі й яна гладзіла яму руку… у яго стаяла з такім жарам і трымценьнем, што здавалася, толькі дакраніся да яго й адразу кончыш… ён зьняў зь яе піжамныя штаны й увайшоў у гарачую вільгаць, і сапраўды амаль адразу кончыў… яна не спынілася на гэтым, падняўшыся з ложка, яна зьнікла ў ванным пакоі, ён – за ёй – а яна мастурбіруе прахалодным душам, уключыўшы ваду на масажны рэжым, ён разварочвае яе да сябе сьпінаю, нахіляе наперад і, вось чэлес напружваецца, яна накіроўвае ваду сабе на клітар і яму на яйцы, ён ізноў адчувае, што хутка кончыць… гэта доўжылася цягам цэлага месяцу, яны елі й амаль не выходзілі зь ваннага пакою, толькі трахаліся й курылі… чэлес гарэў, нацёрты да крыві, яе похва палала, яны жылі ў ванным пакоі, і яго Нэрэіда паступова станавілася Псыхеяй, а ён рыбаю. Рыбы – надклас водных жывёл, шырокая група чэлюснаротых хрыбетнікаў, для якіх характэрна жабернае дыханьне на ўсіх этапах постэмбрыянальнага разьвіцьця арганізма. Рыбы распаўсюджаныя як у салёных, так і ў прэсных водах, ад глыбокіх акіянічных западзін да горных ручаёў. Рыбы маюць вялікае значэньне для ўсіх водных экасыстэм як

складнікі харчовых ланцугоў і вялікае эканамічнае значэньне для чалавека праз ужываньне іх у ежу. Сырая скумбрыя, сырая сёмга, лімон, соль, каньяк альбо піва, лепей піва, і ўсё, вечар гатовы, паяданьне сырой рыбы, набліжэньне да ўласных старажытных каранёў, станаўленьне. Яны ніколі ня грэбавалі гэтым. Лецішча, сажалка, японскія карпы, увосень іх сырымі не асабліва паясі, зашмат костак, але вось пасмажыць іх, кінуць на патэльню яшчэ напаўжывымі, ня здолеўшы разьбіць ім галовы, каб ня мучаліся, гэта проста, прасьцей, чым у дзіцёнка адабраць цукерку… Але вы спрабавалі адабраць цукерку ў дзіцёнка? У фармаваньні лускі прымаюць удзел як зьнешнія, так і ўнутраныя пласты скуры. Храстковыя рыбы маюць плакоідную луску, якая ідэнтычна зубам усіх хрыбетнікаў; заходзячы ў рот, плакоідныя лускі, уласна, і ператвараюцца ў зубы акул і скатаў. Плакоідная луска складаецца з дэнціну, які фармуе аснову, а зьверху пакрыта эмальлю. Па хімічным складзе дэнцін і эмаль не адрозьніваюцца ад дэнціну й эмалі зубоў чалавека. Страчаныя плакоідныя лускі не аднаўляюцца, але пры росьце рыбы іх колькасьць павялічваецца. У некаторых храстковых рыб (напрыклад, у чарнаморскага катрана) плакоідныя лускі могуць ператварацца ў вялікія калючкі. Аднойчы мужчына адпачываў на беразе акіяну з маленькім пляменьнікам. Хлопчык плёскаўся на ўзьбярэжжы, не заўважыў акулу. Яна падплыла ды ўсімі сваімі зубамі, якія ў яе былі праз ператварэньне плакоіднай лускі, адарвала дзіцёнку руку. Мужчына, замест таго каб агалцела й спужана бегаць па беразе, раззлаваўся й кінуўся да акулы, выцягнуў яе, двухмэтровую, за хвост на бераг і забіў, а потым успароў жывот, дастаў руку свайго пляменьніка й адвёз у бальніцу, дзе хлопцу прышылі руку. Вось вам новая гісторыя пра “воўка й чырвоны капялюшык”. У адрозненьне

ад наземных пазваночных, у якіх чэрап зь вялікай колькасцю зрошчаных костак, чэрап рыб зьмяшчае больш чым 40 касьцяных элемэнтаў, якія могуць рухацца незалежна. Гэта дазваляе ажыццяўляць выцягваньне сківіц, рассоўваньне сківіц у бакі, апускаць жаберны апарат і дно ротавай паражніны. Маці прынесла дамоў трох жывых карпаў, паклала іх у маразілку, каб яны павольна паснулі й памёрлі, сын, яшчэ зусім малы, узяў карпаў і запусьціў у ванную, поўную вады, а потым узяў самаробную вуду й пачаў іх лавіць на кручок… зловіць, дастане карпа, адарве кручок, парваўшы яму рот, і плюхае рыбіну назад ў ваду. Карпы ў некаторых культурах сьвятыя рыбы, сын гвалціў сьвятыню шматкроць разоў, ажно пакуль пад вечар маці, прыйшоўшы з працы, не пабачыла поўную ванну крывавай вады і напаўжывых карпаў. Яна паклала іх на разьдзелачную дошку ды, са сьлязьмі на вачох, пазабівала сякерай. Плаваньне рыб ажыцьцяўляецца дзякуючы скарачэньню цягліц, якія аб’яднаны сухажыльлямі з хрыбетнікам. Міямэры ў целе рыбы маюць структуру конусаў, укладзеных адзін у адзін і падзеленых перагародкамі злучальнай тканіны (міясэптамі). Скарачэньне міямэраў праз сухажыльле перадаецца на хрыбетнік, падахвочваючы яго да хвалепадобных рухаў па ўсёй даўжыні цела або толькі ў хваставы аддзел. Адно з апошніх чалавечых вычварэньняў, жанчыны мастурбуюць рыбамі. На некаторых порнасайтах зьяўляюцца ролікі, дзе жанчына бярэ жывую рачную рыбу, нацягвае на яе прэзэрватыў і галавою наперад засоўвае яе сабе ў похву, рыба варушыцца, жанчына атрымлівае асалоду… Потым паступова рыба памірае, а порнаакторка працягвае мастурбіраваць рыбінаю, пакуль ня кончыць. Ян з малых гадоў атаясамліваў сябе з воднаю стыхіяй і марыў стаць рыбаю, але замінала сучаснае стаўленьне да гэтых жывых

стварэньняў… Вада заўсёды вабіла дайвэраў і рамантыкаў, маракоў, піратаў і плаўцоў. Вада добра разьвівае цела, дае адчуваньне спакою й нерухомасьці, шчасьця й страху, але вада ніколі не была б такой прыцягальнай, калі б ня мела ў сваіх нэтрах столькі жывога сьвету, такога рознакаляровага напластаваньня арганізмаў. Вада не была б вадою, калі б не была здольная на Сусвьетны Патоп і на тую моц, каб дзесьці там, на глыбіні, мець здольнасьць утрымліваць заснулага Ктулху. Вільгаць, вада, жыцьцё… Рыба – адзін з раньніх сымбаляў хрысціянства. Па-грэцку “рыба” – “ichthys”, што зьяўляецца акронімам грэцкай фразы “Ісус Хрыстос Божы Сын Збаўца”. Гэтая фраза сустракаецца на каменных плітах – сьвятых рэліквіях у Ерусаліме. Выява дзьвюх рыб па баках ад вертыкальнага якара зь верхавінай у выглядзе крыжа выкарыстоўвалася як сакрэтны “пропуск-пароль” у часы, калі першыя хрысціяне перасьледваліся рымлянамі.

## ПА ЛЕСЬВІЦЫ ЗЬВЕРХУ

*Зямля*

Па лесьвіцы зьверху нехта з грукатам зьбег, Гэня пачуў гэта, яшчэ не пасьпеўшы адчыніць дзьверы пад’езда, а праз сэкунду на яго наляцелі двое дзяцей і спужаліся ад нечаканасьці, пабачыўшы кагосьці перад дамафонам.

“Ліфт не працуе!” – сказаў адзін з хлопцаў і пашкандыбаў, шлёпаючы хатнімі тэпцямі, за сябрам, які ўжо хаваўся за домам.

“Куды можна бегчы ў тэпцях?” – падумаў Гэня і, затрымаўшы цяжкія мэталічныя дзьверы, увайшоў і збочыў да аварыйнай лесьвіцы. Сем вечара, шмат людзей вярталіся з працы, таму на лесьвіцы было незвычайна людна. Вось, прабачыўшыся, спусьцілася жанчына, трымаючы за руку дачку зь вялікім белым бантам на макаўцы. Гэня дайшоў да

другога паверху… Яму не шанцавала, ягоная кватэра была на дзявятым…

“Божухна, я, здаецца, зусім малады, а чамусьці адчуваю сябе такім старым і пакрыўджаным на гэты сьвет”, – разважаў Гэня, мінаючы другі паверх… “Як злосна ў краме на мяне глядзелі… я ж толькі папрасіў адну скумбрыю, а прадавачка, тоўстая такая… тлустымі пальцамі пачала калупацца ў прылаўку-лядоўні, нават не апрануўшы цалафанавую пальчатку… і гэтыя яе вусны, з чырвонай памадай, такія брыдкія, такія ільсьняныя… Я ўсяго толькі папрасіў яе надзець пальчатку, а яна быццам на ворага паглядзела, і так цмокнула, і вочы ў неба закаціла. Страшна ў краму завітваць! А на касе што было, я нават ня ведаю, як гэта перадаць словамі… Жанчына ледзь ня кінулася на мяне з кулакамі, бо я ёй, каб аплаціць пакупкі, даў буйную купюру. Халера!”

Гэня мінаў пралёт за пралётам, ягоныя лыткі даўно запамятавалі такія лесьвічныя практыкаваньні ды крыху нылі. Сам малады хлопец нагадваў шпалеры: калі б нават распачалася чарговая вайна, ён бы так і застаўся безэмацыйна прыклееным да сваіх думак і кватэры, як да сьцяны, абмазанай шпалерным клеем. Час ад часу Гэня сутыкаўся з суседзямі: яны альбо наганялі яго зьнізу, альбо абрыналіся зьверху. Торба са скумбрыяй, лімонам, сольлю й півам боўталася недзе на ўзроўні кедаў.

“А ўнівэрсытэт!? Што да чаго!? Чаму гэта Андрэй Мікалаевіч так абурыўся на мяне за тэлефон. Падумаеш, справа якая, ну патэлефанаваў нехта, ну забыўся адключыць гук… Што, праз гэта трэба так крычаць і выганяць з аўдыторыі?! Дык такое здарыцца можа з кім заўгодна! А потым, на другой пары, ён усё ніяк ня мог супакоіцца й амаль штохвілінна жартаваў пра маю мабілку… Што за

дзень… Хіба чалавек ня мае права на памылкі? Яго за гэта трэба катаваць? Нават астатнія студэнты заўважылі, што Андрэй Мікалаевіч занадта шмат часу выдаткаваў не на лекцыю па “штурмэрах”, а на мяне й мой тэлефон… Я не магу так існаваць, калі людзі толькі й робяць, што крытыкуюць за ўсё на сьвеце, нават за тыя дзеяньні, у якіх асабіста не вінаваты!” Гэня нарэшце падняўся на свой паверх, рукі трэсьліся, ён ледзь ня плакаў, апошнім часам яго было надта лёгка вывесьці з раўнавагі, тым болей давесьці да нэрвовага стану, ён хварэў…

“Быццам ёсьць з-за чаго так крыўдаваць і хвалявацца! Але ў аўдыторыі мяне кідала то ў холад, то ў жар, і трэсла… Бляць, каб ня гэты тэлефонны званок, каб ня гэтыя грошы аднай буйной купюрай, каб не зламаны ліфт… магчыма, дзень быў бы лепшы… Хіба ўсё залежыць ад такіх дробязей?!” – усхвалявана прамовіўшы пустой самотнай кватэры апошні сказ, Гэня зачыніў уваходныя дзьверы. Ён зьняў кеды і, не распранаючыся, пайшоў да кампутара. На стале перад маніторам была вялікая, брудная пасьля чыпсаў і сасісак талерка, у якой імгненна апынулася сырая скумбрыя. Ён знайшоў нож, парэзаў рыбіну і выціснуў на яе лімон. Побач з талеркаю ён паставіў пакунак з сольлю, каб апускаць кавалкі рыбы ў соль і есьці. Кампутар загрузіўся й аўтаматычна падключыўся да безьлімітнага Інтэрнэту. Гэня сеў у мяккі фатэль, зубамі адчыніў першую бутэльку піва і перадусім вырашыў праверыць паштовую скрыню.

*Зямля*

У школе ў той далёкі дзень прымусілі двойчы на тыдзень хадзіць у басэйн. Ідэя файная, нават прываб-

ная, улічваючы падлеткавую зацікаўленасьць дзявочымі целамі. Адразу ўсе хлопцы пачалі па-іншаму глядзець на аднаклясьніц, асабліва на Леру, Веру і Лену, бо ў іх былі самыя вялікія грудзі. Гэня ня быў выключэньнем, ён на геамэтрыі толькі й касіў вочы ў бок Леры, распальваючы сваё ўяўленьне й няёмка хаваючы пад партай тую самую распаленую прыладу. Ян, седзячы побач, калупаючы прышчыкі на шчацэ, лыбіўся ў бок Веры. Так яны бавілі свой час на занятках.

Верасень пачынаўся прыемным хваляваньнем: усе за лета сталі крыху вышэйшыя, таўсьцейшыя й больш дарослыя.

Першы раз у басэйне было яшчэ сяк-так: хлопцы дурэлі, рабілі сальта й пужалі дзяўчат, хапаючы пад вадою за ногі. Было сьмешна, і гэта крыху паслабляла дзеяньне падлеткавых гармонаў.

Гэня ніколі не любіў ні ваду, ні, тым болей, грамадзкія басэйны. Першае таму, што ад вады цела апухала й апынялася важкім, другое – ён быў хутчэй мэлянхолік і любіў бавіць час у самоце. Але што паробіш, ніводны хлопец ня будзе адмаўляцца ад сузіраньня дзяўчат, хоць бы і ў купальніках. Сябра й аднаклясьнік Ян, наадварот, любіў ваду, але баяўся яе.

Вось Лера раптоўна апынулася перад Гэнем, сьмяецца, пляскае ў ладкі, кроплі вады трапляюць яму на твар, ён таксама сьмяецца, але не глядзіць ёй у вочы, бо ніяк ня можа адвесьці позірку ад такіх вялікіх грудзей і смочкаў, якія так нахабна ўпіраюцца ў купальны касьцюм.

Раптоўна зьверху нехта плюхаецца ў ваду, магчыма, зноў Эдзік зрабіў сваё фірмовае сальта. Гэня толькі й бачыць, як збоку нечая нага трапляе яму ў скроню, і раптам цемра…

Праз колькі часу цемра зьнікае, і зрок пакрысе вяртаецца, робячы імглістыя твары ягоных аднаклясьнікаў больш акрэсьленымі… вось ён пазнае спужаную Леру, Веру і Лену, якія, нахіліўшыся над ім, шасьцю цыцкамі амаль ціснуць яму ў твар, а нейкі аголены мужчына, трымаючы ягонае падбароддзе, сьмяецца…

“Ня можа быць, каб гэты мужык рабіў мне штучнае дыханьне рот у рот?!” Бліскавіца непрыемнай думкі зьнікае й ён заплюшчвае вочы.

“Першы раз у басэйне, нават плаваць ня ўмею, амаль на плыткаводзьдзі, дзе знаходзяцца толькі малодшыя клясы, і атрымаць ад кагосьці нагою ў скроню, аб чым ён думаў, гэты прыдурак, калі плюхаўся, расставіўшы ногі!” – абураўся Гэня, ягоная галава моцна балела, ён кашляў зялёнай макротай, а ў носе да гэтага часу яшчэ трымаўся пах хлоркі… Ён ехаў у аўтобусе дадому, у салёне было бітком, людзі віселі на парэнчах, трымаліся адно за аднаго, хтосьці цяжка і засмучана ўздыхаў, нейкая жанчына кляла на чым сьвет таго, хто ёй не саступіў месца. Гэня марыў пра тое, каб хутчэй трапіць дадому, бо цяпер ужо хвалі целаў ціснулі на яго з усіх бакоў, хтосьці ззаду варушыў рукою на ўзроўні ягонага азадка, а ўласная рука недзе па-над галавою ацякла й анямела. “Божа, як ад усіх яшчэ сьмярдзіць, я ненавіджу натоўпы людзей!” Гэня ехаў, здавалася, цэлую вечнасьць.

Нарэшце доўгачаканы пакой, родны прытулак, родная кватэра, хутчэй да кніг, да тэлевізара, адпачынак, забыцца на басэйн, на аднаклясьнікаў, на аўтобус…

На наступным тыдні, калі ён прапусціў праз здарэньне два паходы ў басэйн, “фізрук” прымусіў Гэню зьявіцца,

бо інакш па паводзінах пагражаў незалік – адзнака ад кляснага кіраўніка, а далей можа быць яшчэ й горш. Гэня апрануў плаўкі, завязаў на іх матузок і, пачэсваючы пад пахай, другім разам пакрочыў у басэйн, які ўжо пасьпеў апынуцца для яго чымсьці варожым і вусьцішным, асабліва вунь тыя хлопцы, што дурэлі й пляскаліся ў ваду, хто як быў здольны – салдацікам, бервяном, матылём, а хтосьці намагаўся скокаць адштурхоўваючыся нагамі ад самкнёных рук аднаклясьніка.

Гэня ізноў залез у ваду, насьцярожана агледзеўся, у басэйне было амаль тры клясы, гэта значыць амаль дзевяноста чалавек тут і цяпер, у вадзе. Хтосьці быў падобны да цюленя й лянотна адпачываў на ўскрайку, не зважаючы на крыкі настаўніка, альбо гэтак жа, ледзь варушачыся, спаўзаў у ваду, хтосьці наадварот, як пінгвін, тупаў пад вадою і выскокваў на паверхню, а хтосьці займаўся падводнымі дасьледваньнямі й пужаў дзяўчат, якія амаль усе разам пранізьліва вішчэлі, нават калі сапраўды пужалася толькі адна, яе віск падхоплівалі астатнія, быццам па нейкай ланцуговай рэакцыі…

“Цьфу, вар’яцтва, я ўяўляю, колькі ўжо ў гэны басэйн насцала, і мне тут яшчэ боўтацца, а інакш…” – не пасьпеў Гэня дараспавесьці да канца самому сабе сваю думку, як хтосьці схапіў яго за лыткі й штурхануў пад ваду.

Гэня ня надта ацаніў гэты жарцік.

Яго доўга прыводзілі ў прытомнасьць, бо ён пасьпеў ляснуцца ілбом аб кафлянае дно басэйна, прыпячатаны зьверху кімсьці з аднаклясьнікаў, хто ў той час рабіў свой каронны нумар – скачок салдацікам… Першыя словы Гэні, калі ён адкашляўся ад вады былі: “Ненавіджу ваду й людзей!”, і яго пачало калаціць, усё цела сутаргава курчылася… і тут не

дапамаглі нават шэсьць грудзей аднаклясьніц, якія шчыльна ціснулі яму на твар і шыю, у той час як нехта трымаў за рукі й ногі.

Больш Гэня не наведваў басэйн, атрымаўшы жудасны досьвед і нешта кшталту трасучай хваробы, якая апаноўвала яго ў гадзіны стрэсу альбо нэрваў. Гэня вырашыў, што яму бліжэй за ўсё Зямля, глеба як стыхія, як штосьці статычнае й вартае даверу.

*Зямля*

Бацька, гэты ягоны “ацец”, чалавек, які ў пэўны, ня надта ўдалы, момант выдаткаваў адзіннацаць сэкунд на аргазм, амаль як чхнуў альбо кашлянуў, і за гэта расплаціўся жывой істотай, чалавекам, сынам, які пачаў расьці, а сам ён нават да гэтага яго не заўважаў, як не заўважаў “Будзьце здаровыя”, калі чхаў. Альбо, калі яго позірк пільна ўтаропліваўся ў Гэню, быццам гэты позірк быў скіраваны на кагосьці незнаёмага. Але праз колькі сэкунд узгадваў, што гэта сын, які існаваў, нібыта стрэмка, якую трэба было тэрмінова выдаліць зь цела. Пазбавіцца перашкоды… Бацька часта накідваўся на сына са сваркамі, браў рэмень і лупцаваў, пакуль аднойчы Гэня не перакуліў яго на падлогу падчас катаваньня й не пагразіў яму кулаком… Пасьля гэтага бацька кінуў фізычныя практыкаваньні і праз колькі часу нават перастаў сварыцца, пакінуўшы дзіцёнка ў адзіноце. Бацька выдаліў яго са сваіх знаёмых, ня кажучы ўжо пра сваяцтва, і Гэня апынуўся чымсьці кшталту неіснуючага “апчхі”, за якое даўно ўжо на словы “Будзьце здаровыя” адказалі “Дзякуй”, і ўсе справы.

Гэня ня надта засмучаўся з гэтае нагоды, для яго быць непрыкметным для бацькі азначала волю бязь

межаў, бо што яшчэ трэба для файнага існаваньня. Маці даўно не было побач… А калі й бацькі ня стала, Гэня ў свае дваццаць год упершыню ўздыхнуў з палёгкай, ён імкнуўся да свабоднага існаваньня ў пустой кватэры, каб хадзіць голым па пакоях і на кухні, пачэсваючы грудзі, якія ўжо былі паростымі кволаю расьлінасьцю, глядзець тэлевізар і не спрачацца за тэлеканалы, і не атрымліваць ніякіх пагроз, лаянкі, крыўд ды нянавісьці. Ён і бацька былі ў гэтай кватэры суседзямі і падзялялі нават паліцы ў лядоўні на “свае” і “не свае”, ня кажучы ўжо пра астатняе. Гэня нават кубак мыў толькі свой – чорны й пляшкі піва хаваў у сваім пакоі…

Пасьля сьмерці бацькі Гэню пачалі наведваць сябры, але тыя мары й спадзяваньні, што былі пры жывым тату, апынуліся фікцыяй. Гэню была патрэбная зусім пустая кватэра, каб ён цалкам адчуў, што ягонае прызначэньне – ізаляцыя ад людзей, а зусім не тыя ружовыя мары пра тое, як у яго будуць жыць сябры, а ўсе дзяўчаты, знаёмячыся зь ім, такім маладым і ўжо з кватэраю, будуць імкнуцца да яго ў ложак, прэтэндуючы, не, нават на генэтычным узроўні адчуваючы, што ён найлепш пасуе ім як самец.

З часам, гады праз тры, ён ізаляваўся ад сяброўстваў і непатрэбных зносінаў…

Яго пачалі наведваць толькі тры блізкія сябры: Інэса, аднаклясьнік і сябар дзяцінства Ян, і самы родны й блізкі чалавек – Вітаўт… І тое, ён іх усіх трываў толькі паасобку альбо ўдвух, але толькі пры файным настроі, і ніколі ён ня бачыўся зь імі ў сваёй кватэры, калі іх было трое альбо акрамя іх прыходзіў яшчэ хтосьці.

*Зямля*

“Бацька!!! Ды я ніколі на ягонай магіле не зьяўлюся! – крыкнуў Гэня, раптоўна ўспомніўшы, як той высек яго пасьля бацькоўскага сходу ў школе. – І за што? За кепскія паводзіны ён мяне лупцаваў да крыві, паскуда! Я ніколі ня мог зьявіцца перад ім, каб не дрыжаць, альбо не хвалявацца, альбо каб сутаргава не перабіраць у галаве апошнія падзеі за дзень, за якія ён мог пачаць сварыцца… Матуля, мілая, як крыўдна, што ты так рана мяне пакінула!” Гэня сядзеў перад маніторам кампутара, які сьвяціўся выяваю мэгаполіса. Над адным зь пешаходаў, які быў у чорнай байцы, гарэла невялікая зялёная кропка з подпісам “Ален” – гэта быў ягоны пэрсанаж у кіберпрасторы рэаліці-гульні ў Інтэрнэце. Нейкая дзяўчына прызнавалася Алену пра тое, як файна яго сёньня было сустрэць на гэтай вуліцы… Але Гэня ёй не адказваў.Унізе на маніторы міргала поле для адказу. Ён ня мог, бацька зноў завалодаў ягонымі ўспамінамі, вырваўшы зь іншай рэальнасьці.

*Зямля*

Апошнім часам Гэню вельмі стамлялі паездкі ў грамадзкім транспарце. Праз два месяцы ён мусіў скончыць гэтую грэбаную школу, і тады варыянт штодзённай цырымоніі ў тры прыпынкі мог цалкам зьнікнуць.

А калі ўнівэрсытэт?

Халера, які ўнівэрсытэт, якая школа, яму проста трэба быць на вачах бацькі, які назірае за ім з вакна на кухні: ягоная постаць – маленькая кропка ў чырвонай куртцы – сядзе ў зялёны аўтобус, адзіны аўтобус сярод хмары тралейбусаў… Потым, калі ён апынецца ў салёне – ён

вольны, адзінае, што застанецца на ягоных шматпакутных плячах – нянавісьць, татальнае непрыманьне ўсіх гэтых істот, жывёл, падобных да людзей, якія сумна, усе разам, быццам быдла на полі, прыцмокваюць і ўглядаюцца кудысьці ўдалечыню, быццам у аўтобуснай прасторы існуе бязьмежны гарызонт, у які можна прыемна й тужліва ўглядацца.

Пакуль толькі прыпынак… Людзей назьбіралася шмат, усе пра штосьці балбочуць і аб чымсьці ўздыхаюць… Нейкая бабулька стогне і распавядае суседцы па прыпынку, як яе закатаваў грэбаны артрыт, маладая жанчына вінаваціць маленькага сына ва ўсіх сваіх пакутах, штурхаючы яго за руку, быццам ляльку, а малы, што той паяц, толькі лыбіцца… Шмат людзей кураць, нехта цяжка кашляе, нехта сплёўвае сэплі, ачышчаючы горла… Тытунь, танная парфума, гоман, званок мабілкі, нехта штурхаецца, нехта ўглядаецца ў Гэнін твар сьлязьлівымі вачыма, аплыўшымі пасьля п’янкі, побач стаіць стары і, нэрвова трасучы галавою, шмат разоў паўтарае адно слова “камунясы, камунясы, кааамууняясыы!”, а побач малады панк у зашмальцаваным джуце дадае да мармытаньня старога “грэбаныя”, і атрымліваецца касмадэманічны фон: грэбаныя (сказана як адрэзана, зь нянавісьцю) камунясы (расьцягнута і старанна), грэбаныя кааамуууняяясыыы…

На прыпынку адбываўся звычайны ранішні паказ, не хапала толькі некалькіх немаўлят, што, галосячы, падарожнічалі б у лякарню, а іх мамачкі па чарзе, то супакойваючы сваіх дзяцей, то ганьбячы, пасьпявалі трашчаць адна з адной без супыну.

Гэня ехаў у вучэльню. Рукі пачыналі трэсьціся, сэрца моцна бухаць, ціск стукаць у скроні, ён ненавідзеў грамадзкі транспарт і асабліва – грамадзкія прыпынкі:

*Зямля*

– Я табе кажу, Гэня, тут нельга так, мы з табою амаль ня бачымся, ты кінуў вучэльню, потым другі курс унівэрсытэта, працу… На што ты жывеш? Як ты жывеш?!

– Інэс, я нармалёва маюся, у мяне ж ёсьць вы, сябры! – Гэня спрабаваў задушыць раздражненьне, выкліканае банальнымі пытаньнямі. Нясьцерпна захацелася дадому, ён нэрваваўся, вочы не маглі спыніцца на адным прадмеце… Інэса сядзела насупраць яго за сталом, і яе чорныя вочы палалі жаданьнем адказаў, дзеяньняў з боку сябра, у скрайнім выпадку яна чакала апраўданьня...

– Я даю табе слова, што ты мяне выцягнула сюды апошні раз.

– У сэнсе апошні раз… сюды апошні?

– Не.

Гэня сядзеў і чакаў замоўлены куфаль піва й бульбуфры са смажанай качкай.

– За апошнія тры месяцы ты амаль ні разу ня выйшаў з кватэры! Так нельга!

– А што мне рабіць на вуліцы альбо вось тут?! Глядзець, як жаруць усе гэтыя людзі!? Я не магу, мне ня трэба анічога ад гомасапіэнсаў! – Гэня відавочна нэрваваўся й сутаргава сьціскаў відэлец. – Дык калі ж прынясуць піва?!

– Не абавязкова ў кавярні сядзець і назіраць за астатнімі, дастаткова падтрымліваць са мною размову й атрымліваць асалоду ад замоўленай ежы, напрыклад, – Інэса відавочна пакрыўдзілася на тое, што Гэня зусім разгублены і не ў гуморы.

Рэстарацыя была запоўненая людзьмі, быў абед, і ўвесь, так бы мовіць, сярэдні кляс мэнэджэраў і мод-

ных вэб-дызайнэраў, дырэктараў, цырульнікаў-стылістаў, бухгальтараў, сакратарак напампоўваў страўнікі гэткай жа, як самі, моднай бездухоўнай ежай, балбочучы ў лепшым выпадку пра надвор’е, а так ціўкаючы нешта незразумелае адно аднаму ў сваіх “ціўцерах”.

Гэню прынесьлі піва, Інэсе pu-erh гарбаты, бо як жа без такой моднай гарбаты ў такой фэшэнэбэльнай кітайскай рэстарацыі… Ён выдпіў паўкубка адным глытком і ўтаропіўся кудысьці вышэй галавы сяброўкі, якая, лічачы, што ён глядзіць менавіта на яе, пачала прыгожа ўсьміхацца, а потым ціхенька дастала з торбы стары Паляроід і шчоўкнула Гэню, пакуль ён не пасьпеў запярэчыць. Гэня не заўважыў Паляроід і толькі пачаў круціць галавою па бакох.

“І чаму гэта мы зь ім сябры? – пыталася Інэса ў самой сябе сябе, – ах, так, таму што ён неяк прамовіў, што мы можам быць толькі сябрамі, каб захаваць хаця б нейкія адносіны, а я тады была пьяная й хацела, каб пачаў раўнаваць Ян, абыякавы да мяне.”

Гэня зьвёў бровы, яму стала блага, людзей было зашмат, як ён увогуле пагадзіўся кудысьці выправіцца, трэба было проста замовіць Інэсе ежы й чакаць, калі яе даставяць у кватэру. Прастора вакол яго катастрафічна звужалася, быццам сталы з пачварнымі наведвальнікамі набліжаліся да яго. Вось ён зірнуў у правы бок, і амаль перад ягоным носам жанчына, гадоў трыццаці пяці, з высока начасанымі пэргідрольна-жоўтымі валасамі гучна зарагатала, і зь яе чырвоных вялікіх вуснаў выпаў кавалак марынаванага бамбука, абсмажанага з соевым соўсам. І гэты кавалак плямай ляпнуўся на белую блузку, пад якой трэсьліся, як жэле, грудзі ў чорным станіку. А мужчына, які сядзеў насупраць яе, так

перапужаўся, быццам гэта быў не марынаваны бамбук, а нейкі іншаплянэтны эмбрыён, ён падскочыў уверх, выліў на стол чырвонае віно і пачаў гучна вішчаць, высоўваючы з роту доўгі патроены язык. Да яго падскочылі два афіцыянты, карэйцы, з жоўтаю скураю, вяроўкаю й нажом і пачалі завязваць яму рукі, а потым хуценька зрабілі яму харакіры, і мужчына, зьнерохомеўшы, плюхнуўся на стол з вываленым прыкусаным языком, выціскаючы з сябе усьмешку. На сэкунду заля патанула ў маўчаньні, адна зь дзяўчын, якая самотна сядзела й калупалася ў сваім айфоне, у якім цяпер ужо магчыма перасылаць адно аднаму пахі экскрэмэнтаў і нават тэлефанаваць, пачала гучна варушыць сківіцамі, перамолваючы чакалядку з арахісам, аблізваючы вусны й крыху стогнучы, быццам бы вось яшчэ сэкунда й у яе будзе аргазм. Суседзі па сталах зьвярнулі на яе ўвагу й, высалапіўшы доўгія языкі, пачалі зьлізваць з талерак ежу, якую ім лагодна вылівалі з кранаў на сталах карэйцы-афіцыянты.

– Гэня!! Божачкі! Гэня! Ты ў парадку?! – занепакоена тузанула яго за плячо Інэса.

– Так, так... я нармалёва, пайшлі адсюль, нешта мне больш не хочацца есьці ў гэтай рэстарацыі... - млява прамовіў Гэня, вяртаючыся ў стан, блізкі да нармалёвага.

– Ты такі бледны, я цябе спрабавала разварушыць, але...

– Пайшлі, Інэс, я больш тут не вытрымаю!

– Добра, я толькі адмяню замову й разьлічуся за напоі...

Калі яны выходзілі з рэстарацыі, у іх бок паляцеў кавалак смажанай качкі й нехта гучна зарагатаў, выпусьціўшы газы...

– Свіньні! Больш ніколі, чуеш, Інэса, больш ніколі не спрабуй выцягнуць мяне з кватэры! У мяне ёсьць усё, што мне

трэба, у маім родным куце: праца, забаўлялкі, ежа, вэбмані! Таму, калі хочаш, проста наведвай мяне з пляшкай віна!

*Зямля*

Калі Гэня быў яшчэ тым самым падшыванцам, які толькі адчуў свабоду, ды зрэдку, але ўсё-ткі атрымліваў асалоду ад вучобы, альбо, скажам, ад самога наведваньня вучэбнага будынку, што пахне потам, старымі фатэлямі й безвыходнасьцю, ён завітваў ва ўнівэрсытэт, але не дзеля таго, каб згубіць некалькі гадзін з жыцьця на лекцыі, а каб спаткаць Яна (ён вучыўся там жа, дзе й Гэня, але на іншым факультэце) і разам зь ім выправіцца па алькаголь, бо яны любілі бавіць час на якой лаўцы, гамонячы пра літаратуру, філязофію, мастацтва, разбаўляючы ўсё гэта гарэлкай альбо партвэйнам, і пасьля вызвоньвалі Вітаўта і выпраўляліся на прыгоды...

Але неўзабаве прыйшло лета, і Гэня сумаваў па сустрэчах зь сябрам, таму было вырашана пабачыцца ўвечары на Нямізе.

– Прывітаньне!

– Ага.

Яны ніколі не размаўлялі, пакуль не пачыналі жлукціць, бо ў кожнага было ўстойлівае непрыманьне гарадзкога асяродзьдзя й асабліва мінакоў, якія, штурхаючы іх з розных бакоў, накіравана шпацыравалі альбо ў бок прыпынку, альбо ў краму, альбо дамоў.

– Ты ня ведаеш, чаму сёньня так шмат людзей каля Палаца спорту?

– Не, ня ведаю. Магчыма, зноў які тупы канцэрт чарговай моднай похвы альбо грэбаны хакей!

Сябры выправіліся да Сьвіслачы, бліжэй да вады, каб, апусьціўшы ногі з прыступак, ледзь кранаючы яе па-

верхню, выжлукціць па пляшцы партвэйну зь мінэралкай… Натоўпы людзей усё папаўняліся, і вось ужо ўся прастора вакол іх была ўсьцяж запоўнена людзьмі, якія ўсе былі п’яныя і ўсе трымалі ў руках вялікія плястыкоўкі зь півам, гарлапанячы бязглуздыя песьні… Мужчыны былі апранутыя ў трэніровачныя штаны й белыя саколкі без рукавоў, а дзяўчыны – у кароткіх спадніцах і з пустою ўсьмешкаю на твары. Усе вакол раўлі й скакалі, а з драўлянай сцэны, відавочна пабудаванай за некалькі гадзін, прытопваючы й матляючы накладнымі патламі ў розныя бакі, раўла ў мікрафон сьпявачка рускай эстрады, “міжнародная мэга поп-зорка” Наташа Караблёва і, намагаючыся пляскаць у ладкі, яна крычала: “Я люблю цябе, мая блакітнавокая краіна!”

– Гэта не твая краіна! – закрычаў Ян зь нянавісьцю, адпіў каля ста грам партвэйну й запіў яго мінэралкай.

– Пайшлі адсюль, бачыш, тут нейкае бязглуздае сьвята пачалося, магчыма, зноў “дзень горада” альбо “незалежнасьці краіны”!

– Так, пайшлі, бачыш, вунь і дождж хутка мусіць быць.

– Гэта ўжо не істотна, што тут за сьвята, паглядзі, колькі сабралася людзей, няўжо пад некалькі дзясяткаў тысяч назьбіраецца, і дзеля чаго?! Каб нажлукціцца таннага піва, нават далёка не падобнага на сапраўднае, атруціцца ім, каб цалкам мазгі дагнілі, каб увогуле не разумець нічога, што навокал адбываецца… што адбываецца ў месцы, у якім ты круцісься, маесься, нібыта жывеш… І танчыць, як шалёны парсючок, пад фанэру Наташы Караблёвай!

Яны выправіліся ў бок прасьпекта Францыска Скарыны й скіраваліся спачатку ў пераход.

Гэня й Ян павольна крочылі каля старога падмурку, які захаваўся ад старажытнай царквы і быў закіданы рэшткамі

ежы, бутэлькамі, заляпаны ванітамі… Некалькі мужыкоў, седзячы на гэтых старажытных камянях, трымаючы на каленах баб, мацалі іхныя цыцкі пад саколкамі й рыгалі. Гэня адварочваў галаву ўбок, каб не бачыць гэтага вар'яцтва й выпадкова не атрымаць у вока за "хули ты на меня пялишься?!" Гэня быў на мяжы, агорафобія цяпер выглядала самым прыязным дыягназам на сьвеце.

Тут раптам грымнуў гром, пайшоў моцны дождж, залева. Ніхто не чакаў такога павароту падзеяў, бо нават Мэтэаралягічны Цэнтар Краіны прадказваў на ўвесь тыдзень сьпякоту без аблокаў. Людзі ўсхапіліся са сваіх месцаў і, як абвараныя, пачалі бегчы хто куды , баючыся замачыць свае трэніровачныя штаны, кароткія спадніцы й саколкі, пад якімі ў розныя бакі матляліся цыцкі ўжо бяз станікаў. Усе раўлі й насіліся, кожны сьпяшаўся пад які дах, брылёк, страху, абы толькі не замачыць сябе любімага… Са сцэны яшчэ даносіліся рэхам сьпевы Наташы Караблёвай, але неўзабаве змоўклі, бо хто ж будзе сьпяваць для пустэчы… У інтэрвію яна заўсёды казала, што сьпяваць будзе нават для аднаго чалавека, нават у дождж альбо сьнег. Не стрымаўшыся, сьпявачка Наташа кінула ў лужыну мікрафон і маланкаю панеслася ў свой зоркавы падарожны аўтобус.

Асноўная маса людзей, падхапіўшы Яна з Гэняй, панеслася ў бок доўгага падземнага перахода й адначасова ўваходу ў мэтро. Людзі беглі так хутка, у п'яным азарце штурхаючы адно аднаго у розныя бакі, быццам на іх галовы капаў не дождж, а полымя й попел… Сам Бог караў за свавольства, за распусту, за безкультурнасьць, за пякельныя любошчы, за алькаголь, за піўное сьвята ў Сьвяты дзень… Гэта было падобна да Апакаліпсісу, і шызафрэнічнаму Гэню нават ня трэба было нічога ўяўляць, ён з галавою акунуўся ў самы страшэнны жах сучаснасьці.

Людзі беглі звар’яцела, у іх вачах не было ані кроплі разуменьня таго, што яны робяць, несьліся да падземнага перахода. Хтосьці ўжо галасіў, хтосьці пішчаў, хтосьці вусьцішна гарлапаніў, наперадзе адбываліся нейкія падзеі… Вакол ніхто не мог прамовіць анічога разумнага альбо чалавечага на “чалавечай” мове, усе сварыліся, крычалі, а хтосьці ўголас моцна рагатаў і сьпяваў… Мужчыны й жанчыны ціснулі, давілі адно аднаго, падалі пад ногі, а тыя, хто яшчэ трымаўся, спатыкаліся аб галовы, грудзі, рукі, ногі ўпаўшых і таксама падалі… а людзі ўсё ішлі й ішлі… няспынна, бязглузда й атупела, абы схавацца ад дажджу… Людзі працягвалі ціснуць, ня ведаючы, што сваімі высілкамі, сваёю моцаю давяць тых, хто наперадзе, тых, хто ўжо спусьціўся на прыступкі альбо яшчэ ніжэй.

Гэня й Ян праходзілі празь пекла, іх целы былі прыціснуты да сьцяны, па якой яны, трымаючыся толькі яе, папаўзлі наперад, шукаючы якой западзіны альбо выратавальнага кутка… Людзі… маса людзей… Зь некаторых, самых аддаленых ад падземнага пераходу месцаў усё яшчэ было чуваць, як п’яныя сьпявалі ўрыўкі зь сёньняшняга канцэрта Хуяблёвай, Сальмадухі й гурта “Манга-танга”. Гэня не заўважаў, як, прасоўваючыся наперад, трымаючыся за Яна, крычыць, крычыць не сваім голасам.

*Зямля*

Гэня сёньня ізноў, як звычайна, быў у кепскім настроі, вечар яму не падабаўся. Ён толькі што разьвітаўся зь Вітаўтам і крочыў дадому, ён вырашыў выдаткаваць бліжэйшыя тры гадзіны на шпацыр, надвор’е было марознае, але файнае, сьнежань у гэтым годзе быў лагодны. Ён любіў гуляць а першай ночы, думкі гарманічна складваліся ў істотныя

разважаньні, і ён мог аб’ектыўна разглядаць розныя падзеі свайго жыцьця, бо апошнім часам ён пачаў заўважаць, што ператвараецца ў мізантропа, магчыма, уся справа ў тым, што яму проста не трапляліся файныя людзі, а толькі нейкія вычварэнцы, быццам яму настолькі няшчасьціла, альбо проста ўсе людзі збольшага злыя й пагардлівыя істоты, якім справа ёсць толькі да іхняга жыцьця, і яны нават гатовыя не сачыць за сваім зьнешнім і духоўным станам толькі таму, што свая кашуля бліжэй да цела…

Гэня паціху крочыў, і настрой ягоны паляпшаўся. Узгадваліся размовы зь Вітаўтам: той распачаў цэлы шэраг новых мастацкіх рэчаў кшталту пэрформансу, завязаная канцэпцыя была на полымі й на адраджэньні рэчаў пасьля вагню, гэта было нова, цікава й незвычайна, магчыма, у яго штосьці й атрымаецца, трэба пачакаць, час пакажа…

Паветра дыхала марозам, зь ягонага рота выходзіла пара, якая блішчэла ў сьвятле самотных ліхтароў… Ягоныя ногі крыху запляталіся, і цела час ад часу шпурляла ў левы бок, і ён амаль не высоўваўся на шашу, па якой зрэдзьчас праляталі таксоўкі з кліентамі й лічыльнікамі, настроенымі на начны тарыф… Цела Гэні павольна рухалася, й яму з кожным крокам станавілася ўсё гарачэй, паліто моцна грэла, і Гэня вырашыў зьняць напачатку пальчаткі й расшпіліцца. З-пад паліто адразу высунуўся доўгі тонкі зялёны шалік, а з кішэні выскачыў цыгарэтны пачак. Пад такі файны шпацыр і надвор’е прыемна папаліць, асабліва калі выжлукціў зь сябрам некалькі пляшак. З слухавак, якія боўталіся на грудзях, напаўвысунутыя з унутранай кішэні паліто, далікатна цягнуў Raz Ohara…

Гэня пстрыкнуў запальнічкай і зацягнуўся цыгарэтным дымам, падняў вочы ўгару й нечакана ўбачыў шчаціньне нейкага мужчыны, які раптоўна апынуўся перад ім ды шчэрыўся карычневымі зубамі…

– Цыгарэту дай, – прамовіў ён і пацягнуўся да Гэні, які, расчыніўшы пачак, каб зручней было выцягнуць цыгарэтку, крыху падняў руку ў бок мужчыны… Той толькі пасьміхнуўся й адабраў пачак, і паклаў яго ў кішэню сваёй спартовай чорнай курткі з доўгімі чырвона-зялёнымі палоскамі на рукавах…

“Відаць, дарагая фірмовая куртка”, – падумаў Гэня, але ўсхапіўся й крыкнуў мужчыну ў твар:

– Эй, ты чаго, гэта мае цыгарэты!..

– Пацішэ, – шэптам працадзіў скрозь зубы мужчына й пакрочыў наперад у сваім кірунку.

Але Гэня ня мог стрымацца, справакаваны алькаголем ды нахабствам мужчыны, і крыкнуў яму ў сьпіну:

– Быдла!!!

Мужчына спыніўся, разьвярнуўся ды з усёй моцы даў Гэні ў левае вока.

Другі раз мужчына наўмысна патрапіў туды ж, куды і першы, Гэня адчуў, як у левым воку ўсё выбухнула, і ён паваліўся на калені, апусьціўшы галаву долу, і адразу атрымаў з нагі ў самае пераносьсе, нос захрасьцеў ды ўдавіўся ўнутр… Гэня паваліўся на асфальт, зьнепрытомнеўшы, а мужчына, шчэрачыся, наддаваў яму па грудзёх і галаве нагамі, апранутымі ў цяжкія вайсковыя боты. Ён біў, а з роту выляталі дзіўныя гукі, нават ня словы, а нешта кшталту брэху… Мужчына соп і рохкаў, яму, відавочна, спадабалася бойка…

Калі ўсё нарэсьце скончылася, мужчына дастаў з кішэні фірмовай курткі пачак цыгарэт і кінуў яго на зьнерухомленага Гэню.

– Не патрэбныя мне твае цыгарэты, – сказаў гэта зь дзіўным адценьнем шчасьця й асалоды і зьнік уначы…

Гэня ачуняў праз колькі хвілін, адчуў, што левым вокам ня бачыць, памацаў нос, яго ня было на месцы, і да

ўсяго ад марозу ўнутры й звонку ўсё сьцягнула ільдом, і гэта выратоўвала ад крывяцёку… Ён паглядзеў уніз, увесь сьнег вакол быў барвовы, паўсюль крывавая юшка й паламаныя кавалкі акуляраў… З кішэні паліто, якое ўжо не нагадвала паліто й было месцамі парванае, усё яшчэ самотна й мэлядычна цягнуў Raz Ohara… У галаве Гэні ўсё круцілася й грымела, ён выпаўз на шашу, каб спыніць таксоўку да лякарні, але ніхто не спыняўся, а толькі наддаваў газу, і рухавік адчайна ўскрыкваў, і машыны праляталі міма… Ніхто з кіроўцаў не жадаў мець у сваім салёне зьбітага чалавека, які мог запэцкаць ягоныя новыя чахлы для крэслаў… і потым яшчэ ў міліцыі тлумачыць, што ён толькі падабраў чалавека на ходніку й нічога ня бачыў.

Гэня прастаяў з выцягнутаю рукой даволі доўга, перад ім праносіліся машыны, у якіх час ад часу хтосьці з пасажыраў альбо кіроўцаў пужаўся ягонай постаці ў цемры, хтосьці пасьміхаўся, маўляў, так табе і трэба, а хтосьці ўвогуле абыякава праяжджаў міма. І калі перад ягоным ацалелым вокам выскачыў мінівэн, спрэс запамапваны дзявочымі целамі з аднолькавымі доўгімі фрызурамі на пафарбаваных аднолькава – попельная бляндынка – валасах, Гэня ня вытрываў і пакрочыў, кульгаючы, да лякарні.

Увесь начны Менск падаваўся яшчэ больш вар'яцкім і варожым, вакол выпаўзалі нават ня людзі, а істоты без адметнасьцяў, без уласьцівасьцяў, бязь якасьцяў… істоты бяз душ… істоты, якія ня маюць анічога чалавечага і толькі зьнешне нагадваюць людзей… Гэтыя істоты ехалі ў таксоўках у бок начных клюбаў, дзе на мэце ў іх чапляць новых істот, каб абменьвацца вадкасьцямі целаў, церціся адно аб аднаго, ды й піхаць у свае дзіркі розныя чужародныя прадметы… Істоты без уласьцівасьцяў ехалі ў сваіх дарагіх аўто,

каб дзе-небудзь нажлукціцца й пабіцца, альбо патанчыць пад сьпевы хаця б той жа Н. К., альбо пад аднолькавыя чэргі гукаў модных дзі-джэяў, наядаючыся хімічных наркотыкаў новага пакаленьня, капаючы іх у вочы, засоўваючы пад вусны, альбо адразу ў сраку… Тыя істоты, якія яшчэ не пасьпелі назьбіраць грошай на машыну, ішлі пехатою і час ад часу зьбівалі кагосьці… Гэтыя цэлыя чэргі істотаў без адметнасьцяў і ўласьцівасьцяў стаялі адзін за адным у казіно й у бары, яны лыбіліся адно аднаму й спрабавалі спадабацца, пакуль Гэня дабіраўся да лякарні, якая знаходзілася за дваццаць восем дамоў ад яго… Ён крочыў і адчуваў, як цяжка дыхаць, рэбры страшэнна балелі, ад рухаў ізноў стала горача ў паліто й юшка ў носе растала й пачала цячы па твары, сьцякаючы на грудзі, пэцкаючы зялёны шалік і чорнае паліто.

У яго былі паламаныя тры рабры з правага боку, нос, мізэнец на левай руцэ, надбрыўная костка над правым вокам, і колькі крывападцёкаў былі раскіданыя па ўсім целе.

*Зямля*

Ішла трэцяя гадзіна, Гэня напаўляжаў у фатэлі й гуляў зь ё-ё. Гэта адзіная рэч, якая адцягвала яго ад змрочных думак.

Ішоў пяты тыдзень.

Гэня яшчэ ані разу ня выйшаў з кватэры і працягваў гуляць зь ё-ё ды зрэдзьчас наведваць свой кампутар, які самотна паглядаў на яго сваім вялікім і прадаўгаватым маніторам.

Вось ён спусьціў ногі на падлогу, пачакаў з хвіліну, потым узьняўся з фатэля, зрабіў некалькі крокаў, паглядзеў у вакно, якое за некалькі год ані не праціралася й пасьпела зрабіцца такім шэрым, што калі сонца трапляла ў пакой, хутчэй нагадвала промні праз смугу.

У дзьверы пазванілі, і Гэня выйшаў з аняменьня й выправіўся адчыняць.

На парозе стяла Інэса й трымала на руках маленькага шчанюка цвэргшнаўцара.

– Гэта табе! Падарунак! Будзеш яго выгульваць – і зьявіцца стымул зранку й увечары пакідаць кватэру! – прамовіла Інэса, усьміхаючыся, і ўвайшла. – Фу, ну ў цябе і сьмярдзіць тут усё! Так нельга жыць, Гэня!

– Я жыву так, як хачу, навошта мне сабака, ты ж ведаеш, што я ня той ахвотнік, каб гуляць раніцаю па вуліцах, прыпыняючыся пад кожным кустом…

– Гэта вельмі файны сабачка, дзяўчынка, табе спадабаецца! Ня будзь такім скрушным, старым бурчуном! Вунь паглядзі, у цябе нават твар нейкі азызлы й пахмурны, а яшчэ ты не галіўся!

– Адчапіся, калі ласка, лепш схадзі ў краму!

– І як, скажы ты мне, зарабляеш грошы?! – быццам ня чула Інэса…

– Як, як, праграмаваньнем! Ды яшчэ розныя падлеткі прыцягваюць мне свае кампутары, я іх рэмантую… Ты ж ведаеш, як я зарабляю, дык навошта пытаесься!? Што за зьневажальны тон?!

– Ай, ды ну цябе, Гэня, такі ты ўжо злосны! Трымай шчанюка і звары мне ў турцы кавы, а я чаго па тэлевізары пагляджу.

– Тэлек не працуе, я яго зламаў!

– Як ты яго зламаў?! – запыталася Інэса, але далей не дапытвалася, пабачыўшы, колькі бутэлек з-пад партвэйну ўнутры выпуклага кінэскопа. – Ты вар’ят, Гэня, але мне гэта даспадобы, – паспрабавала яна пажартаваць.

Гэня стаяў на кухні перад газавай пліткай і чакаў, каб з туркі не пабегла кава, як раптам пачуў , што Інэ-

са зьбіраецца ўключыць Інтэрнэт: хатні тэлефон пачаў патрэскваць, прапускаючы праз сябе падключэнне “ўорлд уайд уэб”, з калёнак данёсься мэталічны скрыгат…

Цвэргшнаўцэр, пяцьдзясят шостага дня ад нараджэньня, ціхенька паскульваў, азіраючыся па баках, углядаючыся ў новую прастору, якая неўзабаве мусіла апынуцца ягоным жытлом… Пазіраючы на шчанюка, Гэня забыўся на каву, і тая пабегла з туркі.

– Курва! – вылаяўся ён.

– Што ты кажаш?! – выкрыкнула Інэса з пакоя.

– Да нічога не кажу я! Інэса, ішла б ты адсюль, усё, кажу, ідзі! Мне тэрмінова спатрэбілася самота, дапівай каву, забірай сабаку і… Прабач, я не ў настроі!

– Дык ты кожны раз не ў настроі, як цябе хтосьці наведвае, вунь, нават на вуліцу не выходзіш! Толькі й робіш, што сядзіш перад сваім кампутарам! – пакрыўдзілася Інэса. – Ты так згубіш апошніх сяброў!

– Я існую й працую, як магу, а гэта ёсьць самае істотнае, бо мяне ніхто ні ў чым не папікне – я ніколі не памыляюся! Я існую ў сваім сьвеце! А ці існуеш ты ў сваім?! Вось у чым пытаньне! – нэрвова выгукнуў Гэня й самотна ўтаропіўся ў сьцяну з паліцамі стосаў кніг, яго рукі трэсьліся, кубак кавы калыхаўся, ледзь не праліваючы зьмесьціва. – І забяры шчанюка, я табе сур’ёзна кажу!

*Зямля*

Тэлефон званіў некалькі разоў, доўга, няспынна, была раніца, сонца грэла левы бок цела Гэні, промень гуляў на шчацэ, але ён не зьвяртаў на гэта ўвагі. Калі сьвятло кранала павекі, ён толькі шчыльней прымружываў вочы. Грукат

клявіятуры час ад часу адбіваўся рэхам ў калідоры, правая рука няспынна варушылася, ссоўваючы ў розныя бакі мышку, указальны палец клікаў , калі герою трэба было спыніцца, альбо нешта ўзяць, альбо папрацаваць на панэлі мэню. Кібер-герой Ален у гэты момант знаходзіўся ў сваёй кватэры й мусіў апрануцца, каб выправіцца на ранішні шпацыр з сабакам…

Клік – пацьвердзіць шпацыр, клік – абраць вопратку, клік – паклікаць сабаку…

Была раніца, але Гэня не зьвяртаў на гэтую акалічнасьць ніякай увагі, пад сталом сядзела Мілка, цвэркашнаўцэр колеру солі зь перцам, і, зрэдку пазіраючы на гаспадара, скуголіла, ёй было самотна й галодна.

“Так, а цяпер мы пойдзем у парк, там у гэты час мусіць быць Вілена й Гадар са сваімі сабакамі”, – прамовіў Гэня й клікнуў на выяву парка.

Тэлефон зноўку зазваніў.

“Госпадзі, ну хто прыдумаў гэтыя хатнія тэлефоны! Галоўны мінус новага хуткаснага Інтэрнэта – тое, што хатні тэлефон цяпер не заняты, і гэты паскудны апарат часта турбуе!” Гэня не вытрымаў і, пакінуўшы гульню, выправіўся на пошукі тэлефоннай слухаўкі, якая магла быць дзе заўгодна: альбо ў пакоях, альбо ў калідоры, альбо хрэн яго ведае дзе, магчыма, у прыбіральні ці лядоўні!

Тэлефон перастаў званіць, Гэня, раззлаваны, пачаў мацюкацца на чым сьвет стаіць і пакрочыў з суседняга пакоя да кампутара. Яго вочы былі чырвоныя, сам ён быў хвора схуднелы, а па брудным валасам магчыма было меркаваць пра тое, што ён не наведваў ванны пакой з месяц альбо два. Шкарпэткі ён таксама не мяняў, але Мілку гэта задавальняла, бо кіслы, воцатны пах цела гаспадара яе ўзбуджаў.

Як толькі Гэня наблізіўся да кампутара, хатні тэлефон зноўку зазваніў. Яго ажно пераштурхнула, і ён пачаў насіцца па кватэры, як вар’ят…

“Знайду! Паламаю!” – крычаў ён, паўтараючы гэтыя словы.

Некалькі разоў спатыкнуўшыся аб сьмецьце, якое было назапашана ажно ў пяці пакетах, нязграбна пакінутых на кухні, Гэня расьцягнуўся па падлозе, трапіўшы праваю рукою ў сабачую кансэрву, якой было амаль два тыдні й якая пасьпела сапсавацца й набыць пэўны выгляд і пах. Ён зноў вылаяўся, але ўжо цішэй, бо яго ўвагу адцягнуў званок, які прагучаў, падалося каля самых вушэй, павярнуўшы галаву ды адчыніўшы левай рукою духоўку, ён знайшоў слухаўку.

– СЛУХАЮ!!! – пракрычаў у слухаўку Гэня.

– Добры дзень. Гэта вас турбуюць з унівэрсытэта, з катэдры, мы вам паведамляем аб тым, што вы адлічаны за непасьпяховасць!

– Якая такая непасьпяховасць!? Я не зьяўляўся ў вашым гнілым будынку больш за паўгады! – пракрычаў Гэня й кінуў слухаўку ў чарупіну, да бруднага посуду, які пасьпеў зарасьці белаю й зялёнаю цьвільлю.

Ён устаў з падлогі, паглядзеў на Мілку. Тая прыбегла на грукат і сядзела каля дзьвярэй, матляючы сваім кароткім хвосьцікам.

– Мілка, Мілка, ну чаго ты не жарэш сваё паскудства, я ў яго рукою ўлез! – раззлаваўся гаспадар, але, паглядзеўшы ў сабачыя вочы, крыху суцішыўшы свой гнеў, прамовіў: – Ах, так, яно, відаць, зусім паскудства! Прабач, адрэжу табе якой кіўбасы.

Ён адчыніў лядоўню, але пабачыў толькі кавалак старой цытрыны й кубак з пракіслым малаком.

“Колькі ж гэта часу я завісаў у гульні?”

– Так, Мілка, пачакай яшчэ з гадзінку, будзе табе ежа, а пакуль я табе зьмяню пясок у туалеце…

Празь дзьве гадзіны ў дзверы пазваніў чалавек з дастаўкі й прынёс па інтэрнэт-замове тры торбы ежы.

– А яшчэ даўжэй ты ня мог?! – абурыўся гаспадар кватэры. – Я ўжо нават не спадзяваўся цябе пабачыць! І чаго ты вылупіўся на маю кватэру?!

– З вас пяцьсот тысяч, - прамовіў хлопец.

– Я ўжо плаціў вэбмані! – гаркнуў Гэня й грымнуў дзьвярыма.

Гэня накарміў сабаку і выправіўся да кампутара, у гульні ён ужо пасьпеў нагуляцца ў парку, завітаў у банк за грашыма, набыў новыя шпалеры ў віртуальную кватэру і ў дадзены момант імчаўся па вуліцах на машыне, гучна слухаючы музыку. Ён сёньня дамовіўся на віртуальнае спатканьне…

Быў ужо абед, ён вярнуўся ў гэты сьвет, уключыў сьвежазапампаваную сэрыю “Доктара Хаўза”, Х’ю Лоры толькі што зьбіраўся выпраўляць сваіх падначаленых зрабіць камусьці пункцыю. Гэня, лагодна разьлёгшыся ў фатэлі, зрабіў сабвуфэр грамчэй, каб быў сапраўдны гук вакол і, пасыпаючы дробкамі хлеба грудзі, пачаў паглынаць вялікі бутэрброд, запіваючы яго нефільтраваным півам...

Нечакана ў ніжнім правым куце манітора, засьвяцілася паведамленьне.

“Відаць, на скрыню прыйшла замова па працы”, – прамовіў ён і пацягнуўся да мышкі…

*Зямля*

Гэня навучыў Мілку не брахаць на гукі як зьверху, ад варушэньняў і сварак суседзяў, так і на гукі, якія адбываліся ў калідоры, на лесьвіцы й каля ліфта. Вучыў ён наступным чынам: першы раз, калі яна кінулася да ўваходных дзьвярэй з брэхам і рыкам, у яе бок паляцеў кубак з кавай і ў якіх трыццаці сантымэтрах па-над яе натапыранымі вушкамі раскалоўся, абдаўшы сабаку цёплымі рэшткамі кавы з цукрам. Мілка спужалася, але піснула й зарычэла, быццам на расколаты кубак і на гукі за дзьвярыма аднaчасова… Кава на ейнай галаве з-за цукра зьліплася, й яна пачала выглядаць досыць сьмешна з чубчыкам, які быў падобны да іракеза... Наступны дзень жыцьця ў кватэры апынуўся для Мілкі фатальным – калі яна толькі пабегла, выскачыўшы з-пад стала, зачапіўшы адзін з правадоў ад кампутара й выпадкова націснуўшы лапаю на падаўжальнік, яна адключыла Гэню ад віртульнага жыцьця, і ў ейны бок імгненна паляцела талерка з пастай па-італійску, замоўленая ў суседняй рэстарацыі, краем патрапіўшы акурат у левае вочка, засыпаўшы яе макаронамі ў таматах з кропам і пятрушкай.

– Ах ты сука! Выключыла мне кампутар, які быў на запампоўцы, вырубіла мяне з гульні, не дала паесьці! Ты нэрвуеш мяне, г*а*дзіна!” – Гэня роў, нібы вар’ят, ён ніяк не разумеў, навошта ў яго зьявіўся гэты сабака.

Мілка заскуголіла і, прыціскаючыся да падлогі, быццам шукаючы ў яе ратунку, набруліла пад уваходныя дзьверы і ад вусьцішы забілася ў прыадчынены ванны пакой, схаваўшыся ў брудным адзеньні, майтках і шкарпэтках…

Мілка ляжала пад рукамыйнікам, ціха скуголіла… Пасьля сёньняшняга дня яна ўжо ня будзе такой хуткай і вя-

сёлай, і Гэня не пачуе ад яе брэхаў, і ў іх нават складуцца пэўныя добрыя адносіны, таму што яна навучыцца больш не трапляць пад стол, дзе знаходзяцца гэтыя ненавісныя правады й падаўжальнік, і кіне дурныя набегі да ўваходных дзьвярэй.

Бліжэйшыя двое сутак яе гаспадар спачатку жлукціў зь сябрам, а потым, пасьля кароткага сну, сядзеў за кампутарам у віртуальнай гульні, час ад часу запампоўваючы серыі анімэ й хентай і трасучы праваю рукою нешта паміж нагамі.

Гэня успомніў пра сабаку, толькі калі скончылася ежа й ад мастурбацыі балелі чэлес і рука, і ён, замовіўшы на сайце сушы, чакаў, як раптам заўважыў пухнатага зьвярка колеру солі зь перцам, які не йшоў, але амаль поўз па падлозе ў ягоны бок.

– Ну хадзі сюды… – лагодна прамовіўшы, ён усьміхнуўся, левым краёчкам верхняй губы, і Мілка, пачуўшы добрыя ноткі ў голасе, замахаўшы хвастом, падбегла да гаспадара. – Ты ўжо прабач, я час ад часу нэрвуюся не па справах! Вось бачыш, мы з табою ўжо памірыліся, зараз паямо й можа памыемся, а то на цябе немагчыма глядзець, вунь, кава на галаве, на баках і на сьпіне макароны зь кетчупам! – прамаўляючы, Гэня ўзяў сабаку на рукі й аглядзеў ягоную поўсьць… Мілка толькі варушыла хвосьцікам і спрабавала лізнуць яму рукі, высалапіўшы доўгі язык. – А ну не варушыся! Што гэта ў цябе тут!? – захваляваўся Гэня, разглядаючы левае вока цвэргшнаўцэра, якое было амаль цалкам заплюшчана, а каля яго, на скроні, была засьмяглая кроў…

На кампутары засьвяцілася паведамленне ў Фэйсбуку ад Інэсы. Яна пыталася, як справы ў яго й ейнага падарунка. Інэса пра сабаку пыталася кожны дзень. Хвалявалася.

*Зямля*

– Ну што, падшыванец! Як ты тут маесься? Задаволены, што пагналі з унівэра?! – усьміхаўся Вітаўт, седзячы на канапе й гартаючы пыльны томік Луі-Фэрдынанда Сэліна “Сьмерць у крэдыт”. – Не разумею я цябе, мы з табою праз адну школу прайшлі, мы з табою з аднаго кола кніжных фанатаў, мы з табою раней былі аднолькавыя дурныя летуценьнікі! Я лічыў, што добра цябе ведаю, а тут: закрыты вобраз жыцьця, бруд у кватэры… Ты калі апошні раз сьмецьце выносіў? Пабіты тэлевізар ужо некалькі год у цябе стаіць з бутэлькамі з-пад партвэйна ўнутры… Сьмярдзіць ад цябе, ды й як можна не выводзіць на двор сабаку!?

– Слухай, ты прыйшоў гвалтаваць мне мозг альбо па справах?!

– Так проста завітаў, партвэйна прыцягнуў. Можа, ты нарэшце пакінеш сваю нару і наведаеш маю пэрсанальную выставу, адкрыцьцё будзе з вогненым пэрформансам…

– Якім пэрформансам?

– Ну памятаеш, я табе неяк распавядаў пра гэты пэрформанс.

– Калі будзе адкрыцьцё?

– Праз два месяцы, загадзя папярэджваю, бо ведаю цябе!

– Ня ведаю, магчыма.

– Чаго ты ня ведаеш? Таго, што ты будзеш таксама знаходзіцца ў гэтай кватэры й драчыць на анімэ, якое кожны дзень запампоўваеш?!

– Слухай, я не мастурбірую на анімэ!

– Вядома, ты проста так глядзіш яго! А астатнія гэтыя японскія мульцікі, як іх там?.. Хентай гэты! А манга вазьмі, гэта ж для падлеткаў!

– Няпраўда, проста я манга отаку! Калі ня ведаеш, што гэта, калі ласка, гуглі!

– Ведаю, не хвалюйся!

– Я наконт таго, што гэта сьмешна – сядзець тут, у кватэры, і нікуды не выходзіць, ты ўжо дарослы, разумееш, не дзіцё якое…

– Я тут працую, жыву й мне больш анічога ня трэба! Разумееш? Нічога!

– Так, дабраслаўляй сваё жыцьцё і свой кампутар!

– Вітаўт, калі ласка, хопіць, давай лепш даставай са свайго заплечніка пляшку, вып’ем, пагутарым. Я ўжо стаміўся ад тваіх павучэньняў на тэму “Як мне жыць”! – Гэня ведаў, на чым спыніць непрыемную размову са старым сябрам, бо падчас таго, калі яны жлукцяць, іх гутарка пераходзіць да больш цікавых рэчаў: мастацтва, літаратуры, гісторыі й плётак.

– Слухай, памятаеш Леру, якая з намі вучылася ў старэйшых клясах? – запытаўся Вітаўт, адкаркоўваючы партвэйн.

– Так, як я магу запамятаваць яе цыцкі, я яшчэ хацеў зь ёю сустракацца ў дзясятай клясе.

– Ага, так… сустракацца… проста ў стрынгі да яе лез!

– Давай карацей!

– Так, карацей… чатыры гады таму яна пабралася шлюбам зь іранцам, ты гэта ведаеш, я табе распавядаў, пра гэта мне казалі нашыя аднаклясьніцы на сустрэчы ў бары.

– Ведаю-ведаю, - Гэня не трываў, калі Вітаўт шматсловіў і ніяк не пераходзіў да самага галоўнага.

– Яе, карацей, судзілі за здраду й прысуд вынесьлі – сьмяротнае пакараньне праз публічнае забойства камянямі… альбо ў скрайнім выпадку адрэжуць ёй нос і вушы і кудысьці, у якую пустэльню, адвязуць і пакінуць паміраць! Пакуль цалкам невядома, але верагодныя толькі гэтыя

два варыянты. Я заўсёды ведаў, што яна вар’ятка са сваёю любоўю да Бліжняга Ўсходу, але каб такое здарылася, трэба цалкам зьехаць з глузду: пацягнуцца за нейкім мусульманінам, прычым радыкальным, у нейкую дупу на Зямлі, быць восьмай жонкай і да ўсяго быць забітай альбо пакалечанай…

– Жах які, яна што, зьехала да мужа ў Іран?! Во дурніца бязмозглая! А ты ў мяне яшчэ пытаесься, чаму гэта я не выходжу з кватэры! Навошта?! Сьвет і так даўно мяне расчараваў, я баюся, каб ён мяне не расчараваў ушчэнт!

– Я разумею цябе, але ж мы не ў Іране!

– Так! Мы ў Беларусі, але што гэта мяняе? Імёны толькі! Ты ведаеш.

– Ведаю… але хопіць з гэтымі жахамі, давай уключай музыку, а то сумна сядзець з табою й з запыленай кнігаю Сэліна. Дарэчы, а дзе Мілка? Інэса прасіла яе пабачыць і ўпэўніцца, што з сабакам усё добра.

– Што табе ўключыць, ты ж ведаеш, у мяне вялікая калекцыя музыкі, хочаш Pulp альбо на сёньня можна пад настрой Faith No More, – прамаўляў Гэня, утаропіўшыся ў манітор, шукаючы ў сваіх шматлікіх тэчках на кампутары патрэбныя, – Мілка недзе ў кватэры, вядома…

*Зямля*

Звычайны шматпавярховік. Пад’езд. На сьценах абадраная зялёная фарба, ёсьць магчымасьць бачыць былыя колеры лесьвічных пралётаў – карычневы, як стары чакаляд, барвовы, як высахлая кроў, гарчычны, нібыта пясок з узьбярэжжа. Паверх усёй гэтай каляровай разнастайнасьці, сьцены спрэс сьпісаны мацюкамі й пахабнымі вершыкамі, што адлюстроўвае адукаванасьць юнакоў і дзяўчат, якія

надрапалі гэта. Парэнчы запляваныя, а іх плястмасавыя часткі абпаленыя запальнічкамі й зашмальцаваныя шнарамі недапалкаў. Лесьвіца ў жуйках, прыступкі сям-там абляпаныя фарбаю са сьценаў, калі валік рухаўся абыякава ў слабых руках працаўніка ЖЭСа… Штосьці падобнае да высахлай крыві кроплямі чырванее сям-там… Дзесьці бачныя лужыны нейкага тлушчу й алею. Усё побытава. Людзі, як звычайна, пакідаюць пра сябе ўспамін.

Уваходныя дзьверы, абабітыя танным гукаізалюючым дзерманцінам, які споўз амаль у самы ніз, адчыняюцца, з кватэры нумар 189 высоўваецца спачатку адзін пакет са сьмецьцем, потым другі, трэці, чацьвёрты, пяты й за ім шосты, апошняй вылятае маленечкая торбачка, зьвязаная ў вузел уверсе, каб пясок і газэты, абасцаныя й засраныя Мілкай, не атручвалі прастору смуродам. Сабака недзе з пакояў піскнула, але хутка апамятавалася й схавалася пад фатэлем. Гэня зрабіў асьцярожны крок, аўтаматычна на ягоны рух запалілася сьвятло ў перадпакоі, дзе, акрамя ягонай кватэры, існавалі яшчэ тры: у 190-ай жылі старыя пэнсіянэры, якія вечарамі пабіраліся па вуліцах, а ўдзень перасоўваліся па пакоях, пукалі, кашлялі, бяззуба чмякалі на кухні, рэхам сваіх сківіц турбуючы паветра, было чуваць, як яны храпуць, уключаюць гучна тэлевізар, слухаючы чарговы агляд надзвычайных здарэньняў і прамоў з паседжаняў “парлямэнта”, ад іх кватэры моцна сьмярдзіць застарэласьцю, квашанай капустай і бруднымі грыбковымі шкарпэткамі; у 191-ай кватэры жыве маладая сям’я, якую на дзіва амаль не чуваць, бо яны абодва кругласутачна працуюць, вечарамі й начамі бадзяюцца па кнайпах і пабах; у апошняй, 192-ой, жыве вялікая сям’я, якая складаецца з маці, тоўстай жанчыны, бацькі – тоўстага прадпрымальніка (гэта менавіта яму належыць ідэя правесьці аўтаматычны

выключальнік, які запальвае сьвятло на рух, гэты мужчына нават не падумаў пра тое, што трэба спачатку прыбраць вакол на лесьвічнай пляцоўцы, хаця б падмесьці падлогу, а потым ужо ўкараняць лямпавы хайтэк), і зь імі жывуць трое тоўстых дзяцей, ад якіх толькі й чуваць: “Я хачу новы айфон… я хачу новы кампутар… я хачу новую адзежу, каб нашыя тоўстыя дупкі выглядалі прывабней і падаваліся не такімі вялікімі”. Гэня іх усіх, суседзяў, аднолькава не трывае, але спрабуе не зьвяртаць увагі на іх жыцьцё, з гукамі якога ён ужо настолькі звыкся, што перастаў іх заўважаць за танюткімі сьценкамі панэльнага дома.

Асьцярожна адчыніліся дзьверы на лесьвічны пралёт з перадпакоя, аўтаматычнае сьвятло згасла, Гэня зноў паварушыўся, сьвятло ізноў уключылася, і пачаў выносіць па чарзе ўсе свае пакеты са сьмецьцем, ліфт загудзеў, падымаючы кабіну ўверх, гэта было бачна з бакоў, праз абараняльную сетку каля парэнчаў.

Крок, другі… далей ногі ня рухаюцца, ён адчувае, што даўно не выходзіў вонкі, страўнік пачынае сутаргава скручвацца… наперадзе сем пакетаў са сьмецьцем, а ён яшчэ першы нават не пачаў выносціь… Трэба спусьціцца на палову лесьвічнага пралёту ўніз, там з левага боку, каля ліфта, калі прайсьці амаль прыціскаючыся да абараняльнай ад кабіны сэткі, будзе невялікая сьмецьцевая тэчка, якую трэба будзе высунуць на сябе, пакласьці пакет і засунуць зваротна, пусьціўшы сьмецьце ўніз па сьмецьцеправоду… Колькі крокаў! Колькі рухаў, гэта неверагодна, немагчыма, гэта вар’яцтва! І так трэба паўтарыць сем разоў, сем сакральных разоў.

Гэня азіраецца па баках, ён бачыць аблупленую фарбу на сьценах, запэцканыя парэнчы, на лесьвіцы бач-

на, як хтосьці нядаўна тут паліў і харкаў саплямі, і ўсё гэта багацьце з носу й роту расьцякалася невялікім ручаём з адной прыступкі да другой, падарожнічаючы ўніз. Недапалак ужо згас, але пах таннага тытуню яшчэ лунаў у паветры…

Гэня бачыць, як гэтая сьліна з саплямі усё больш разьліваецца па прыступках, вось яна ўжо ахоплівае амаль увесь лесьвічны пралёт, смурод ад ліфта й сьмецьцеправода апынаецца невыносным… На сьценах, дзе фарба яшчэ больш-менш ацалела, накрэмзаныя словы пачынаюць скакаць і складацца ў словазлучэньні й сказы: эбисьрогомарьяиваннакурванедоделанаяблятьпизданаёбанаяхуйитварьгнилаяяпорвутвоюжопусегоднявечеромrockапотоммынаfuckтолкаемтебевротневростеничкасосательнаяшлюхатварьговноанархияпанкинерunkумираютаюрасосетзаденьгі…

Гэні цяжка нават уявіць, якім чынам трэба адолець столькі цяжкасьцяў толькі дзеля таго, каб вынесьці сьмецьце. Страўнік не вытрымлівае й пачынае ціснуць, у Гэні кружыцца галава, рукі й ногі здраджваюць і пачынаюць трэсьціся, ён разумее, што выправіцца ў такое вусьцішнае падарожжа, пакінуўшы ўтульную кватэру, было памылкай.

Раптам дзьверы ліфта адыняюцца, й на яго ўтаропліваюцца дзьве пары вачэй, яны пільна ўглядаюцца ў ягоную постаць, расчыняюць вусны, і з-пад іх пачынаюць выкатвацца доўгія патроеныя языкі… і цягнуцца яны да яго… гэтыя дзьве жанчыны… амаль цалкам голыя, абдымаюцца й ціснуць адна адной на грудзі, са смочкаў цячэ карычневая вадкасьць, і цячэ яна ўніз іхніх жыватоў, разьліваючыся па сьцёгнах… раптам адна зь іх кідаецца на Гэню, але той пасьпявае яе адштурхнуць, і тая падае ў сьліну, якая так расьцяклася, што была ўжо падобнай на мора ўнутры… гэтая жанчына моцна б’ецца сьпінаю аб прыступкі, але нават не

паказвае, што ёй было балюча, яна становіцца па-сабачы, голаю дупаю да твара Гэні й пачынае хлябтаць сьліну з саплямі, як сабака, жуючы недапалкі… а другая, застаўшыся ў ліфце, пасылае яму паветраныя пацалункі, потым націскае на кнопку й дзьверы зачыняюцца…

Гэня не мог вытрымаць такога бачаньня й такога моцнага прыступу, і ён закрычаў… Ногі не вытрывалі й ён паваліўся на бэтонную падлогу. Да таго як страціць прытомнасьць, ён адчуў, як набруліў у майткі.

Ачуняў ён толькі праз гадзіну. Перад ягонымі вачыма першаю выяваў паўсталі ногі-калёны тоўстай суседкі з клункамі з гіпэрмаркета й такія ж тоўстыя ногі суседа, які таксама трымаў клункі з гіпэрмаркета.

*Зямля*

Душная раніца, прасьціна зьбілася ў нагах, швы ад навалачкі адбіліся на левым баку твара, коўдра грэе, быццам цела знаходзіцца ў духоўцы, вакно зачынена, нават фортка шчыльна прыціснута да фрамугі, бо як можна адчыняць фортку, калі з вуліцы даносіцца столькі гукаў, крыкаў і стогнаў, рухавікі аўтамабіляў няспынна праносяцца побач, палохаючы ня толькі сон, але й душэўны стан. Гэня звычайна рана прачынаецца з-за сьпякоты, калі ўсё цела, быццам аблітае з душа, цячэ потам, які ўсмоктваюць коўдра й матрац. Сьвет ня робіцца бліжэйшым альбо лагоднейшым, сьвет, хутчэй, палохае сваёю безвыходнасьцю, скрушнасьцю... і лепш прачынацца змакрэлым у задушлівым пакоі замест хаця б мінімальнага кантактаваньня з чалавецтвам, няхай нават праз сымбалічна расчыненую фортку.

Гэня прачнуўся, скінуў зь сябе змакрэлую коўдру, закінуў у супрацьлеглы кут пухоўку. Вачыма знайшоў сваю ўлюбёную кропку на столі, якая была падобнай да тоўстай мухі, крыху паўзіраўся, пачэсваючы правай рукою чэлес, які быў крыху эрэгіраваны пасьля начнога сэксу й жаданьня пассаць. Раз на тыдзень, калі ў яго цалкам зьнікала жаданьне мастурбіраваць на анімэ й запампоўваць порна, а таксама калі на душы было настолькі самотна, што нават праца, ежа, гульні й кнігі не адцягвалі ад гэтае праблемы, Гэня тэлефанаваў сваёй звычайнай дзеўцы Сьвеце, якая яго наведвала з нуль-нуль ночы й да чатырох па тарыфе, як для старых кліентаў.

Гэня нарэшце ўзьняўся зь ложка, наведаў прыбіральню, завітаў на кухню, зазірнуў у лядоўню, сербануў са збанка кефіру, адзначыў, што зь ежы амаль нічога няма, ляснуў дзьвярыма лядоўні й выправіўся назад у ложак. Ён ішоў, не сьпяшаючыся, бо яму нікуды асабліва ня трэба было, жыцьцё перайшло ў фазу статыкі, сымбіёзу паразытаваньня ў зачыненай прасторы. Ён на імгненьне спыніўся каля люстэрка, якое было ўмантавана ў шафу-купэ ў калідоры. Зь люстэрка на яго глядзеў аброслы дзівак, тоўсты, зь вісячымі грудзямі, быццам у старой жанчыны, якая ўзгадавала пятнаццаць дзяцей, з надзьмутым пузам, тонкімі рукамі й цэлюлітнымі сьцёгнамі, а паміж ног – ледзь праглядае самотны чэлес, аброслы кучаравым валосьсем.

Ён даплёўся да ложка й заплюшчыў вочы, жыцьцё падавалася ненатуральным, быццам ён гэта ня ён, а проста нейкі безыменны герой, пра якога ён чытае кнігу, гартаючы яе ў пустой кавярні недзе на ўскрайку сьвету альбо на другім паверсе ў кавярні “Starbacks” на Ню-Оксфард стрыт у Лёндане, а можа быць у Ісьляндыі.

Але ўсё гэта ня так істотна, ён ужо заснуў, і бачылася яму, як ён набыў кавы і, утульна ўладкаваўшыся ў карычневым фатэлі, сёрбаў яе, паглядаючы на Сьвету, якая павольна распраналася, седзячы перад ім на стале зь зялёнай круглай эмблемай. Дзень толькі пачынаўся, за вакном сьвяціла сонейка, у двары брахалі сабакі, маладыя мамы вывозілі на вуліцы каляскі зь немаўлятамі, дзеці беглі, хто ў школу, а хто са школы, машыны клаксонілі, кіроўцы сварыліся, кожны ў гэтым сьвеце за штосьці змагаўся: за паркоўку, за пясочніцу, за недапалак, за месца пад сонцам… Гэні не было ніякай справы да гэтага, бо ён дастаткова ў сваім жыцьці пабачыў жахаў і вычварэнцаў, каб зрабіць выснову ніколі больш не камунікаваць з гэтым сьветам, ну альбо амаль не камунікаваць.

На дыване з узорамі, якія нагадвалі, што калісьці існаваў камуністычны лад жыцьця й выраб савецкіх дываноў, адпачывала Мілка, яна таксама спала на сьпіне, як і яе гаспадар, раставіўшы ў розныя бакі лапы, высалапіўшы ад сьпякоты язык; яна нават ня ведала пра існаваньне іншага сьвету й жыцьця, акрамя як у кватэры нумар 189.

У сьненьні, як і некалькі гадзін таму ў рэальнасьці, Сьвета была ўжо амаль бяз вопраткі, Гэня трымаў кубак кавы ў руках і ніяк ня мог вырашыць, дзе б яго пакінуць, каб заняцца жанчынаю, сон набываў рысы безвыходнасьці. Мілка дрыгнула лапамі, быццам кудысьці скокнула, магчыма ў ейным сьне яна была недзе далёка, у футурыстычнай прасторы, дзе ёсьць трава, дрэвы й сьвежае паветра.

*Зямля*

Профіль у “My Life” Ален набыў новы дом, трохпавярховы, у цэнтры, ён меў на рахунку каля 50000 вэб-даляраў і ў яго была дзяўчына – Хлоя, сапраўдная ўладарка профіля,

дзяўчынка з горада Кавасакі ў прэфэктуры Канагава, рэгіёне Канто, яна ўжо пяты год хікікаморы, так бы мовіць дзяўчо са стажам.

Кібер-прастора надавала Алену жыцьцёвага вопыту й фарбавала ягоны сумны побыт... Ён навучыўся кіраваць самалётам і нават меў дыплём і быў залічаны ў суполку аматараў палётаў... Цяпер ён вучыўся скокаць з парашутам і мог ганарыцца тым, што ўжо год як працаваў кухарам у рэстарацыі на рагу гандлёвага цэнтра на галоўным прасьпекце.

Рэаліці-гульня ўжо шмат месяцаў была галоўнай жыцьцёвай мэтай Гэні, бо там ня трэба было адчуваць чалавечыя смуродныя пахі, выпраўляць нейкія адносіны, чуць у свой бок лаянку, крытыку, хвалявацца, што нешта не атрымаецца, што цябе могуць не ўспрыняць сур’ёзна альбо абразіць, у гэтым неіснуючым, альбо, так бы мовіць, трэцім сьвеце, сьвеце, які, як старая навуковая фантастыка, раптам увасобіўся тут і цяпер, і усё было файна, бо не існавала асноўнай праблемы, якая выклікала катастрофы. У сьвеце не было чалавека як матэрыяльнай эманацыі, у трохмернай прасторы была толькі Ідэя Чалавека, слабы намёк на яго, але юзэры стваралі профілі іншых істот, яны будавалі сьвет, які на іх погляд быў ідэальным, сьвет, у якім кожны раз, калі табе рабілася вусьцішна, самотна альбо стваралася пагроза сваркі, крытыкі з боку іншага юзэра, ты меў права на асабісты кароткатэрміновы суіцыд – выключэньне кампутара, выхад з гульні на пэўны тэрмін. Вядома, калі профіль пакідаў раптоўна гульню, ня зьдзейсьніўшы патрабаванае па правілах, ён губляў пэўныя прыярытэты й залікі на сваю карысьць, але, зь іншага боку, гэта было больш гуманна ў параўнаньні з рэальнасьцю.

Аднойчы, яшчэ ў тыя часы, калі Гэня зрэдку, але высоўваў нос вонкі да крамы альбо да кнайпы, набыў па

парадзе гандляра кружэлку з гульнёй і інсталяваў яе. І тады з кожным днём ён пачаў больш і больш бавіць часу ў электроннай прасторы, дзе зьявіліся новыя сябры.

Ён існаваў у сваёй сапраўднай прасторы для жыцьця, каханьня й сэксу он-лайн, калі праз вэб-камэру такія ж, як і ён, самотныя пустэльнікі, згортвалі асноўную старонку гульні й мастурбіравалі разам зь ім… У такія моманты юзэры былі больш чым проста гульцамі, яны былі каханкамі, нэрвова цярэбячы на камэру адно перад адным свае похвы й чэлесы… а маленькае вочка вэб-камэры было безымацыйна нерухомым, але пільным.

Цяпер у “My Life” ён далёка прасунуўся, у яго ўжо была магчымасьць ладзіць рамонт у новым доме, наймаць на працу рамонтнікаў і амаль суткамі сачыць за працаю, каб не пераплочваць ані цэнта за лішнюю гадзіну.

Спачатку Гэню гульні такога кшталту падаваліся дзівацтвам, ледзь не вар’яцтвам, ён меў шмат іншых забаўлялак, напрыклад свае старонкі ў сацыяльных сетках і нават тры блёгі, ён часта камунікаваў зь сябрамі па розуме, нават гуляў у ваенныя стратэгіі анлайн і завітваў на старонкі для манга отаку; ён спрабаваў знайсьці альбо, на скрайні выпадак, выпеставаць свой сьвет, свой расклад жыцьця без жывых істот, безь людзей, якія б маглі яго крытыкаваць. Яму ўсё было абыякава, ён ня бачыў ніякага выйсьця са свайго абсурднага існаваньня. І ён зайшоў настолькі далёка, наколькі гэта ўваогуле было магчыма для замкнёнага вар’яцтва: перайсьці ад чалавека ў футарале да чалавека-сацыяфоба.

Яму гэта падабалася, ён і так ня меў адвагі ў справах зь людзьмі, але на першых этапах жыцьця яго падтрымлівалі сябры, якія амаль ва ўсім падзялялі ягоныя думкі й мізантрапічнасьць і нават ухвалялі ягоныя дзеяньні, але

недзе далёка ў глыбіні сэрца яны не чакалі ад яго таго, што ён спраўдзіць сваю мару да канца, замкнецца ў гэтай сьпякотнай панэльнай каробцы, закіданай сьмецьцем, брудам ды іржавымі шпалерамі.

Але Гэню цяпер ня трэба было сутыкацца з пэўнымі цяжкасьцямі на працы з-за супрацоўнікаў альбо выслухваць іхную крытыку ў ягоны бок, яму ня трэба было бачыць тупых аднагрупнікаў і такіх жа ёлупняў-выкладчыкаў, якія часта абураліся на яго ні за што. Ён больш не хваляваўся й не імкнуўся спадабацца, яго больш ня трэсла ад знаходжаньня ў людным месцы, ён больш ня бачыў ніякіх жывёл, прасталытак, быдла. Сьвет звузіўся й пафарбаваўся ў намаляваныя анімэ, мангу, сьвет апынуўся ў фармаце 3D, дзе Гэня нарэшце быў пасьпяховы й шчасьлівы. Нават камунікацыя па справах звузілася да паведамленьняў на скрыню й кансультацый анлайн, сябры ўсё радзей наведвалі яго, і самымі бліжэйшымі й частымі гасьцямі ў яго апынуліся толькі кур’еры з дастаўкі ежы з суседняй крамы, зь мясцовай піцэрыі й сушы-бара… І Сьвета не забывалася на яго.

Час ад часу ён распачынаў гутаркі зь Мілкай, якая цяпер ведала амаль усё ягонае жыцьцё, але слухала ня надта ўважліва, бо Гэня забыўся на большую частку словаў і часта замест таго, каб спакойна размаўляць, пачаў сачыць за тым, што прамаўляе, з такой пільнасьцю, быццам за граматычную альбо лінгвістычную памылку сабака мог яго зьесьці. Гэня паступова пачаў забывацца на тое, як правільна вымаўляць словы.

*Зямля*

Тры дні таму Сьвета ізноў наведвала Гэню, але ў яго нічога не атрымалася, ён, як толькі адчуў яе дотыкі да ягонай скуры, спужаўся невядома праз што, праз дотыкі

ці пацалункі, але яму ўсе ейныя крананьні падаліся непрыемнымі й халоднымі і ён, прабачыўшыся, зьнік у прыбіральні й не выходзіў адтуль, пакуль не пачуў грукат уваходных дзьвярэй.

Гэня ціха перасунуўся з туалета ў ванны пакой і доўга стаяў там, пільна ўглядаючыся ў свае зрэнкі, потым расчэсваючы бараду, зь якой сыпалася аблупленая скура, пэрхаць, высахлая ежа й кузуркі… Потым ён блукаў па кватэры ў пошуках мабілкі, потым проста блукаў па кватэры бяз мэты… Ён доўга выношваў адзін плян… і нарэшце наважыўся замовіць ГЭТА. Ён вельмі хваляваўся, шмат разоў разважаў наконт вартасьці і посьпеху свайго пляну. І вось час прыйшоў. Гэня патэлефанаваў, куды трэба было, і чакаў ня так ужо й доўга, усяго нейкіх трыццаць восем гадзін!

У дзьверы пазванілі, ён не адразу гэта заўважыў… Потым, пакінуўшы кампутарны стол, паварушыў зацёклымі пальцамі, якія шмат гадзін сьціскалі мышку, і выправіўся да дзьвярэй, хруснуўшы храсткамі ў каленях.

– Добры дзень, дастаўка, – прамовіў у адчыненыя дзьверы на лесьвічным пралёце юнак у чырвонай саколцы й кепцы, - як замаўлялі: восем пакетаў па дзесяць кілягарм чарназёму з сэлітрай і дваццаць пакункаў з рознымі расьлінамі! Гэта наша лепшая замова! Вельмі буйная, прынамсі, – з гонарам дадаў юнак. – Не зачыняйце дзьверы, зараз вам на ліфце ўсё гэта прывязуць.

*Зямля*

З маленькага пакою, у якім раней Гэня жыў, была вынесена ўся мэбля, ён склаў яе ў разабраным выглядзе ў куце, а штосьці вынес у перадпакой, такім чынам пазбавіўшыся

невялікай шафы, паліцы для кніг і стала для часопісаў. Пакой апынуўся вольным ад усяго, нават фіранкі былі зьнятыя й кінутыя ў сьметніцу… Добра, што сам пакой быў амаль увесь дзень на сонечным баку… Гэня правёў яшчэ больш электрычнасьці, навесіўшы на падаўжальніках некалькі настольных сьвяцільнікаў… Уся падлога была засьцелена плёнкаю для шклярніцы, а зьверху быў пакладзены чарназём, зь якога ўжо імкнуліся ўверх зялёныя парасткі: сьвятлолюбівага мэзафіта хенамэлеса маўлея, які ў будучыні мусіў набрыняць жоўтымі пладамі, падобнымі да яблыкаў, таксама па кутах зьзялі зялёным, барвовым і жоўтым пячоначныя імхі, хмызьнякі брукэнталій выпаўзалі з пакою й цягнуліся ў бок кухні, чарназём быў пактрыты коўдрою паспалюма, па-нашаму грэчкі, якая сьцялілася мяккім дываном й была гатовая амаль круглы год прымаць на сябе зьмарнелае цела Гэні, які клаўся долу ў моманты стомы й атрымліваў супакой і асалоду ад такога масажу травою, і толькі ногі нязьменна шукалі супакою недзе ў глыбіні глебы, быццам карані, сьплятаючыся там з карэньнямі расьлін, адчуваючы, як між пальцаў сноўдаюць чарвякі й вусені. Таксама ў пакоі разьмясьціўся самотным дрэўцам гінкга білоба, які шапацеў пялёсткамі ў адкрытую фортку… Празь некалькі месяцаў уся кватэра ператварылся ў штосьці кшталту батанічнага саду, паўсюль расьлі: індзігафэра – лістападны куст, які пачынае квітнець напрыканцы лета й ня вяне амаль усю восень; цынадон – шматгадовая расьліна з доўгімі паўзучымі падземнымі пабегамі й таксама доўгімі, якія сцелюцца і ўкараняюцца ў вузлах, надземнымі пабегамі, гэтая расьліна квітнее ўлетку-ўвосень; ды зойсія, якая звычайна расьце на марскіх берагах у трапічнай і субтрапічнай зонах Усходняй Азіі й мае шмат лісьця зь вельмі вузкімі, уздоўж складзенымі пласьцінкамі – выдатная газонная расьліна;

а па кутах – брукэнталія – вечназялёны кампактны хмызьняк… І яшчэ шмат іншых расьлін, назвы якіх пазьней нават Гэня запамятаваў, панадаваўшы ім свае асабістыя вольныя мянушкі.

У пакоі было вільготна й цёпла, сонечна й утульна, Гэні падабалася там бавіць час, назіраючы за ростам зяляніны, а Мілка была спачатку шакаваная, але потым прывыкла да зямлі й час ад часу пачала капаць неглыбокія ямкі ды пакідаць там альбо свой кал, альбо якую костку, усё адно ў глебу было прыемней гэта рабіць, чым у штучны пясок для котак, які раз на месяц дастаўлялі ў дванаццацікіляграмовым пакеце.

Пакой добра распаўсюджваў вільгаць і сьвежае паветра, і Гэня ужо заставаўся там начаваць, а потым проста перанёс туды кампутар й пасяліўся цалкам. Ягонае жыцьцё звузілася да памеру пакоя й кухні, ён нават не выходзіў у прыбіральню, бо ў асноўным не было чым хадзіць – ён раптоўна пачаў худнець, амаль ня еў… У пакоі завяліся розныя істоты, пачалі ціўкаць птушкі, Гэня перанёс у гэты пакой сваё кібэр-асяродзьдзе… Ён палюбіў ступакамі адчуваць халодную вільгаць зямлі, ягоныя фантазіі й жыцьцё падарожнічалі, зьяднаныя адной думкай і зьвязаныя адным мастом, які аб’ядноўваў сьвет расьлін і зямлі. Гэня больш не ўжываў ежы, атрымліваючы ўсё патрэбнае з глебы, якая яго карміла, дастаўлячы праз скуру патрэбныя мінэралы… Скура згубіла свой бляск і была зьмярцьвела-шэраю.

З садавіннага стану яго, зьнерухомленнага, двое сутак выводзіла Інэса, якая доўга грукалася да яго ў “аську”, бо ўсе спробы знайсьці яго па-іншаму былі марнымі й беспасьпяховымі: тэлефон ужо некалькі год як быў забляка-

ваны, усе тэлефоны былі заблякаванымі, адзінае, што ў яго існавала – электрычнасьць і Інтэрнэт.

“Гэня, ты як там!? Чаму не адказваеш на лісты!? Жывы ты там?! Я цябе ня бачыла ўжо год! Адгукніся, маць тваю! Вітаўт учора памёр!”

Гэня спачатку не заўважыў паведамленьня, але ягоныя вочы натыкнуліся на апошні сказ, і мозг шпарка заварушыўся, успамінаючы сяброў: Інэса, Вітаўт... Ён раптам апрытомнеў і агледзеўся вакол, пачасаў патыліцу й намацаў пальцамі на ілбе нейкі прышч пад густым слоем сэбарэі, але гэта была почка дрэва.

“Я спадзяюся, ты мяне чытаеш!!! Бо куды ты падзенесься, камп’ютарны маньяк!!! Я хачу цябе заўтра бачыць!!! Каб зьявіўся хаця б на пахаваньне!!! Ідыёт!!!” – лямантавала “аська”.

*Зямля*

Гэня вырашыў абавязкова патрапіць на пахаваньне Вітаўта, нягледзячы ні на што. Але адна справа – вырашыць, іншая – зрабіць гэта... Ён не выходзіў вонкі больш як за два з паловаю гады... Але сёньняшні дзень не абы-які, гэта самая вялікая для яго трагедыя. Хоць яны ня бачыліся вельмі й вельмі даўно, Вітаўт быў ягоным сябрам, ягоным духоўным, стыхійным братам.

Гэня паспрабаваў апрануць штосьці прыстойнае на пахаваньне, але аніводная вопратка не падышла, бо ён нават ня памятае калі апошні раз набываў што апрануць. Ён схуднеў, і цела ягонае стала непаваротлівым, ногі настолькі брыдкімі, зашмальцаванымі чарназёмам і пылам, што іх бы давялося спэцыяльна распарваць у гарачай ваньне... Барада й валасы дарасьслі амаль да грудзей... Пазногці адрасьлі й паадламваліся.

На адным з сайтаў Гэня замовіў чорны пінжак са штанамі й чорную кашулю, у Інтэрнэт-краме – чорныя красоўкі Nike.

Калі ён усё гэта апрануў наступнай раніцаю, сабраўшы ў хвост валасы й расчасаўшы бараду, ён апынуўся падобным да нейкага футурыстычнага байкера-праграміста.

Ён пастаяў зь некалькі хвілін у передпакоі... Адчыніў дзьверы й зрабіў крок вонкі ў агульны калідор, потым другі крок, ізноў запалілася аўтаматычнае сьвятло, ён убачыў дзьверы, якія вялі да ліфта й сьмецьцеправода. І раптам выбухам перад ім засьвяцілася бачаньне: брудныя лесьвіцы, запляваныя прыступкі, зашмальцаваныя парэнчы, сьмецьце, пустыя бутэлькі, голыя жанчыны, паўсюль брыдота й чалавечае скрыўленьне, паўсюль злыя людзі, паўсюль вада, паўсюль вусьціш.

Гэня пачаў цяжка дыхаць, на скронях і на ілбе выступілі вялікія кроплі поту, сэрца цяжка бухала, рукі затрэсьліся. Яму раптам захацелася як мага хутчэй зьнікнуць за зачыненымі дзьвярыма, схавацца куды-небудзь... Але ён адчыніў дзьверы. Дзённае сьвятло моцна парэзала зрэнкі. Ён заплюшчыў вочы й так зьнерухомеў.

Раптам аб ягоную нагу нешта спатыкнулся, Гэня спужаўся й паглядзеў уніз. Мілка, якая з разьбегу грымнулася аб яго, цяпер уставала на ногі. На сабаку нельга было глядзець бяз жаласьлівасьці, яна ператварылася з выдатнага цвэркшнаўцэра ў камяк напаўсівой поўсьці, ейны колер солі зь перцам зьнік, яна палысела ад недахопу сьвятла, сьвежага паветру й промняў сонца.

Калі Гэня адчыніў дзьверы, Мілка спала пад фатэлем, але раптам усхапілася, убачыла, што ейны гаспадар кудысьці накіраваўся, незвычайна апрануты, і панеслася –

спачатку да яго, але раптам сьвятло асьляпіла яе, яна паварушыла галавою, паднялася на заднія лапы, удыхнула паветра, якое пахла сьмецьцем, паветра, замкнёнае ў брудным пад’езьдзе, але для першага подыху такое прыемнае й чыстае. І Мілка, ачуняўшы, хуценька пабегла па прыступках, нязграбна й спатыкаючыся, высалапіўшы ружовы язык. Яна бегла ўніз і нібыта ўсьміхалася. Яна ўпершыню бегла да сьвятла, вонкі, на вуліцу, каб жыць бяздомнаю, але вольна дыхаючы, вольна падарожнічаючы… Жыць свабоднаю!

– Стой, Мілка! Стой! – загарлапаніў Гэня, але раптам спыніўся й зайшоўся кашлем. Ён даўно так не карыстаўся голасам, так даўно не вымаўляў слоў увогуле.

Яго цела асела долу, і дзьверы ў агульным калідоры зачыніліся, а сьвятло аўтаматычна згасла, успрыняўшы Гэню неіснуючым, бо той не варушыўся.

Гэня сядзеў у перадпакоі каля адчыненых дзьвярэй у сваю кватэру й глядзеў кудысьці ў прастору, як раптам пачаў плакаць…

– Прабач, Вітаўт, прабач мне! Не магу, не магу, не магу… – паўтараў ён, як малітву.

*Зямля*

Ян пераступіў парог кватэры Гэні й адразу натыркнуўся на зялёны раскідзісты сад. Ян ня верыў таму, што бачыў… Колькі яго ня было ў Гэні, каб так зьмянілася кватэра?

Празь некалькі сэкунд, абвыкнуўшы да таго, што бачыць, Ян нарэсьце адшукаў Гэню, які напаўляжаў на глебе ў калідоры перад маніторам кампутара, які, крыху скасабочаны, патанаў у травяной зеляніне.

– Што тут адбываецца?! Гэня! Што гэта за вар’яцтва?!

Гэня нічога не адказаў, ён рабіў выгляд, быццам ня чуе сябра.

Ян яшчэ раз аглядзеў кватэру, заўважыў слухаўку дамафона, якая вісела на провадзе-пружыне й амаль дацягвалася да самай падлогі, дакладней, да травы.

Гэня не падаваў прызнакаў жыцьця, акрамя таго, што ў яго крыху дрыжэлі пальцы.

Калі Гэня паварушыўся, Ян заўважыў, што той быццам прырос да зямлі, зь ягонага цела адусюль цягнуліся нейкія правады, карані, ніткі й зьнікалі ў зеляніне травы…

Ян кінуўся з кватэры вонкі… Яму было вусьцішна й балюча адначасова, ён мусіў нейкім чынам выратаваць сябра.

*Зямля*

Калі Ян і Інэса ўварваліся ў кватэру разам зь лекарамі, Гэні нідзе не было.

Ян быў упэўнены, што бачыў яго ў калідоры, але Інэса не дала яму веры.

У пакоі яны знайшлі кампутар, які быў у сьпячым рэжыме, і, калі Ян паварушыў мышку, манітор засьвяціўся словамі: “Game over. Your score 1385555.13 till being on-line 712 days, do you want to save another name under by score or start again to play?”

Сьвет Гэні быў зруйнаваны, пачынаць гульню наноў не было ніякага сэнсу…

## КНІЖНАЯ ГУЛЬНЯ

Пустыя завулкі, небясьпечныя ліхтары, ходнікі вымываюцца дажджом, апалая лістота цячэ ручаямі ўздоўж дарог, усё нагадвае вечнасьць і нішто нагадвае вечнасьць, адвечны колазварот жыцьця, бессэнсоўнае існаваньне стыхіі, стыхіяў, асэнсаванае жаданьне ўразумець, убачыць, пачуць, паспрабаваць, узбудзіцца пад струменямі вады, пад сонцам, невядомая нявыкрутка, дзікі юр, смага, неверагоднае пахмельле ад жыцьця, уласны досьвед ня можа далучыцца да ўсеагульнага розуму, Ктулху не дапаможа, Заратустра не дапаможа, Бог не дапаможа, чалавек не дапаможа, жывёлы ня здолеюць за цябе прайсьці праз гэты невыносны жыцьцёвы досьвед, які хутчэй за ўсё абмяжуецца стандартнымі наборамі прачытанай літаратуры, стандартнымі наборамі сацыяльных пакетаў, пакункамі з прыватных працоўных кніжак, каханьняў, заляцаньняў, уласнаручна кінутай спэрмы,

змытай ва ўнітаз, змытай зь цела ў душы, зь ейных грудзей, з твайго ўласнага чэлесу, з похвы, з твару, з вуснаў, зь языка, вачэй, з валасоў, спэрмы, якую ты кожны дзень выплёскваеш у прастору. Неверагоднае існаваньне тут, пераўзвышаючы ўсе магчымыя высілкі, жыць, змагацца, імкнуцца, выкладаючыся да немагчымых ступеняў, разумеючы, гледзячыся ў люстэрка ў ванным пакоі, што калі вены напружваюцца на скронях, значыцца, яны калісьці мусяць лопнуць, як старыя іржавыя струны, і вены калісьці выбухнуць, а твая адзіная думка, што ты больш ня зможаш трываць гэты ціск, гэтыя патокі думак, словаў, гэтыя струмені вады, складзеныя зь нейкіх абсурдных, нікому не патрэбых сказаў, але ты мусіш дачакацца канца гэтаму струменю, інакш гамон, інакш вены выбухнуць, а ты так і ня можаш пабачыць сябе ўласнага ў люстэрку такім, як быццам бы ты з заплюшчанымі вачыма… Як ты выглядаеш у люстэрку, калі стаіш перад ім з заплюшчанымі вачыма? Думаеш, пра гэта можа сьведчыць фотаздымак… не, ён пра гэта ня сьведчыць… Спакою! Жаданьне спакою! Уласнага спакою, ціхага жыцьця, бяз болю, пылу, шуму, бяз птушак, бяз сонца, без жаданьня, бяз ворагаў і сяброў, чыстае, празрыстае, экзістэнцыйнае, якое вядзе да прасьвятленьня, існаваньне, якое дапамагае праз адзіноту пачуць штосьці большае за аўтамабілі, крыкі дзяцей у двары, грукат уласнага сэрца… усё не існуе, усё існуе, і нічога ня можа быць горш за тое, каб твае думкі, падышоўшы да сэнсу існаваньня, спыніліся перад вялікай мармуровай сьцяною, якую немагчыма абысьці, пералезьці, а толькі дзяўбаць яе, няспынна, як стаханавец, ажно пакуль сэрца ня спыніцца, вены ня выбухнуць, семя апошні раз ня выцеча.

Гэты вечар быў прысьвечаны салодкаму, разнастайнаму, вясёла-дзіўнаму чытву. Усе сабраліся ў Яна, які прадставіў

усім Яніну: Вітаўту, Інэсе, Валі, Мікіту, які, як гэта звычайна водзіцца ў хворых блогераў, сфатаграфаваў яе і запосьціў у сваім блогу фотку й колькі камэнтаў наконт сёньняшняга вечару. А вечар быў дзіўны, ён расьцягваўся, як доўгі тлусты чарвяк, і мог прывесьці да суцэльнага Нішто, бо салодкае й гарбата яшчэ ніколі не давалі насалоды ані Яну, ані Вітаўту, ані Мікіту. Апошні й быў запрошаны ў якасьці пары для Інэсы, пра гэта абодва ня ведалі, але гэта ня мела значэньня, бо значэньне знойдзецца толькі калі Ян дадасьць колькі парашку ў гарбатнік… колькі парашку ў гарбатнік і будзе магчыма пачынаць гуляць у “адгадай творцу па жэстах”… гэта заўсёды як маскарад, як каляровая стужка, як тузін каляровых балёнікаў, гэта так замілоўвае й паскарае мысьленны працэс, ажно хочацца крычаць, галасіць, як старажытны чалавек, як сапраўдны неандэрталец, крычаць, спрачацца, выпендрывацца, крыўляцца, узбуджацца, цалавацца, усё дзеля гульні, усё дзеля незвычайнай гарбаты.

Інэса, аздобленая кветкамі, прыпраўленая пылком, першаю паказвала мініяцюру, яна выгіналася, растапырвала ногі й рукі, рабіла выгляд што паліць, што надзяе акуляры, ці то бінокаль, яна была як салодкая згушчонка, Мікіта, Вітаўт, Ян, усе яны глядзелі на яе й жадалі есьці, лізаць салодкую згушчонку, салодкае малако… Гэта Хантэр С. Томпсан!

Ян быў як зьнерухомленая ціхая вавёрка, але было відаць, што гэтая вавёрачка памірае ад жаданьня… Спадарыню Бавары доўга й марудна ніхто ў ім ня бачыў, ажно пакуль не дапілі ўсю магічную гарбату.

Не існуе нічога, што ня мог бы выказаць праз сваю плястыку Мікіта, ён проста стяў пасярод натоўпу галодных вачэй, адчыненых ротаў, бліскучых насоў і, закінуўшы галаву ўверх, піў, піў няспынна, як піяніст, як майстра, як мастак,

як той, хто ўсё жыцьцё толькі гэтым займаецца – мастацкім пітвом… Букоўскі!? Не! Венечка!? Так!

Вітаўт быў падобны да птушкі, да паляўнічай птушкі, да варожай птушкі, ён быў сумесьсю птушкі й ненажэрнай істоты, ён быў сумесьсю зайца й ласкі, ён быў клоўнам і д'яблам, лібэралам і саентолягам, сацыяфобам і мізагінам, ён быў жывы і мёртвы, хворы й здаровы… але толькі калі ён пачаў есьці прадметы: кнігі, лыжкі, талеркі, шклянкі, кубкі, заварнік, тэпці… усе адразу здагадаліся. Гэта Рабле! Так! Алілуя!

Валя саромелася, Валя хацела паказаць свайго пісьменьніка так, каб усе здагадаліся, а яна па-сутнасьці нічога не паказала. Валя марудзіла… Валя хавалася… Вітаўт яе падтрымліваў, але нічога не адбывалася… тады Валя на руках пачала паказваць рэчы: чэпчык, стары жаночы каптурок, жаночая сукенка з махроў, сукенка пачатку XIX стагодзьдзя, кнігі, вялікія буйныя раманы, напісаныя чарніламі, самотнаю цнатлівіцаю, старою дзеваю, раманы пра жыцьцё, каханьне, раманы аб адвечных матэрыях, жанчына, якая пісала моцна, але ня так крута, як Вірджынія Вульф, і абышлася бяз суіцыду… Ну? ХТО?! Ну! Валя ўжо губляла надзею, сябры гублялі час і Валю… ах так! Гэта ж Джэйн Остын! О! Так! Так! Мае любыя!

Усе хацелі граць, усе хацелі паказваць кагосьці, усе хацелі быць кімсьці, усе хацелі існаваць па-за сваёй рэальнасьцю, хацелі й былі, і былі яны ўсім і нічым адначасова, і былі яны Хэмінгўэямі, Мантэнямі, Вэрленамі, Глёбусамі, Караткевічамі, Бахарэвічамі, Быкавымі, Мадзільяні, Касьцюшкамі, усе яны былі калюмбамі ўласнай сьвядомасьці, былі яны гаспадарамі, уладарамі, аскепкамі свайго мінулага жыцьця, былі яны ўсім, былі яны сьветам,

і ніхто зь іх не адчуваў і ня бачыў, што сьвет прыадчыняўся гэтым разам, мармуровая сьцяна ператваралася ў звычайную крэйду, якую так лёгка скрэбці пазногцямі, ня бачылі яны, бо былі захопленыя сабою, сваім мінулым, сваім цяперашнім, сваёй гульнёю, сваімі мэтамарфозамі, сваёй магічнай гарбатай, сваімі каханьнямі й жыцьцямі, жаданьнямі, узбуджэньнямі, працамі, тэкстамі, кнігамі, фотаздымкамі, мастацкімі палотнамі, блогамі, артыкуламі, сьлінявымі пацалункамі, разьдзьмутымі думкамі пра свае пэрсоны, яны атрымлівалі асалоду.

Як хацелася б ім, каб гэты вечар быў заўсёды, каб доўжыліся кніжныя гульні, каб яны заставаліся такія самыя дзіўныя і непадобныя адно да аднаго, каб яны падарожнічалі з кватэры ў кватэру, ад сябра да сябра, бачыліся, мелі стасункі, былі шчасьлівыя… Як хацелася ім заставацца бесклапотнымі кніганошамі, людзьмі літаратуры, батанікамі слоў, гульцамі, аматарамі вясёлай гарбаты.

## ІНТЭРМЭЦЦО. ГЛЕБА

Глеба – павярхоўны пласт літасфэры Зямлі, які валодае ўрадлівасьцю й уяўляе сабой поліфункцыянальную гетэрагенную адкрытую чатырохфазную (цьвёрдая, вадкая, газападобная й жывыя арганізмы) структурную сістэму, якая ўтварылася ў выніку выветрываньня горных парод і жыцьцядзейнасьці арганізмаў. Яе разглядаюць як адмысловую прыродную мэмбрану (біягеамэмбрану), якая рэгулюе ўзаемадзеяньне паміж біясфэраю, гідрасфэраю й атмасфэраю Зямлі. Глеба функцыянуе ў залежнасьці ад клімату, рэльефу, зыходных глебаўтваральных парод, мікраарганізмаў, расьлін і жывёл (гэта значыць біёты ў цэлым), чалавечай дзейнасьці. Адкуль мы вышлі, туды мы вяртаемся, але кожнае нашае вяртаньне мы можам самастойна пазначаць у сваіх арганайзэрах ды імкнуцца да гэтага няспыннага працэсу вяртаньня, ізаляцыі, зьнікненьня, адчужэньня. Глебавы

профіль – сукупнасць генэтычна спалучаных глебавых гарызонтаў, якія няспынна мяняюцца. Глебавы гарызонт – спэцыфічны пласт глебавага профілю, які ўтварыўся ў выніку ўзьдзеяньня глебаабразуючых працэсаў. Глебавы пласт – сукупнасць глебаў, якія пакрываюць зямную паверхню. Ад самага нараджэньня мяне выгульвалі ў пясочніцы, далучалі да глебы, да зямлі, я ня проста так зачыніўся, я наблізіўся да прыроднага пачатку, я стаў тым самым чарвяком, той нерэальнай кібэрпрасторавай расьлінай, якая фотасынтэзуе электрычнасьць. Мне ніхто не патрэбны, я ня ёсьць канечным вынікам, я проста існую як факт самаго існаваньня. І такія, як я, агарафілы захопліваюць сьвет, пакрысе пачынаючы са сваіх сумленных пакойчыкаў, кватэрачак… Я любіў яшчэ маленькім выкопваць чарвякоў і суваць іх у рот… смаката… У глебе зьмяшчаецца пэўная колькасць арганічных рэчываў. У тарфяных глебах арганічныя рэчывы пераважаюць па колькасьці. У склад арганічных рэчываў глебы ўваходзяць як расьлінныя й жывёльныя рэшткі, так і асобныя хімічныя злучэньні, званыя перагноем. У складзе апошняга знаходзяцца неспэцыфічныя рэчывы: ліпіды, вугляводы, лігнін, флаваноіды, пігменты, воск, смала, якія складаюць да 10-15% усяго перагною… гумусавыя кіслоты… Гумусавыя кіслоты ня маюць пэўнай формулы й уяўляюць сабой цэлую клясу высокамалекулярных злучэньняў. І калі вы чытаеце гэтыя радкі, ваш сьлінацёк паскорыўся, бо для нас словы гумус, перагной, глеба, гэта тое, што дае ежу, што нас узрошчвае… ежа… ежа… ежа… адна мая знаёмая ела на абед глебу… дваццаць год ела, а потым адкрыўся страўнікавы крывацёк… вы ўяўляеце, чым яна срала… я таксама не асабліва ўяўляю… але пэўная карціна складаецца. Глеба можа ўтрымліваць і перапрацоўваць рэчывы, якія ў яе паступаюць рознымі мэханізмамі (мэханічнае фільтраваньне,

адсорбцыя дробных часьціц, апрацоўка нерастваральных злучэньняў, біялягічнае паглынаньне), найважнейшым з мэханізмаў зьяўляецца іённы абмен паміж глебавымі растворамі й паверхняй цьвёрдай фазы глебы. Цьвёрдая фаза за кошт сколаў крышталічнай рашоткі мінэралаў, ізаморфных замяшчэньняў, наяўнасьці карбаксільных і шэрагу іншых функцыянальных груп у складзе арганічнага рэчыва зараджана пераважна адмоўна, таму найбольш ярка бачная катыёнаабменная здольнасьць глебы. Гэта фатальная памылка, адасобіцца ад зямлі. Усё дзяцінства сярэднестатыстычнага чалавека праходзіць летам на лецішчы, на гэтым дзіўным полі, дзе дазволена давіць жукоў, рваць лебяду й зьнішчаць мурашоў… дзе можна знайсьці жабку альбо яшчарку, а дзе-нідзе вужа, і добра іх пакатаваць… Лецішча – гэта месца, дзе малыя дзеці бачаць, як каровіна сьвежае гаўно перамешваецца з вадою й паліваецца на грады з капустаю й памідорамі… а потым бацькі: ну зьеш, сынку, памідорку, капустку… а дзеці адмаўляюцца, бо гэтае гаўно ў рот ня лезе! Глеба валодае ўрадлівасьцю – зьяўляецца найбольш спрыяльным субстратам або асяродзьдзем пасяленьня для пераважнай большасьці жывых істот: мікраарганізмаў, жывёл і расьлін. Паказальна таксама, што па іх біямасе глеба (суша Зямлі) амаль у 700 разоў пераўзыходзіць акіян, хоць на долю сушы прыходзіцца менш за 1/3 зямной паверхні. Адам з глебы фармаваўся, да глебы далучыўся… Глеба. Гліна. Гной. Што там казаў Разанаў наконт глебы? Сказаў шмат, і не сказаў нічога. Але рытм… добра настроены рытм, адчуваньне паўтарэньня чагосьці звышістотнага, што нібыта чуеш, але калі кранесься, то звар’яцееш… Добра. Добра. Бадзёра. Дужа. Адмыслова. Глеба істотна ўплывае на склад і ўласьцівасьці паверхневых і падземных вод і ўсю гідрасфэру Зямлі. Фільтруючыся праз

глебавыя пласты, вада здабывае зь іх адмысловы набор хімічных элемэнтаў, характэрны для глеб вадазборных тэрыторый. Асноўныя гаспадарчыя паказчыкі вады (яе тэхналягічная й гігіенічная каштоўнасьць) вызначаюцца зьместам і суадносінамі гэтых элемэнтаў, парушэньне глебавага покрыва праяўляецца таксама ў зьмене якасьці вады. Спачатку была глеба, і была глеба паўсюль… пасьля зьявілася зямля й нарадзіла жывых стварэньняў. Новая рэлігія заўсёды была такой. Колькі б ні праходзіла год… Ёсьць тэорыя вялікага выбуху. Назву вялікага бума прыдумаў прафэсар-недарэка як нейкі жарт, сьцёб, ён ня ведаў, што вялікі выбух магчыма даказаць. Вялікі выбух даказаў геній-інвалід Гокінг. Зямля – трэцяя ад Сонца плянэта Сонечнай сістэмы, найбуйнейшая па дыямэтры, масе й шчыльнасьці сярод плянэт зямной групы. Брэдбэры пісаў пра Марс, але, здаецца, усё-ткі там нікога няма, таму мы пакуль што самыя адзіныя й самыя самотныя. Часьцей за ўсё Зямля згадваецца як Сьвет, Блакітная плянэта, часам Тэра. Адзінае вядомае чалавеку на дадзены момант цела Сонечнай сістэмы ў прыватнасьці й Сусьвету наогул, населенае жывымі істотамі. Жывымі Істотамі! Назва “Зямля” ўтварылася ад агульнаславянскага старажытнага кораня “зем-”, які азначаў “ніз”, “пол”, “зямля”. У ангельскай мове Зямля – Earth. Гэтая назва паўстала ад англа-саксонскага слова VIII стагоддзя erda, якое азначала зямлю або грунт. У старажытнаангельскай мове гэтае слова пераўтварылася ў eorthe, а затым – у erth. Як імя плянэты, Earth упершыню было выкарыстана каля 1400 года. Гэта адзіная назва плянэты, якая не была ўзятая з грэка-рымскай міталёгіі. У Зямлі больш няма заступнікаў, абаронцаў, у Зямлі ёсьць толькі арабы, якія пампуюць нафту, амэрыканцы, якія забіваюць арабаў за нафту, рускія, якія ўсё імкнуцца валодаць як мага большымі тэрыторыямі…

У Зямлі нікога няма, толькі целы, якія гніюць у ейных нэтрах, толькі кроў, якая праліваецца чырвонымі патокамі на паверхню і пад высокім ціскам фантануе чорнымі кроплямі на паверхню. Я ніколі не імкнуўся да глебы, я імкнуўся да зачыненага стану, я зачыняўся ў самім сабе, даючы перагніць сваім зерням унутры, не пасеяўшы ані семечка. Я буду тым самым пакутнікам, зь якога зьдзекуюцца, на якога паказваюць пальцам. І аніводная кніга не выратуе, аніводнае слова не падыме, аніводны гук не ўспрымецца як мае быць. Бо ёсьць адзінае выйсьце, каб не забруджваць перанаселеную плянэту, – зьнішчыць сябе павольным суіцыдам, які завецца ізаляцыяй, бо колькі можна жыць адно над адным, аб’ядаючы й засіраючы адно аднаго? Бо колькі можна?! Стандартны астранамічны знак Зямлі ўяўляе сабой крыж, акрэсьлены акружнасьцю. Гэты сымбаль выкарыстоўваўся ў розных культурах для розных мэтаў. Практычна паўсюль Зямлю абагаўлялі. Яна асацыюецца з багіняй, багіняй-маці, называецца Маці Зямля, нярэдка паказваецца як багіня ўрадлівасьці. У ацтэкаў Зямля называлася Тананцын – “наша маці”. У кітайцаў – гэта багіня Хоу-Ту, падобная да грэцкай багіні Зямлі – Геі. У скандынаўскай міталёгіі багіня Зямлі Ерд была маці Тора й дачкою Анара. У старажытнаэгіпецкай міталёгіі, у адрозьненьне ад многіх іншых культур, Зямля атаясамліваецца з мужчынам – бог Геб, а неба зь жанчынай – багіня Нут. І паглынае Зямля ў сваё распаленае чэрава чалавецтва, а яно множыцца, і множыцца, і гэты працэс бясконцы. І гэта даўно ўжо нядобра, і гэтым даўно ніхто не ганарыцца. І пляжны пясок ужо ня лашчыць лыткі, калі ты ляжыш на беразе мора, бо гэта абсурдна ды ўвогуле састарэла – шукаць выйсьця й тлумачэньня. У многіх рэлігіях існуюць легенды аб узьнікненьні Сьвету, якія апавядаюць пра стварэньне Зямлі звышнатуральным боствам ці

боствамі, але, здаецца, гэта было так: Ананій, каб не брухаціць жонку свайго памерлага брата, кончыў на глебу, якая дала парасткі ўсім паганцам, усім, хто не за тую рэлігію, за якую мы, хто б мы ні былі… У мностве антычных культур Зямля лічылася плоскай, так, у культуры Мэсапатаміі, сьвет уяўляўся ў выглядзе плоскага дыска, які плавае па паверхні акіяна. Здагадкі аб сфэрычнай форме Зямлі былі зробленыя старажытнагрэцкімі філёзафамі; такога пункту гледжаньня прытрымліваўся й Піфагор. Уявіце сабе, Піфагор – і так лічыў, дурань. А вось ёсьць паданьне, што Зямля ўтварылася як яйка, якое зьнесла вялікая птушка, і адтуль вылупілася глеба, і дала жыцьцё ўсяму астатняму. А я веру, што наша Зямля ёсьць формы фрысбі, які запусьцілі й ён яшчэ не даляцеў да наступнага гульца, але заўсёды трэба хвалявацца, каб гэты грэбаны фрысбі не пасьпеў перахапіць які дурны сабака! У 1972 годзе экіпажам "Апалёна-17" была зроблена знакамітая фатаграфія Зямлі, якая атрымала назву "Blue Marble" (Блакітны Мармур). Здымак Зямлі, зроблены ў 1990 годзе "Вояджэр-1" зь велізарнай ад яе адлегласьці, натхніў Карла Саган параўнаць плянэту з бледнай блакітнай кропкай (Pale Blue Dot). Таксама Зямля параўноўвалася зь вялікім касьмічным караблём зь сістэмай жыцьцезабесьпячэньня, якую неабходна падтрымліваць. Біясфэра Зямлі часам апісвалася як адзін вялікі арганізм, але мы ж ведаем, што Выгоцкі даўно ўжо распісаў, што там з гэтай атмасфэрай Зямлі, і глеба тут ні пры чым.

## БУДЗІЛЬНІК НАСТОЙЛІВА ТРАШЧАЎ

7:00

Будзільнік настойліва трашчаў, фосфарныя стрэлкі на фосфарных лічбах паказвалі сем раніцы, Валя дацягнулася першай і націснула на кнопку, ледзь ня скінуўшы кубак зялёнай гарбаты, пакінутай зь вечара.

Сёньня даводзіцца рана ўставаць, сёньня адкрыцьцё выставы ў Вітаўта, ён няхай яшчэ паўгадзінкі пасьпіць, а Валя за гэты час запарыць кавы, прыгатуе бутэрбродаў, кашы, нарэжа агуркоў.

Вітаўт не зьбіраўся дасыпаць, ён прачнуўся разам з Валяю і, устаўшы з ложка, лянотна пасунуўся да фіранак.

Надвор’е сёньня лагоднае, ветру няма, лёгкі іней на траве…

8:00

Вітаўт завітвае ў прыбіральню, мые вочы, чысьціць зубы, скубе пальцамі бараду – па даўжыні й форме акурат “фройдаўская”. Мые галаву, на якой месьціцца расьліннасьць зь пятнаццаць сантымэтраў даўжынёй, выціраецца ручніком, указальнымі пальцамі залазіць у вушы, смаркаецца, потым сплёўвае ў чарупіну й выходзіць, папраўляючы шэрыя майткі, на іх сьпераду праступіла колькі кропель мачы, якія не пасьпелі стрэсьціся ва ўнітаз.

Вітаўт надзявае чорную памятую кашулю, рознакаляровыя шкарпэткі, як звычайна, ня параю, потым па чарзе старыя шэрыя джынсы, карычневая вязаная кофта зь вялікімі абвіслымі ад розных рэчаў кішэнямі, з працёртымі да дзірак лакцямі, суе ногі ў ваўняныя тапачкі й выходзіць на кухню, дзе каля стала стаіць яго жонка Валя ў піжаме, тканіна якой прасьвечвае, падкрэсьліваючы маладое сэксуальнае цела…

Вітаўту падабаецца выгляда Валі, яна чымсьці аддалена нагадвае яму Вераніку, але толькі больш спакойную, лагодную… Вітаўт ведае, што Валя лепшае рашэньне, бо Вераніка непрадказальная, а мастаку хаця б у сямейным жыцьці патрэбны ўраўнаважаны чалавек, жанчына, якая будзе чулай і ня стане псаваць і так накручаную псыхіку мужчыну, які кожны дзень даходзіць да самазабойства праз катарсіс.

9:00

Гліняны кубак італійскай кавы, кавалак багету, масла, сыр, вэтчына, у талерцы – звараная на вадзе з малаком салёная аўсяная каша, парэзаны сьвежы агурок… З такога раньня звычайна гэткі сьняданак заходзіць ня цалкам, але

Валю не адвучыць, яна заўсёды будзе столькі гатаваць, бо для яе кармленьне мужа – таямніца, цалкам зьвязаная з каханьнем.

Звычайна калі Вітаўт сьнедае, а робіць ён гэта часта крыху пазьней, аб адзінаццатай, ён праглядае навіны альбо слухае клясыку, гартае якую кнігу па мастацтве альбо дачытвае што зь недачытанага, але калі на гадзіньніках яшчэ толькі дзевяць і страўнік не пасьпеў прачнуцца як мае быць, тым болей нават яшчэ кішэчнік не аблегчыўся, Вітаўт здолеў толькі адпіць паўкубка кавы й адкусіць двойчы бутэрброд, які неахайна намазаў маслам і паклаў зьверху кавалак цьвёрдага сыру, які, нягледзячы ні на што, крышыўся.

Вітаўт быў няздольны на сьняданак, бо ў дадатак да фізыялёгіі ён баяўся сёньняшняга адкрыцьця выставы, хваляваўся, як ён агучыць сваю канцэпцыю, хваляваўся за свой будучы пэрформанс, які нёс у сабе такі дзіўны дуалізм.

10:00

Мастак зачыніўся ў сваім пакоі, уключыў кампутар і, перад тым як раздрукаваць прадмову-канцэпцыю да адкрыцьця выставы, яшчэ раз перачытаў напісанае:

“Адзін зь відаў расьліны Пратэі пачынае сваё жыцьцё – дае кветкі й насеньне для працягу свайго роду – толькі згарэўшы. Усё маё мастацтва можна патлумачыць такім жа чынам, але канцэпт, які я ўкладаю ў свае працы, кожны раз нясе іншае насеньне, якое мусіць спарадзіць новыя істоты, новыя зьявы, новы погляд на прывычныя рэчы. Вагонь, неверагодная альхімічная стыхія, ён дае нам цяпло, сьмерць і жыцьцё, гэта наша пекла і наша сонечнае боства. Я адчыняю для вас сваю экспазіцыю, прысьвечаную розным момантам

у жыцьці шараговага чалавека, якія ён часта не заўважае, і даю вам магчымасьць пабачыць новы сэнс праз вагонь. І гэтыя дзесяць вялікіх карцін, якія сёньня пасьля майго невялікага прадстаўленьня, згарэўшы, адкрыюцца перад вамі, ёсьць сутнасьцю майго сьветабачаньня. Дзякуй! Я таксама ўдзячны куратарам галерэі… Удзячны гасьцям і маім нешматлікім сябрам за веру й падтрымку… Удзячны лёсу, што ўсё склалася менавіта так, а не інакш!”

Як толькі Вітаўт прамовіў словы падзякі, у цішы й напружаньні гучна зазваніў тэлефон.

– Ало? Ало? Слухаю! Ало? Што гэта?! Ізноў чыесьці зьдзекі?! Жарты?! Ало?! Ну колькі можна! Хто там дыхае ў слухаўку?!

У тэлефоне чуліся толькі цьмяныя подыхі і няўлоўныя рухі, потым было чутна як паклалі слухаўку на стары тэлефонны апарат, бо да таго, як раз’яднацца, Вітаўт пачуў характэрны звон трубкі аб апарат: “ляск, дзынь” – і цішыня. Такі лязгат ён памятае зь дзяцінства, калі скончаў гутарыць з бабуляю й тая вешала слухаўку. Бабулі ўжо даўно няма.

Гэтыя тэлефанаваньні пачаліся тры месяцы таму, і было відавочным, што хтосьці зьдзекваўся зь яго, на дзень маглі званіць да дзесяці разоў і заўсёды маўчалі, дыхалі, а потым характэрны лязгат… Званілі на хатні, званілі на мабільны. Мабільны тэлефон увогуле дзіўна сябе паводзіў, на экране зьяўляліся літары замест лічбаў, невядомыя, дзіўныя, закручаныя літары, на манэр гатычнага шрыфту, а потым замест маўчаньня – трэск, лёгкі трэск і шапаценьне і цішыня… Вітаўт спрабаваў пераразвоньваць на гэты “літарны” нумар, але, вядома, мэталічны голас апэратара паведамляў яму, што ён набраў няправільны нумар, няхай праверыць, што набраў.

Былі яшчэ зрэдку смс. Яны прыходзілі пустыя, часам магла быць літара, альбо лічба, альбо клічнік, альбо пытальнік.

Вітаўта гэта заўсёды выбівала з каляіны, ён зь дзяцінства рос занадта ўражлівы і ўсё прымаў блізка да сэрца, і калі зьвярнуць увагу на ягоную жыцьцядзейнасьць. Яму, мастаку, наканавана было быць моцным, мець жалезныя нэрвы, каб трываць зайздросьнікаў, вар’ятаў, канкурэнтаў, крытыкаў. Яму, як нікому іншаму, трэба было быць, як Ян, да ўсяго абыякавым, але ж не, ён быў цалкам падобны да сваёй маці: хваляваўся пра надвор’е, шмат нэрваў аддаваў кіраваньню машынай, хваляваўся праз галодных і хворых дзяцей у Этыёпіі, хваляваўся пра тое, як там жывуць бэнгальскія тыгры, ці ня ўсіх пастралялі. Вітаўт ад нараджэньня звышчуйны, і зразумела, што яго хтосьці хацеў выжыць, хтосьці на яго нападаў, хтосьці за ягонымі плячыма рыхтаваў вострае лязо. Ён усё гэта разумеў, але адна справа разумець, іншая – рэагаваць.

11:00

Нэрвы, нэрвы, нэрвы… і ў такі дзень! Вітаўт, як і ягоныя мастацкія рэчы, палае знутры, палае звонку, гэта цяжка й невыносна, падушачкі на пальцах быццам коляць сотні голак, левае вока нэрвова тузаецца, дрыготка, спарадычна…

Тэлефон ізноў зазваніў…

Вітаўт не падняў.

Зазваніла мабілка…

Вітаўт выключыў тэлефон.

Ізноў пазваніў хатні…

Праз колькі сэкунд зайшла Валя й паднесла яму сваю мабілку.

– Віт, тут цябе пытаецца нейкі мужчына, дзіўна, што мне пазваніў.

– Ало?!

Маўчаньне, цішыня… потым ужо знаёмы гук, гук, які проста ірве на часткі ўсе вантробы: “ляск, дзынь” і цішыня

– Валя! Хто гэта быў?

– Ды ня ведаю я!

– Як? Як пра мяне запыталіся? Гэта быў знаёмы голас?!

– Слухай, я ня ведаю, дый годзе! Ты як шалёны! Супакойся! У цябе сёньня выстава адчыняецца! Едзь у майстэрню! Ты туды зьбіраўся?!

– Я вырву сэрца таму вылюдку, які мне назвоньвае!

12:00

Вітаўт хутка сабраўся й выбег з кватэры, а празь імгненьне выскачыў, як абпалены, з пад’езду, амаль зьбіўшы з ног мужчыну, які сваімі габарытамі засланяў дзьверы. Мужчына ашчэрыўся, пачакаў, калі Вітаўт пройдзе міма, й штурхануў мастака ў сьпіну, і Вітаўт ледзь ня ўпаў на ходнік.

Вітаўт ня стаў разьбірацца, спрачацца й патрабаваць прабачэньня, ён дабег да машыны, адчыніў яе й сеў за стырно. Аддыхаўся, агледзеўся вакол… Ягоны двор быў амаль пусты… але ня цалкам, вунь там таксама нейкі мужчына, такі ж вялікі й квадратны, як той, што быў у пад’ездзе… а вунь там, каля суседняга пад’езду, таксама мужчына, і таксама вялікі, відавочна спортам ня грэбуе… У люстэрка задняга віду Вітаўт убачыў, як зь ягонага пад’езда выйшаў той самы мужчына, на якога ён наляцеў.

“Навошта выйшаў, калі толькі зайшоў, па часе ён нават не пасьпеў бы зайсьці ў кватэру, калі вяртаўся за

чымсьці, на што забыўся… Пагатоў ён тут не жыве!” Вітаўт завёў машыну, куляй вылецеў з двара на дарогу, і, нібыта ў сьне, у нейкім дзіўным трызьненьні пагнаў у сваю майстэрню.

На мабільны тэлефон ізноў прыйшла пустая смс.

Калі казаць пра людзей творчых прафэсій, якія заганяюцца па розных варяцкіх рэчах, то гэта абсалютна тычыцца Вітаўта і ня толькі яго. Мастак, які працуе ў суседняй майстэрні, Бэньямін, быў ці не ўтрая шалёнейшы й шызафрэнічнейшы за Вітаўта, Бэньямін быў сапраўдным, якасным, стоадстоткавым вар’ятам… Гэты чалавек, зрэнкі ў якога быццам плавалі ў спэрме, а бровы былі падобнымі да машонкі, і сам сабою, ад нэрваў уяўляў адзін вялікі напружаны чэлес. Здавалася, што Бэньямін ужо шмат год ня меў полавых зносін.

Бэньяміна перасьледаваў “комплекс цішыні”, ён абабіў дадатковай гукаізаляцыяй сваю майстэрню, ён хадзіў з ватаю ў вушах, ён пакутаваў на невыносныя мігрэні, ён пакутаваў ад электрычных хваляў, карыстаўся толькі сьвечкамі, маляваў алеем вялікія пульхныя палотны, маляваў свой эмацыйны стан, штосьці на мяжы агрэсіўнага й дэфармаванага, у пастэльных колерах. Для яго гукі былі чымсьці варожым, чымсьці іншаплянэтным. Завітай да яго ў госьці, чуць ціўкні – сапраўдны вэрхал ушчыняў, адразу пагражаў міліцыяй, завітай да яго ў прыбіральню й гучна пукні, адарві яго ад працы альбо спалохай сваім чыхам: усё – гамон! Вітаўт калі што й ладзіў нават у сваёй майстэрні, то бяз шоргату, гуку, подыху, а піў тут з кімсьці, як і сэксам займаўся, – ціха. Вітаўт нават сцаў ня ў цэнтар унітаза, а на ўскрайку, свае палотны зьбіваў на вуліцы і толькі маляваў унутры. Анягож, хто ж будзе дакучаць Бэньяміну альбо сварыцца зь ім, гэта цал-

кам пустая й абсурдная справа, а майстэрню губляць нікому ня хочацца.

Бэньямін, сусед ягоны, вядома, дзіўны пэрсанаж, але творчым людзям усё гэта прабачаецца, няхай хоць лайно сваё жарэ – мае на гэта права... Бэньямін быў адзіным чалавекам з атачэньня Вітаўта, зь якім ён любіў заставацца, каб паслухаць цішыню, адчуць адсутнасьць гукаў, паслухаць, як той робіць амаль нячутныя мазкі й лініі па сваіх палотнах. Вітаўт любіў акунацца з галавою ў спакой. Любіў праводзіць час з гэтым шалёным чалавекам, бо разумеў яго, а той у сваю чаргу разумеў Вітаўтава полымя як унутры, так і звонку.

І вось, даехаўшы да майстэрні, ён, чакаючы, што сусед будзе ў сябе, за працаю, і ў яго атрымаецца перавесьці дух у Бэньямінавай майстэрні, каб крыху прыйсьці ў нармальны стан, пабачыў, што Бэньямін якраз зачыняў майстэрню, апрануўты ў памятае паліто, пакамечаны шалік і зь вялікімі пукатымі навушнікамі на галаве.

13:00

Вітаўт падышоў да Бэньяміна.

– А?! Ага! – Бэньямін павярнуўся да суседа-мастака і, зьняўшы навушнікі, запытаўся: – Ну што? Якія навіны?

– Ды хацеў да цябе зайсьці, пагутарыць, мяне проста з жыцьця вырываюць усе гэтыя званкі!

– А! Ты ізноў пра гэта! Памятаеш, я табе распавядаў, як мяне перасьледавалі, як некалькі год не давалі жыцьця, яшчэ калі я вучыўся ў Мастацкай Акадэміі? Я да гэтага часу лічу, што гэта былі нейкія падасланыя ўладамі байструкі! Памятаеш, як мне ў інтэрнаце рабілі жудасныя рэчы?! Ты што?! Хочаш стаць такім жа, як я, безнайдзеным дурнем?! Хочаш, як я, усё жыцьцё хварэць на жахі?! Ты ж ведаеш, мастакоў лёгка зьвесьці, як і пісьменьнікаў і музыкаў... Іх

давесьці да ручкі – як ударыць пальцы аб пальцы! Таму шлі ўсё ведаеш куды і давай, зьбірайся зь сіламі! У цябе сёньня выстава! – Бэньямін, не разьвітаўшыся, надзеў на галаву навушнікі й пайшоў хуткаю хадою, крыху ссунуўшыся да зямлі… пайшоў у накірунку крамы, гэта дакладна… бо абед, трэба чаго выпіць і зьесьці.

Вітаўт зайшоў у сваю майстэрню, агледзеўся. Усе карціны былі даўно ў галерэі, толькі карціна для пэрформансу самотна стаяла пасярод пакоя. Вітаўт захінуў яе пледам, абматаў жгутом, па краёх зафіксаваў скотчам й аднёс у машыну.

Вітаўт вярнуўся ў майстэрню, каб упэўніцца, што нічога не забыўся, і зачыніць памяшканьне, як раптам голас за ягонай сьпінаю спужаў яго.

– Прывітаньне! Мой смачны мужчынка! Як даўно я шукала сустрэчы з табою!!! Ну што, дарагі мой, сумаваў па мне?! А? – Вераніка як звычайна зьяўлялася раптоўна й была нечакана прывабнаю.

– Вераніка, божа мой! Адчапіся ад мяне!

– А што ж гэта мне ад цябе адчапляцца, калі сам мне ў каханьні кляўся?! Га? Хто гэта ажаніўся і мне нават нічога не сказаў?!

– Я маю права распараджацца сваім жыцьцём як пажадаю!

– І што, шчасьлівы? Валя твая як, дорыць табе сапраўднае жыцьцё?! Ці, можа быць, гэтая кардонкавая баба нават ня ведае, што табе больш падабаецца падчас сэксу? – Вераніка стала на праходзе і, раставіўшы рукі ў розныя бакі, не давала мастаку выйсьці.

– Мы ўжо даўно вырашылі нашыя адносіны!

– Ня можа быць, а хто гэта пры кожным разе, як я трапляю на вашыя літаратурныя вечары, потым трахаецца са мною? Ты ці ня ты?

– Слухай, ты ж сама спакушаеш!

– А ты такі ў нас міленькі, адмовіць жанчыне ня можаш?! Скажы, кахаеш ты мяне і толькі? Бо я ведаю ня толькі твае сэксуальныя ўпадабаньні, але я здольная дарыць табе сапраўдны драйв у жыцьці! Чаму ты ад мяне бяжыш?

– Слухай, Веранік, ты мне сапраўды падабаешся, але я не магу трываць цябе, прынамсі доўгі час. Я, вядома, люблю, калі ўсё ў жыцьці калярова й неверагодна, але мне патрэбная нармальная жанчына, безь лесьбійскіх схільнасьцяў, каб без гістэрык, я хачу спакойнага жыцьця!

– Ды ты сам верыш у тое, пра што кажаш? Ты ж ажно гарыш, калі ў тваім жыцьці нічога не адбываецца, ты ж ня можаш як усе жыць звычайна, для цябе гэта ўвогуле – грэх! – Вераніка паспрабавала абняць Вітаўта, але той зрабіў крок назад і яе рукі абхапілі пустэчу.

– Слухай, у мяне сёньня няма часу на гутаркі, сёньня адчыняецца выстава…

– О! Ведаю, прыйду абавязкова!

Вітаўт спужаўся гэтага абяцаньня, толькі яму гэтага й не хапала, каб неўраўнаважаная жанчына, ад якой можна чакаць чаго заўгодна, узяла й прыйшла на адкрыцьцё выставы! Толькі б яна не перастрэлася з Валяю, толькі б яна не напілася там… толькі… толькі… толькі…

– Рабі, што хочаш, толькі не чапай мяне.

– Ведаеш што, Вітаўт, калі-небудзь настане той час, калі ты будзеш успамінаць мяне зь вялікім сумам, успамінаць тыя часы, калі я прыходзіла на літаратурныя вечары, успамінаць, як я смактала твой чэлес і паядала мандарынавыя долькі ў прыкуску, будзеш шкадаваць, што тваё жыцьцё стала пасіўным, стала звычайным, бо ты вельмі баяўся застацца са мною, абраўшы шлях найменшага супраціўленьня. – Вераніка ледзь ня плакала, і Вітаўт абняў яе, моцна абняў,

пачаў гладзіць па галаве, сьпіне, ён адчуў, як плячо вільготна пацяплела. Дзяўчына падняла галаву й моцна, балюча пацалавала яго ў ніжнюю губу.

– Ведаеш, а яшчэ калі ты мастак і так засяроджаны на агні, то мусіш разумець, што я для цябе магла б быць сапраўдным паліўным рэчывам… і я… як табе сказаць… пасую табе, кахаю цябе, і ніводная Валя ня стане тым рэчывам, той абранаю для цябе другою паловаю, як я. Паразважай пра гэта. – І Вераніка яшчэ раз пацалавала Вітаўта, каротка, адчайна, і амаль выбегла з майстэрні.

Вітаўт застаўся стаяць, агаломшаны, ён ня памятае, калі апошні раз бачыў Вераніку, але яна ніколі не зьнікала з ягонай галавы, яна заўсёды прысутнічала як прывід, як лёгкі пах парфумы, і вось цяпер яна зьявілася ў гэтай прасторы, імгненна, незвычайна, як заўжды рэзкая, знэрваваная, жаданая, самаахвярная. І адкуль толькі яна пра ўсё даведваецца, адкуль зьбірае пра яго столькі падрабязнай інфармацыі?

Вітаўт дастаў з кішэні ключы, зачыніў майстэрню, сеў у аўто і набраў Яна.

14:00

Зь сябрам ён сустрэўся акурат а другой у кавярні “Лёндан”. Вітаўт замовіў сабе зялёную кітайскую гарбату, ён быў усё яшчэ на нэрвах, пасьля гарбаты яму прынеслі сырную булку й сэндвіч з шынкай. Ян сядзеў насупраць і піў каву з шарлоткаю.

– Сёньня бачыўся зь Веранікаю, дакладней, яна раптоўна завітала ў майстэрню.

– Я нават баюся ўявіць, што там, у майстэрні, адбывалася… што, ізноў быў апантаны гарачы сэкс?

– Не, не было нічога, яна плакала, я амаль таксама, абняліся… Ведаеш, мне ў той момант адчайна захацелася быць толькі зь ёю, але я потым успомніў свае часы жыцьця зь ёю… я ж ні хвіліны не працаваў, яна забірала ад мяне ўсе сілы, яна штодзённа ў мяне скрадала час, мае думкі, маё мастацтва, яна гістэрыла, мянялася ў настроі амаль кожную хвіліну… Я хацеў бы быць зь ёю, і адначасова – не. Я ня раб, і мне не патрэбная гаспадыня, але бывае находзіць штосьці, і на Валю мне ня хочацца нават глядзець, і хочацца, каб яна не была больш такою мілаю й прывабнаю, а ўзяла й, напрыклад, згвалціла мяне, ня ведаю, каб села зьверху, дастала мой чэлес… ну разумееш…

– Віт, разумею, я ўсё даўно й добра разумею наконт цябе й тваіх каханьняў… Ты, як і большасьць мастакоў, – кідаешся ў скрайнасьці, бо мы, творцы, занадта тонка адчуваем гэтую рэальнасьць, якая нас зусім не задавальняе, і ня ведаем, што рабіць з гэтым, і замяняем сурагатамі ўсё, што магчыма замяніць, але гэта нас ні да чаго не набліжае, толькі дадае штучнасьці ў жыцьцёвы працэс, часовую эйфарыю, якая за сабою прыводзіць скруху…

– Ох, Ян, што ж рабіць… Што рабіць?

– Вазьмі адпачынак і засядзь дзе-небудзь у адзіноце, але толькі не ў майстэрні, там ты з суседам сап’ешся… Вазьмі й зьедзь на сялібу, на стыпэндыю, ня ведаю, атрымай мастацкі грант і бяз жонкі паспрабуй пачуць свой уласны голас…

– Так, напэўна гэта будзе самае тое…

– А то ж! – Ян усьміхнуўся.

– Слухай, мне здаецца, што мяне пільнуюць, за мною сочаць, я сёньня бачыў трох ці чатырох жлабоў у сваім двары!

– Ты ізноў за сваё! Памятаеш, як у мяне быў нэрвовы зрыў і ты яшчэ да мяне езьдзіў у Навінкі? Памятаеш, што

я тады шмат увагі аддаваў разгляданьню ценяў, лежачы ўначы ў ложку? Гэта ўсё праз тое, чым ты таксама займаесься, толькі я пішу, а ты малюеш… вось уся розьніца… Цяпер я сплю толькі з уключаным сьвятлом… Ніякія “Навінкі” не выратуюць ад сваёй уласнай галавы!

– Напэўна… Я вось што вырашыў, я ўсёткі сасьпеў на той пэрформанс, пра які табе распавядаў…

– Што?! Сёньня яго й пакажаш? Не баісься? Тут табе вунь і так тэлефоны абрываюць, хочаш па-сапраўднаму заляцець?

– Ян, калі ня я, то хто?! Калі ня мы, то хто?! Га? Хто?! Вунь той падлетак, што ідзе па вуліцы?! Ты сапраўды думаеш, што лепей той падлетак? Ты паглядзі на яго – павярхоўны напаўадукаваны ёлупень, які падстрыгся пад кайзэра й вывучыў колькі прозьвішчаў з аўтарскага кіно й набыў сабе стары стужкавы фотаздымач? Ён гэта зробіць? Альбо вунь тая бабулька? Альбо вунь тое дзяўчо, якое, напэўна, толькі паступіла ў вну і, ты думаеш, яна ўжо марыць пра гэта?! У ейнай галаве добра, калі затрымліваюцца часткі лекцыяў… а калі яна напрыклад ужо ўступіла ў бэрсэм?! Га?! – Вітаўт чырванеў, напружваўся… Ян маўчаў, ён толькі глядзеў празь сябра кудысьці ў вакно й думаў… - Толькі я! І я – толькі! Чуеш? Бо я ведаю, што змагу, бо я веру, што змагу, бо я хачу гэта зрабіць.

– Можа быць, ты й маеш рацыю… Мне б тваю адвагу, сябра.

– Так, я вось як думаю, на адкрыцьцё прыедзе шмат розных СМІ, я падпалю карціну… і калі яна прагарыць дастаткова, я яе абалью вадою, і з-пад згарэлай фарбы мусіць праступіць асноўны канцэпт, – Вітаўт ізноў распавядаў Яну працэс пэрформанса, робячы паўзы, адпіваючы гарбату, жуючы сырную булку. – Гэта будзе акцыя-пэрформанс. Не хвалюйся, усё будзе добра!

– Я ня думаю, што на цябе ўвогуле зьвернуць увагу, але калі ты прамовіш нейкі граматны тэкст, нейкую прамову, думаю, што гэта будзе мець большую вагу, тым болей, што трэба ўлічваць: сёньня ж сьвята ў горадзе, і ты сапраўды можаш патрапіць на тэлебачаньне… э-э-э ня ведаю… але мне здаецца, лепей бы ты займаўся мастацтвам і ня лез у іншыя справы, якія ад творчасьці стаяць у супрацьлеглым баку.

Два маладыя мужчыны сядзелі й гутарылі, кавярня была запоўненая на чвэрць, за суседнім столікам сядзелі афіцыянтка й гаспадар кавярні, палілі. Яна цыгарэту “Ўінстан”, ён – люльку з тытунём “Вірджынія”. Здавалася, што толькі ў гэтай кавярні засталася яшчэ выспа цішыні, шчасьця, нясьпешнасьці, пакою, любові, выспа жыцьця дзеля жыцьця вольнага, лёгкага, салодкага…

Два маладыя мужчыны сядзелі і гутарылі да чатырох гадзін, пакуль Вітаўту не надышоў час пасьпяшацца дамоў і адтуль ужо на таксоўцы выяжджаць з карцінаю для пэрформанса.

16:00

Пакуль Вітаўт сьпяшаўся дамоў, мабільны тэлефон яшчэ двойчы званіў і, калі ізноў прыйшла смс, ён прыпаркаваў машыну, выйшаў каля свайго пад’езда й ляснуў тэлефон аб ходнік. Тэлефон разьляцеўся на некалькі аскепкаў, як расколаты яблык.

## КНІЖНЫ СЮРРЭАЛІЗМ

Пасярод пакоя стаяў звычайны круглы стары стол, ножкі якога разыходзіліся ў розныя бакі, хісталіся й відавочна не жадалі трымаць накрыўку зьверху, але ўсе сядзелі за ім і рабілі выгляд, што нічога навокал іх не турбуе. Сёньня гульня мусіць зайсьці далёка, вельмі далёка. Сёньня вечар містыкі, вечар мерцьвякоў і кніг, вечар аднаго пісьменьніка, пра якога ня трэба нічога казаць, якога не абмяркоўваюць, якога ня трэба адгадваць альбо цытаваць. Сёньня ноч малітвы, ноч паўстаньня з таго сьвету, сёньня ўсе будуць есьці раманы, сёньня ўсе будуць піць зь літаратурнай крыніцы, а потым усе будуць трымацца за рукі і клікаць аўтара ў гэты напаўскасабочаны пакой. Сёньня будзе шаманства, і сёньня адчыняцца брамы зямныя, і адчыняцца брамы нябесныя, і адчыняцца брамы пекла, і прыйдзе пасланьнік духа, і прыйдзе адказ на пытаньне.

Усе сядзелі насупраць адно аднаго, стол ледзь зьмяшчаў іх целы, вакол палалі сьцены, са столі капала вада, пад нагамі былі россыпы зямлі, па-над галовамі лунаў вецер, разьдзьмуваючы ў паветры кветкавы пылок і дым, раскідваючы насеньне й попел. Начны пакой асьвятляўся толькі трымценьнем, толькі знутры, дзе яшчэ жылі сьветлыя ліхтарыкі жыцьця й веры, ліхтарыкі, якія цікавіліся жыцьцём.

Побач зь Мікітам сядзеў Ян, побач зь Янам сядзела Яніна, побач зь Янінаю сядзеў Вітаўт, побач зь Вітаўтам сядзела Валя, побач з Валяю сядзеў Гэня, побач з Гэняю сядзела Інэса, побач зь Інэсаю сядзеў Мікіта, побач зь Мікітам – Ян… Яны ўсе трымаліся за рукі, усе яны былі адначасова тут і там, ва ўсіх месцах адначасова, ва ўсіх кватэрах запар, ва ўсіх пакоях, за ўсімі магчымымі сталамі. Трэба было выклікаць душу памерлага пісьменьніка, тэрмінова, пакуль яшчэ магчыма гэта рабіць усё кампаніяй, пакуль яшчэ ўсе жывыя, пакуль ёсьць яшчэ моц і сэнс.

Нагрувашчваньне ведаў падштурхоўвае да самагубства альбо да жаданьня ведаць яшчэ болей.

Пужала неверагодная пастка Нішто, неверагоднае жаданьне ўсё ведаць, усё кантраляваць, бачыць несуцяшальны хаос жыцьця, не знаходзіць адказаў нават у самых старых кнігах, аплеценых скураю жывёл, у самых старых кнігах з гатычнымі літарамі, зь сьмярдзючымі спарахнелымі старонкамі. Назапашваць кнігі дзеля таго, каб даведацца, што пісьменьнікі самі нічога ня ведалі, пісалі Ні Пра Што. Дзеля мастацтва? Дзеля сюжэта? Дзеля чытача? Дзеля чаго?! Падзяляючы гэты сьвет на белае й чорнае, на праўду й няпраўду, на сьвятую інквізыцыю й сьвятых паганцаў, варта было зазірнуць у супрацьлеглую рэальнасьць…

Як быццам бы сотні стаяў рыбін, насіліся вакол погляды й думкі, нібыта цяжкія тоны глебы, абрываліся думкі,

нібыта тысячы кніжных старонак гарэлі ў адначасьсе; быццам бы мільёны калосьсяў ад ветру – схіляліся іх целы, ад скрушных думак, ад марных высілак штосьці зразумець, штосьці адшукаць, штосьці, штосьці, штосьці.

Ноч навальвалася васьміногам, забірала моц сядзець да самай раніцы, ноч спрабавала сваімі шчупальцамі разьяднаць кампанію шалёных сяброў і каханкаў, разьяднаць іх рукі, зьлепленыя ў адно вялікае месіва-цеста, разьяднаць іх сэрцы й целы, якія, як плястылін, зьмешваліся ў рознакаляровую масу. І цяпер ёсьць толькі адзін рух – наперад, ёсьць адзіная задача, пакінутая на гэтым стале, ёсьць адзіная гульня, у якую яны яшчэ не згулялі.

Абразы, вобразы абнадзейваюць, адмяжоўваюць, абмяжоўваюць, абразаюць аб’ёмы сьвядомасьці, надзяляюць розум гнуткасьцю, абцяжарваюць сваімі асэнсаваньнямі, праводзячы праз шалёныя пакуты, радасьці жыцьця, дадаючы байкавых баек у сэнс існаваньня.

Давай! Выходзь сюды, сядай, ганебны дух аўтара, літаратара, пісьменьніка, “сьпісовацеля”, назіральніка, валацугі, ёлупня, пакажы нам, як трэба жыць, распавядзі пра кругі пекла, пра прыступкі рая, можа быць, тады нам стане лягчэй, можа быць, тады мы пачнем залечваць нашыя гнойныя раны, можа быць, акрыяем. Але ці сапраўды нам патрэбнае гэтае акрыяньне, лячэньне? А калі ўсё наадварот? Можа быць, на Плютоне жывуць такія ж, як і мы, змарнелыя, спатнелыя, стомленыя кніганошы, жыцьцяплюі, фатографымастакі, пісьменьнікі-алькаголікі, чытачы й бадзёрыя сацыяфобы, людзі зь якасьцямі маньякаў, чалавекі без патрэбных грамадскіх стаўленьняў, мізантропы й маргіналы, мукамолы й маленькія чалавечкі, здольныя на мімікрыю, здольныя на буйную мімікрыю сьцярвятнікаў, празаікаў, дзіўных навэлістаў, якім ніколі не прысудзяць нічога, акрамя занядбанай памяці.

Прыйдзі да нас… мовілі людзі за сталом, трымаліся за рукі… Прыйдзі да нас… О! Асанна ўвышніх! І Сьвяты зь сьвятых! Мовілі мімікрычныя лялькі, мовілі неіснуючыя чалавечкі, якім хацелася адказаў. Хацелася ведаў, але яны мелі ў сваіх далонях толькі назапашаны пот, толькі пах цыбулі й часныку, толькі пыхлівыя пысы, толькі пухнатыя падбародзьдзі, толькі надзею ў вачох і рэфрэн на вуснах…

І тут вагонь на сьценах суціх, вада са столі перастала быць дажджом, зямля пад нагамі затрымала подых, паветра вызвалілася ад ветру… Пакой напоўніўся спакоем, і голас голасна прамовіў:

– Хто тут мяне зваў? Хто клікаў?! Хто хацеў са мною бачыцца?! Хто патурбаваў мяне?!

– Мы, о знатны аўтар! Мы, о вялікі паперапісвальшчык! Мы, о найбуйнейшы літаратурны зьмій! Мы звалі цябе! Купка абнадзееных рамантыкаў. Хворых жывёлак. Мы ёсьць вялікае пытаньне да цябе, знатнейшы!

І сябры растварыліся ў Зэфіры, распусьціліся пад цёплым фэнам, які падзьмуў на іх з горных вяршыняў Алімпу, які адкрыўся перад імі, як вялікая пашча рыбы, і паглынуў іх, і яны пабачылі адказ на сваё пытаньне, і яны зразумелі ўсё, што хацелі зразумець, як маленькія мяккія губкі ўвабралі ў сябе ўсё, што для іх адкрылася празь вялікага Навэліста… і яны вярнуліся, і апынулся паред круглым старым драўляным сталом, на якім сьвечкі ўжо даўно дагарэлі, а кнігі пакрыліся пылам… і ніхто зь іх нічога ня памятаў, акрамя ўласных імёнаў.

## ІНТЭРМЭЦЦО. АГОНЬ

Агонь – боская энэргія, ачышчэньне, адкрыцьцё, ператварэньне, адраджэньне, духоўны парыў, спакуса, славалюбства, натхненьне, сэксуальны запал, моцны актыўны элемэнт, які сымбалізуе як ствральныя, так і разбуральныя сілы. Графічна агонь у алхіміі малюецца ў выглядзе трохкутніка, так як лічыцца субстанцыяй, якая аб'ядноўвае тры астатнія стыхіі: зямлю, ваду й паветра. Зь дзяцінства агонь прываблівае мяне, яшчэ да таго, як я ўвогуле асэнсаваў сябе мастаком, вагонь быў са мною як чыстая мэтафара, як тая самая корневая алюзія ў творчасьці Дэвіда Лінча, вагонь ішоў за мною, ён быў маім спадарожнікам. А пачалося ўсё зь лецішча, дзе я, бегаючы ў адных майтках, падстаўляючы свае белыя дзіцячыя плечы летняму сонцу, зьбіраў каларадзкіх жукоў і паліў іх праз павелічальнае шкло... а частку кідаў у бляшанку з-пад шпротаў і потым у вагонь, і

назіраў, як гэтыя сьмешныя рознакаляровыя казюркі курчацца, пішчаць, скуголяць… згараюць. Дваістае пачуцьцё – шанаваньня й страху – ляжыць у аснове старажытных рытуалаў пашаны агню. У старажытных і прымітыўных культурах агню пакланяліся як самому Богу, а пазьней – як сымбалю чароўнай сілы. Старажытныя лічылі агонь жывой істотай, якая сілкуецца, расьце, памірае, а затым нараджаецца ізноў – прыкметы, якія дазваляюць выказаць здагадку, што агонь – зямное ўвасабленне сонца, таму ён шмат у чым падзяляў яго сымболіку. Дзякуючы той ролі, якую агонь граў у жыцьці людзей, у большасьці міталягічных традыцый ён лічыўся вынікам чароўнай дзейнасьці. Таму гэтак часта сустракаюцца легенды аб выкраданьні агню ў нябесных багоў героямі, такімі як Прамэтэй ці, напрыклад, новазэляндскі мітычны герой Маўі. А што, возьмем, напрыклад, некалькі сьвечак, запалім іх, і вось вагонь дае нам розныя пляны на тое, як прабавіць час… капаць воскам на скуру й геніталіі, назіраць, як плавіцца воск і сьцякае на стол, альбо, падсьвечваючы сабе цемру, рабіць цікавыя фотаздымкі… не, лепей вагнём спаліць дашчэнту ўсё, пакуль ня зьявіцца папялішча й ніякіх канцэптаў не паўстане, акрамя як адчуваньня татальнай безвыходнасьці… бо попел – гэта мы, але пакуль жывыя, яшчэ ня маем сваю скрыню на паліцы. У антычным сьвеце, дзе з агнём былі зьвязаныя багі з добрай рэпутацыяй, такія як Гэфэст, у тых традыцыях, дзе агонь не зьяўляўся прадметам прамога пакланеньня, ён усё ж граў важную ролю як магутны сымбаль Божай Зьявы, у хрысціянстве агонь лічыцца ўвасабленьнем Сьвятога Духа. Яна гарэла ў ягоных руках… дастаткова было толькі лёгкіх крананьняў да смочак, і яна стагнала, доўга так, працяжна, высока, і варушыла нагамі, рассоўваючы ў бакі плед і маленькія пухнатыя падушкі, а ён усё трымаўся, сьціснуўшы

сківіцы, трымаўся, пасьля такога палямынага пацалунка, які цягнуўся з гадзіну… Ён кончыў у штаны, яму патрэбны быў час, каб сабрацца на другі заход… а яна ўжо больш не хацела, каб ён марудзіў, жарсьць зьядала яе, яна гарэла невялічкім полымем, яна адчувала, што канчае, і адчайна цёрлася прамежкам аб ягоную руку, пакуль ён усё ніяк не мог разлучыцца зь ейнымі грудзямі. У культуры індзейцаў Паўночнай Амэрыкі вагонь шанаваўся як праява Вялікага Духа, яны лічылі вогнішча сымбалем шчасьця й дабрабыту, а сонца называлі Вялікім Агнём. У будызме вогнены слуп – адзін з сымбаляў Буды, а сьвятло вагню – мэтафара мудрасьці. У містычнай традыцыі агонь часта сымбалізуе саюз з Богам, далікатнасьць чалавечага існаваньня, завяршэньне ўсяго існага. Сьвятло агню апаляе твары аматараў паходу, яны дайшлі да месца з трохгадзіннай затрымкай, спачатку заблукалі, потым разабраліся з мапамі й нарэсьце апошнімі дабраліся да свайго лягера, дзе стаяла ўжо каля паўсотні намётаў. Вагонь, ягонае сьвятло танчыла на іхных тварах, іх было шэсьць, тры пары, і кожная пара разьлічвала на інтым, і гэта нармальна. Галоўнае, больш ня будзе дурных абменаў партнёрамі, усё, хопіць, а пакуль што ёсьць вагонь, глядзім на полымя, атрымліваем апошнюю ў гэтым леце жнівеньскую асалоду ад цяпла, далей будзе толькі горш. Гасподзь Бог твой ёсьць агонь, што пажырае. У індусаў агонь – трансцэндэнтнае сьвятло й веды, жыцьцёвая энэргія мудрасьці. Агонь ідэнтыфікуецца зь сіламі разбурэньня, вызваленьня й аднаўленьня, ён паслухмяны Шыве. Полымя, якое ўздымае калёну дыма ведычнага бога агню Агні, увасабляе вось сьвету. Будучы агнём, Агні зьвязаны з маланкаю, якая прыносіць дождж. Полымя малюецца з залатымі зубамі Агні, гострым языком і калматымі валасамі; ён скача на сонечным алені, трымае сякеру, веер і кавальскія мяхі;

народжаны ад дрэва. На ведычным вогненным алтары запальваюцца тры агні – на Поўдні, на Усходзе й на Захадзе. Распальваньне агню – гэта прайграваньне акта тварэньня, інтэграцыі й яднаньня праз ахвярапрынашэньне. Кальцо полымя вакол Шывы ўвасабляе касьмічны цыкл стварэньня й разбурэньня. Агонь як полымя жыцьця – гэта Крышна: “Я агонь, зьмешчаны ў целах ўсіх, хто жыве” (Бхагавад-Гіта). У іранскай міталёгіі агонь быў Сьвятым Цэнтрам пэрсідзкага храма, месцам боства й Божага Святла ў душы чалавека. У зараастрызме насеньне чалавека й быка маюць крыніцай агонь, а не ваду. У ісламе агонь і полымя – гэта сьвятло й сьпякота, боства й апраметная. У піфагарэйцаў агонь асацыюецца з Тэтраэдрам, паколькі зьяўляецца першым элемэнтам, а Тэтраэдр – першай фігурай у геамэтрыі. У шумэрасэміцкай міталёгіі Мардук быў богам агню. Уключаем канал Нэшнл Джэагрэфік і глядзім перадачу пра індусаў, якія на берагох сваіх рэк паляць нябожчыкаў, а потым рэшткі сплаўляюць па рацэ, дзе, на адлегласьці некалькіх мэтраў, недапаленыя рэшткі чалавечых целаў перахопліваюць шаманы й ядуць, гэтым самым яны аднаюцца з духамі, з Прыродаю... Ім мала пакланеньня каровам, ім падавай чалавечыну, якую не пасьпеў забраць агонь, сьвяты ненажэрны д’ябал. Можа быць, гэтая канібальская традыцыя існуе праз голад? Вы можаце стварыць круг ці проста пагрузіцца ў транс. Галоўнае, каб прысутнічала пачуцьцё камфорту й спакою. Вы ўдыхаеце праз нос, выдыхаеце праз рот. Разам з выдыхам вас пакідаюць усе трывогі дня, усе праблемы й клопаты. Правядзіце зазямленьне. Не сьпяшаючыся, спакойна запаліце сьвечку. Уся вашая воля сканцэнтравана на язычку полымя сьвечкі. Няхай сьвятло й цяпло Агню напоўняць вас. Разглядайце Агонь, дазвольце яму ўліцца ў вас, а ён дазволіць вам пракрасьціся ў яго. Няма больш

“плоці”, вы й ёсьць Агонь, вы – полымя. Вы цяпер, як і я, усе пагатоў кашпіроўскія… Усе мае дзеці! Нішто, ніякія сілы Прыроды, ніякія моцы багоў ня здольныя супрацьстаяць такой зьяве ў чалавечым асяродзьдзі, як “тушыць вагонь па-піянэрску”. Іх было пяцёра, ужо дарослыя дзеці, усім па трынаццаць-чатырнаццаць. Увесь вечар елі й пілі, елі вэнджаных вугроў, пілі разьліўное піва з трохлітровых і літровых слоікаў, пілі шмат, грэліся ад вогнішча, разьмясьціцілся недалёка ад Нарачы, у сасновым лесе. Усе цалаваліся, дакладна дзьве пары, пятым быў чыйсьці малодшы брат, якому было дазволена толькі піць і курыць, і той даўно ўжо, ціхенька пparticles паванітаваўшы, зьнерухомлена спаў пад дрэвам. Так, раніца, раса навокал, агонь нават ня думае суцяшацца. Ну што?! Будзьма тушыць па-піянэрску! Вымавіў хлопец, дастаў свой дзетародны шланзік і пачаў гучна бруліць на полымя, да яго далучыўся другі хлопец, а дзяўчыны бессарамліва прысеўшы на кукішкі й задраўшы на сьпіны спадніцы пачалі сікаць, абпальваючы свае румяныя прыгожыя попкі. Вынік – абпаленыя азадкі. Полымя не было цалкам патушана, пакуль чыйсьці малодшы брат, прачнуўшыся й пабачыўшы дзіўную на ягоны адзінаццацігадовы ўзрост карціну, ня ўстаў і не засыпаў агонь пяском, якога паўсюль на бліжэйшым пляжы было багата. Геракліт казаў: “Са сьмерці зямлі нараджаецца паветра, са сьмерці паветра – агонь”. Усё ўзаемазьвязана, асабліва стыхіі, якія, як і купкі людзей, становячыся сябрамі й каханкамі, зьвязваюцца разам, каб утвараць новыя альхімічныя элемэнты. Менавіта таму паветра ўцякае ад агню, а агонь, дзеля таго, каб жыць, даганяе паветра. Хараша сказаў… Годна. Твае карункавыя вочкі, твая тлусьценькая ўсьмешка, твае брудныя кіпцюрыкі, гэтыя незвычайныя падзеньні й узьлёты, нашыя з табою пацалункі, са смакам анучы, якою так любіла вахцёрка біць вучняў у школе, тых

самых вучняў, якія сыпаліся са школьнага ўваходу, а іх закідвалі старшаклясьнікі жоўтымі сьняжкамі, як было цудоўна, як было весела, і саграваліт тады толькі палымяныя цыгарэты, танныя настойкі і палаючыя рыжскія бальзамы, якія скрадаліся ў сваіх дзядоў і бацькоў. Было б выдатна ізноў, з галавою, у гэтыя пякельныя клясы, у гэтыя палаючыя залі, дзе месца не было для расчараваньня альбо для спачуваньня, былі толькі яны й іхныя ірваныя калготы, запальнічкі й гнойныя прышчы. Вазьмі гэтыя часы ізноў! На, бяры! На гадзіну, на дзень, на суткі, але ня болей. Бо далей будзе ўжо ня так, і ня тое, і ня з тымі. Але цяпер ты можаш мяне выратаваць, галоўнае проста не давай мне гарэць, адчайна гарэць у гэтым грэбаным пэрформансе, не давай мне з галавою паглыбіцца туды, адкуль ужо не будзе паратунку і ніякія вогнетушыцелі ня будуць здольныя зьбіць полымя, якое будзе распальвацца праз скразьняк з адчыненай форткі. Ані парашковы, ані вадзяны, ані сухі, ані волкі, ані брыдкі, ані чырвоны, ані зялёны, ані пухнаты й нават ня цьвёрды вагнетушыцель. Ніякі! Геракліт тлумачыў натуральным чынам такія прыродныя зьявы, як вецер, маланкі, гром, зарніцы. У ягоным разуменьні агонь, з аднаго боку, падобны да прамаці ў прадстаўнікоў Мілецкай школы, зьяўляецца першаасновай сьвету Архэ і асноўным элемэнтам – стойхэйрон. Зь іншага боку, агонь зьяўляецца для яго найбольш адэкватным сымбалем дынамікі разьвіцьця, паступовасьці пастаянных зьменаў. Мы ў жыцьці шмат разоў запальвалі сьвечкі ў цэрквах, удыхалі ладан, верылі, што агонь выратуе, ён асьвеціць нашыя малітвы Богу. І гэта някепскае выйсьце для тых, хто яшчэ не абцяжараны гэтым жыцьцём і ведамі, якія забіваюць усялякую ірацыянальную веру, усялякі іншы погляд на жыцьцё акрамя як на рэч, якая занадта лягічная, непрыемная й прапалітычная, і нічога болей, ані каліва веры, сьвятой, сьля-

пой і надзейная. Цэнтральным матывам вучэньня Гэракліта быў прынцып “усё цячэ”. Пастаянны ход развіцьця ён параўноўваў зь цячэньнем ракі, у якую нельга ўвайсьці двойчы. Разнастайнасьць праяваў існуючага сьвету тлумачыў зьменамі, якія адбываюцца ў зыходнай “прамаці”. Што там можа быць, што там, у тым самым сьвеце. Толькі саляманды, жукі-пажарнікі й мы, і яшчэ палаючыя кусты. Ніколі не давай веры таму, хто прамаўляе праз палаючы куст, бо гэта можа быць усяго толькі Бог, які ізноў хоча панадаваць табе лішняй працы, зь якою ты ня здолееш справіцца, і табе застанецца толькі ісьці ў царкву, і паліць сьвечы, і маліцца. І палаць: ад грахоў, ад пекла, ад жаданьня, ад узбуджэньня, палаць адвечным вагнём. Гарэць выяваю Прамэтэя, бо няма нічога больш горшага, як палаць, ня маючы пад рукою ніякай вільгаці, ніякага кубка вады. Толькі полымя. Тут і цяпер. Жыцьцядайны агонь ці Сьвятое Сьвятло – агонь, які выносіцца з Труны Гасподняй на асаблівым набажэнстве, якое зьдзяйсняецца штогод у Вялікую суботу, напярэдадні праваслаўнага Вялікадня ў храме Ўваскрэсеньня Хрыстова ў Ерусаліме. Вынас сымбалізуе выйсьце з Труны ўваскрослага Ісуса Хрыста. Многія вернікі лічаць, што Жыцьцядайны агонь зьяўляецца звышнатуральным чынам, але мы з вамі ведаем праўду, сьвятую праўду.

## ПЯЦЬ

Вечар. Пасьля пахаваньня не было застольля: Валя, Ян, Яніна, Інэса й Мікіта вырашылі з могілак паехаць у бар выпіць. Месцам пітва інтуітыўна абралі кавярню “Лёндан”. Занялі дыван, фатэлі й стол на другім паверсе, селі, маўчаць, толькі Мікіта набірае ў сваім блёгу артыкул пра мастака, распавядае пра яго жыцьцё, пра яго творчасьць, астатнія пьюць прынесеную з сабою пляшку каньяку. Валя ціхенька плача. Інэса, немаведама навошта, прынесла з сабою фотаапарат Кэнан, яна яго ўзяла па-звычцы, праца такая. Інэса кашляе, напаўняючы навакольле пахам кветак і пыльцою. Ян панура глядзіць у гарбатную вадкасьць. Яніна салідарная зь Янам. Цішыня. Чутна толькі, як бегаюць пальцы Мікіты па клявіятуры й як зрэдзьчас кашляе Інэса, і толькі фонам зь першага паверху ліецца самотны чыл-аўт.

Яны нагадваюць цені, да людзей ім яшчэ далёка. Нічога не адбываецца. Ніхто нават не абмяркоўвае сьмерць, пахаваньне, жыцьцё Вітаўта, ніхто не ўспамінае пра Гэню, ніхто, нічога, нікому, ні пра што на сьвеце, ніколі ў жыцьці, ні на каліва, бо ёсьць так, як ёсьць.

Кожны з прысутных мае сваё, уласнае разуменьне абставінаў. Ян мне ў руках шкляны кубак з каньяком, той здаецца плястылінам. Вочы Яна часам блішчаць, як у рыбы, Інэса дастае з-пад пазногцяў парасткі травы, яе скура набыла бела-ружовы колер. Валя паядае сурвэтку. Мікіта, скончыўшы ляпаць па клявішах, зачыніў ноўтбук і, адпіўшы з бутэлькі, заўважыў на паліцы шахматы, дастаў іх, раставіў фігуркі й пачаў іх перасоўваць, чакаючы, што хтосьці захоча прыняць удзел у гульні. Шахматы пад яго рукамі рухаюцца марудна, здаецца, што яны жывыя, і перад тым, як да іх кранаецца Мікіта, яны самі пасоўваюцца. Вакол усё непазнавальнае, самотна-сумнае, шахматы не цікавяць, ніякія гульні ня вабяць, нават кніжныя.

Валя здолела распавесьці толькі пра тое, што ён быў увесь вечар вясёлы, мабільнага ў яго не было, ён яго на днях ляснуў аб ходнік, яшчэ да выставы. Таму на лецішча ён ніякай сувязі ня браў, ён увогуле вырашыў пазбавіцца любых сучасных гаджэтаў. Хацеў колькі дзён падыхаць сьвежым паветрам, папаліць касьцёр, пагатаваць барбэкю. Выпіць.

Больш Валя ні пра што ня здольная была распавядаць, ні пра якія начныя драмы, яна ўпарта маўчала ад самага раньня, толькі ціхенька абцірала вільготныя вочы.

І ўвесь гэты нацюрморт з жывых людзей у кавярні пачаў ператварацца.

Вакол задрыжэлі сьцены, зь іх пачалі падаць карціны, з паліцаў паляцелі кнігі, прызначаныя для бук-кросінгу, са стала паляцелі на падлогу кілішкі, Інэса толькі пасьпела схапіць фотаапарат, шахматы разьляцеліся па стале, усё вакол заварушылася, быццам жывое, быццам гэта была не кавярня, а містычны Шторхаўз з апавяданьня Жана Рэя. Варушэньне, падобнае да жыцьця, яны падхапіліся з канапы й фатэляў, але на нагах было цяжка ўтрымацца. Раптам выбухнула шкло акурат за сьпінамі Яна й Яніны з Валяю... і ўсе пабачылі, што на горад апусьцілася чорная ноч, асьветленая шэрымі сылюэтамі людзей, якія, ідучы няспынным патокам, як рака, цяклі ў адным накірунку, засланіўшы сваімі целамі дарогу для машын.

“Што гэта?” – чулася ў галовах кожнага зь сяброў, якія глядзелі праз выбітае шкло на вуліцу.

“Што гэта?” – чыталася ў вачах кожнага, хто зараз выходзіў на ходнік са сваіх кватэр і пакояў, крамаў і бараў, у якіх пачалі варушыцца сьцены.

“Што гэта?” – пыталіся суседзі ў суседзяў, наведнікі ў наведнікаў, пакупнікі ў пакупнікоў, прадавачкі ў прадавачак, касыркі ў касырак, раварысты ў раварыстаў, мінакі ў мінакоў.

У адказ усе чулі адзіны гук, мернае паўтарэньне аднаго слова: “ганьба... ганьба... ганьба...”

Натоўп накіроўваўся на Цэнтральную Плошчу, гэта было відавочным.

Сябры выбеглі на вуліцу, за сэкунду прамінуўшы завітую спружынай лесьвіцу, якая вяла на першы паверх кавярні. Як толькі яны ўсе выбеглі вонкі, іх зь неверагоднай хуткасьцю падхапіў агульны паток людзей. Гук – адзінае са-

мотнае слова, гэты вусьцішны рэфрэн напружана ўзвышаўся да скандаваньня, да крыку, да марша, да заклікаў.

Хутка, вельмі хутка сябры аказаліся на Плошчы. І хутка, вельмі хутка апынуліся аточанымі чорнымі мужчынамі, але гэтым разам ніхто не заклікаў мірна скончыць справу. Ніхто.

Ян, Яніна, Інэса, Валя й Мікіта трымаліся адно за аднаго, і ў кожнага ў галаве пульсавалі адны і тыя ж словы, адны і ты я ж сказы, адно і тое ж разуменьне, асэнсаваньне:

– Калі б разам з намі быў Гэня, ён бы ўжо даўно тут усіх закідаў камянямі!

І раптам у натоўп чорных мужчын з усіх бакоў паляцелі камяні.

– Калі б тут быў Вітаўт, ён бы прыдумаў што-небудзь з вагнём!

І з усіх бакоў паляцелі падпаленыя кактэлі Молатава. Усе пабеглі наперад, да ланцугоў чорных мужчын, якія ўжо відавочна ня так добра трымалі сваю сьценку, свой неразрыўны саюз, свой фашыстоўскі зьвяз, свае гнілыя меркаваньні, сваю хворую веру, свае шалёныя перакананьні, свае стаўленьні да культуры, свае дзеяньні – генацыд мовы, свабоды, культуры.

Усё вакол пачало ператварацца, варушыцца, эвалюцыянаваць, і гэтага ніхто ня мог спыніць, і працэс стаўся незваротным, ён нёс невядомае, і невядомае бачылася ўсім раз’юшаным, але лёгкім.

## ФІНАЛ. СЬВЯТЛО ЯК ТЭКСТ

Літары, гэтыя маленечкія пацеркі сьвятла, якія складаюцца ў словы й сказы, якія ў сваю чаргу пачынаюць асьвятляць прастору, рэчы, робяць бачным наваколье.

Літары, гэтыя маленечкія каштоўныя каменьчыкі, абрынуліся вясёлкавым дажджом на гэты Сьвет.

І Сьвет ужо ня ёсьць Хаос, ня ёсьць цьмянай постмадэрновай чуйнасьцю.

Нашае сьвядомае выяўляецца тэкстам, мы здымаем усе свае аўтарскія маскі й застаемся самі па сабе, аголеныя, з шырока расплюшчанымі вачыма, з раскрытымі грудзьмі.

Мы прамаўляем словы, якія, зьлятаючы зь языка, далучаюцца ў вар’яцкім танцы да сьвятла слоў, да сьвятла тэкстаў, і вось мы ўжо ня ёсьць самотнымі, мы ўжо частка аднаго вялікага мэтатэксту, мы інтэртэкстуальнасьць жыцьця, мэтафара Сьвету, чуйны Космас.

Літары, гэтыя маленечкія гузікі з нашых кашуляў, яны апранулі нас у інтэлігентнае адзеньне і зашпілілі яго да самага падбародзьдзя.

І вось сьвятлоператварылася ў тэкст.

В. – М. – В.
2010 – 2013

## ЗЬМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

Аляксандар І. БАЦКЕЛЬ

**МІМІКРЫЯ**
***Дасьледаваньне чатырох стыхій***
***на прыкладзе чатырох летуценьнікаў***

Раман

**Рэдактар:** Ліда Наліўка
**Карэктар:** Марыя Паўлоўская
**Вёрстка:** Віталь Латыш
**Дызайн вокладкі:** Васіліса Паляніна-Календа

**Ліставаньне з аўтарам:** mimikriabel@gmail.com